

Сярод рукапісаў, што прысылалі ў часопіс «Полымя» аўтары з так званай перыферыі, увагу прыцягнулі невялікія памерам апавяданні Васіля Гігевіча. Яны вабілі сваёй эмацыянальнасцю, творчым неспакоем.

У адказ на пісьмо з рэдакцыі аўтар сам прыехаў у Мінск.

Ім аказаўся малады чалавек 1947 года нараджэння. Па адукацыі фізік — скончыў Харкаўскі універсітэт імя А. М. Горкага ў 1969 годзе. Працуе інжынерам на шклозаводзе імя Дзяржынскага ў Барысаве.

Часопіс надрукаваў першае апавяданне маладога аўтара. А далей

# ДОМА

Прыходзяць дні, калі ходзіш на зямлі, здзіўляючыся з сябе,— нейкі ціхі і як бы аглушаны. Той свет, у якім жывеш — размовы, спрэчкі, пачуцці,— адыходзіць, адплывае ўбок, застаюцца ўспаміны. Напружваеш памяць і, успамінаючы, здзіўляешся — даўно мінулае і ўсё, што звязана з ім, ужо ніколі не вернецца...

Калі са мною так бывае, я разумею, што настаў час з'ездзіць дадому.

...Сыходзіш з аўтобуса на шэрую ад пылу траву — пастой крыху, абтрасіся і правядзі вачыма машыну, што, прысядаючы, гойдаючыся, павалачэ за сабою доўгі і шырокі хвост пылу, які вецер паступова пацягне ўбок, праз поле да сіняга лесу.

Пачуеш цішыню. Будзе ціха-ціха. Цёплы тугі вецер нечакана наляціць, абдыме ўсяго ад галавы да пят і падштурхне на тую вузкую сцяжыну, што павядзе да сяла. Тады ступай. Міма Дома культуры, які пабудавалі на месцы старога разбуранага ў вайну нямецкага бункера. Там ты гуляў у хованкі.

Адчыніш весніцы, усё яшчэ не верачы, што прыехаў, пачнеш уваходзіць у двор з дзіўным адчуваннем — нешта павінна здарыцца. Але нічога незвычайнага не будзе — перавернута карыта пасярод двара, непарэзаныя дровы ляжаць ля сцяны хаты, той вецер, што вёў цябе дамоў, ганяе па пяску шматок сена. Падыдзеш да дзвярэй хаты — замкнёна.

Шукаць ключ не трэба. Пацягнеш замок, дужка адыдзе — уваходзь.

У хаце не прыбрана і не падмецена — спяшалася, відаць, маці, пазнілася: доўгія даматканыя палавікі пакамячыліся, на стале накрытыя ручніком міскі з ядою.

Тады сядзь на ўслон, адпачні.

І зноў пачуеш цішыню. Той вецер, што прывёў, просіцца ў хату: звініць шыбіна і рыпіць аканіца — рып-рып, рып-рып...

Як і год, як і дзесяць год назад! Будзеш слухаць гэтае рыпенне, як далёкую музыку, а пасля падумаеш, што сёння вецер нагоніць змену надвор'я.

Успомняцца тыя галасы і твары, той шум і лямант — усё, што хвалявала і балела калісьці, здасца далёкім-далёкім, як вясною першыя буслы ў небе. Яны з'яўляліся звычайна пасля абеду, доўга кружылі ў бяздоннай сіні, і думалася, калі глядзеў на тыя дзве кропкі, як могуць яны з такой вышыні разгледзець гэты невялічкі двор, гэту старую ліпіну.

Нечакана сцісне ў грудзях і забаліць. І аб нечым новым звініць шыбіна, і ўторыць ёй аканіца.

Падыдзеш да акна, глянеш праз шыбу ў двор. Убачыш зусім не тое, што першы раз... І будзеш стаяць, урастаючы ў цішыню і вечнасць, што пачынаюць засмоктваць, як позні восеньскі туман: густа і шчыльна.

Нібы ў сне падставіш да шафы крэсла і дастанеш з верху шафы запылены альбом са здымкамі. Паднясеш яго да стала, разгорнеш. Перакладваючы па аднаму здымкі, будзеш доўга і пільна глядзець на іх, разглядваць, быццам вось-вось убачыш тое, па што ехаў. А пасля, праз гадзіну-паўтары, спытаеш сябе, здзіўлены:

— Ці гэта ўсё было, ці будзе?

І раптам схамянешся, аж мароз па скуры пой-

дзе — не, не будзе, ніколі не будзе! І як доказ — здымкі роднага чалавека, што паклаў асобна, якія хочаш забраць з сабою. Разгублены, быццам цябе, як малога, упершыню ашукалі дый яшчэ і пасмяяліся, у вочы гледзячы, падумаеш пра лёс свой...

І зноў станеш хадзіць ля акон, ля стала, ля грубкі — захочацца ўсё памацаць.

Пасля выйдзеш у двор і накіруешся ў садок — паглядзіш на яблыні, на грады, на бульбоўнік, потым вернешся ў двор і зловіш сябе на тым, што шукаеш нешта ці некага, магчыма сябе, таго, з напаўраскрытым ротам, з бліскучым на штанах гузікам, які прышыла маці ад вайсковага бацькавага пінжака.

А тады, так і не паабедаўшы, станеш паліць лазню. Будзе рыпець калаўрот. Будзе ліцца вада з вядра ў драўляную дзежку бліскучай вужакай... І агонь, як нешта жывое, перабягаючы з палена на палена, будзе адбівацца, свяціцца ў вачах тваіх, якія хутка напоўняцца слязьмі. Гэта ўсё ад дыму, ад горкага дыму...

Зачараваны, будзеш сядзець на парозе лазні і глядзець на яблыні — станеш на дзіва ціхі і спакойны, бо тая цішыня, што акружала, нарэшце авалодала табою, ты зліўся з ёю і болей не супраціўляешся.

Убяжыць у двор маці. Спачатку спалохаецца, угледзеўшы дым над лазняй, а тады застыне на імгненне. І вось гэты міг, калі яна яшчэ не смяецца, а спуд прайшоў, гэта адно кароткае імгненне, у якім зліліся і яе бяссонныя ночы, і боль за цябе, і чаканне, прымушае сагнуць перад ёю галаву і праглынуць той пякучы камяк...

...Памыўшыся, будзеш ісці да хаты паўраспранугы, цёплы вецер будзе абвейваць, у цемені будзе шумець нябачная ліпа, зор не будзе відно, але воблакі ўбачыш: шэрыя, са светлымі мазкамі, быццам хтосьці збіраецца маляваць карціну на небе і спрабуе фарбы.

І калі ўсяго пройме мяккі ліпеньскі вецер, калі ўспомніш другія вечары — малы, у бацькавых валёнках, якія натыкнуў на босыя ногі, праз замёты карэпкаешся дадому з лазні, а над галавою блішчаць блішчыкамі зоры, чыста і лёгка табе, здаецца, адштурхніся ад зямлі туды, да зор...— тады і адчуеш тое, па што ехаў.

Яшчэ наперадзе ноч, будзе стагнаць у сне маці, за сцяною будзе шоргаць вецер, як хто рукамі мацае ў сене, а ты будзеш ляжаць у ложку здзіўлены і ўсхваляваны, і ў грудзях будзе нешта шчымець і шчымець.

# ЗВЫЧАЙНЫ ДЗЕНЬ

## 1

Сяргею захацелася пабыць там, дзе калісьці разам з бацькам і калгаснікамі кідаў стагі. Было гэта даўно, вучыўся ён тады ў восьмым ці дзевятым класе, касіць нароўні з мужчынамі не мог, а зграбаць у валы сена, падносіць з такім жа падлеткам да стажар'я на доўгіх і гладкіх насілках пудовыя капешкі — навука няхітрая. Тады і ўзяў яго з сабою бацька. Без прывычкі балелі рукі, пяклі абгарэлыя на сонцы плечы, белыя спякотныя дні здаваліся доўгія-доўгія, аж па месяцу. І яшчэ калолася сухая пахучая трава, калі надвячоркам «круцілі» ў копы валы.

Сяргей і не думаў у той час, што так запомняцца тыя двое сутак, якія правёў на беразе ракі: начавалі людзі ў буданах, зробленых на скорую руку з лазовага вецця і накрытых зверху сенам. Рыпенне драча, белы месяц сярод шэрых светлаватых воблакаў, камарыны піск, глухі плёск соннай рыбы ў вадзе пад самым берагам, чырвоныя галавешкі, вакол якіх сядзяць мужчыны з чырвонымі ад агню тварамі і са смехам расказваюць свае прыгоды — быццам гэта і не яны стагналі ад болю і голаду, абараняючы сваё і чужое жыццё,— полымя то ўзвіваецца ўгору, то ападае, сцелецца ля самай зямлі. Усё гэта прыйшло да Сяргея праз гады, і цяпер ён неяк па-новаму думаў пра тыя дні.

Бацька будзіў Сяргея яшчэ на світанні, гадзіны ў чатыры, яны асцярожна вылазілі з будана і, стараючыся не зачапіць мокрую ад расы траву, вузкімі рыбацкімі сцежкамі хадзілі ля берага. Падымалася з туману чырвонае сонца, бялеючы, яно сляпіла вочы, адбівалася ад паверхні ціхай гладкай вады. І ад гэтага колкага, яркага, але яшчэ не гарачага сонца, ад сівога туману, што клубіўся над лагчынамі і над вадою,— быццам бы Сяргей з бацькам выпадкова трапілі ў іншы свет: ціхі, дымны і бязлюдны. І адтаго, што побач быў бацька, што мог Сяргей злавіць рыбіну, якая недзе там, у глыбі, пад тоўстым пластом вады, кратае плаўнікамі, станавілася лёгка і светла.

Рыбак з Сяргея быў няўдалы, ён нічога і не злавіў, такі ён быў з маленства: дзе была патрэба ў дужых мужчынскіх руках, клікаць Сяргея не варта.

Нечакана гэтыя два дні сталі настолькі блізкімі, што здавалася часам, быццам нічога цікавага ў Сяргеевым жыцці і не было, акрамя тых двух дзён. Некаторы час Сяргей яшчэ вагаўся, думаючы, што ўсё пройдзе, але потым рашыў ехаць. Ён так і сказаў жонцы ў пятніцу вечарам, калі вярнуўся з інстытута:

— На рыбу заўтра паеду.

— Ту-у на цябе,— развяла жонка рукамі, здзіўляцца яна магла і ўмела,— ты ж не лавіў яе ніколі.

— Лавіў.— Сяргей сядзеў на крэсле перад жонкай, нібы вінаваты вучань перад настаўніцай. Гледзячы на падлогу, ён усміхнуўся аднымі вуснамі, а пасля дадаў: — У магазіне вуды купіць трэба.

У магазіне ў спартыўным аддзеле таўкліся людзі ля вітрыны, дзе пад тоўстым шклом ляжалі донкі, блішчалі рознакаляровыя блёсны, кручкі ў праз-

рыстых цэлафанавых пакецiках, вялiкiя i маленькiя, як угледзець, белая, скручаная ў маткi, жылка. Побач з вiтрынаю ля сцяны стаялi вудоўi: бамбукавыя — складныя з трох частак i кароткiя, як iх называлi, «дубцы», пластмасавыя — тонкiя i гнуткiя, тут жа былi i спiнiнгi. Людзi бралi ў рукi вудоўi, узмахвалi iмi, быццам зараз жа, у магазiне, збiралiся лавiць рыбу.

— Я во такiм,— гаварыў Сяргею вёрткi, загарэлы да чарнаты стары, якi па-гаспадарску аглядваў «дубец», што трымаў у руках,— ляшча кiлаграмы на чатыры выцягнуў. Яго толькi падсячы, а тады ўжо не спяшы, выводзь яго, галубчыка...

Сяргей купiў два вудоўi: адно складное бамбукавае, а другое кароткае, «дубец»,— гэта ён зрабiў па парадзе старога.

Дома на балконе Сяргей дацямна сядзеў ля вудоўяў, прывязваючы да iх жылкi, уладкоўваючыся, каб дарогай было зручней ехаць. Дарогу Сяргей уяўляў прыблiзна, бо нi разу пасля ён не ездзiў туды, да ракi. З аўтавакзала аўтобусам збiраўся ехаць да моста — гэта вёрст за сорак ад горада,— на мосце сысцi i ўжо ля берага шукаць...

Кладучыся спаць, Сяргей думаў, што адразу не засне, але заснуў скора, як у яму забурыўся.

## 2

Дзень абяцаўся быць ясны i гарачы. У прыўзнятым настроi, вясёлы, Сяргей выбраўся з дому. Апрануўся ён лёгка: сандалеты на босых нагах, пацёртыя тэхасы ды кашуля. У партфель жонка паклала абед, загорнуты ў газету.

Па дарозе на адным супынку ў аўтобус заскочыў мужчына, убачыў знаёмую:

— А-а-ай, здароў, гэта ўжо колькi не бачылiся...

— Здароў. Ну, як жывеш, як твая Волька?

— Няма Волькі, памерла.

— Па хваробе, ці так?..

— Так... Усе мы так... Такі ўжо наш лёс: адны жывуць, а другія паміраюць.

І гэтыя словы: «Такі ўжо наш лёс...» — на якія ў іншы раз Сяргей і не звярнуў бы ўвагі, зараз кранулі, успомніў, як кожны вечар пытае ў жонкі наконт лістоў. І хоць Сяргей добра ведае, што лісты наўрад ці будуць — калі якія дзелавы, той пойдзе на інстытуцкі адрас,— але заўсёды пытае. Ліст, які можа быць толькі ад бацькоў жонкі, а асабіста Сяргею пісаць некаму. Год пяць назад прыходзілі да яго кароценькія лісты ад бацькоў, што прасілі прыехаць, і ён калі адпісваў, а калі забываў — і без таго хапала клопатаў: заканчваў кандыдацкую.

Бацька захварэў і памёр нечакана, а следам, тыдні праз два, не стала і маці — не вытрымала адзіноты. Пасля Сяргей думаў, што ўжо колькі часу прайшло, а ён не можа забыць бацьку і маці, быццам яны пайшлі далёка ў госці і ніяк не вернуцца, а павінны.

Хату бацькоў Сяргей тады адразу прадаў, а грошы паклаў на кніжку. Пасля, калі прадаў хату, разы са тры ездзіў у вёску, а потым даў сабе зарок больш туды не паказвацца.

У касе Сяргей узяў білет і, перайшоўшы на процілеглы бок аўтаплошчы, уладкаваўся ля плота: палажыў на зямлю вудоўі і паставіў побач партфель.

Да адпраўкі аўтобуса заставалася з паўгадзіны, людзей на плошчы было мнагавата.

— Што, таксама рыбку лавіць? — Да яго падышлі двое з пукамі вудоўяў у руках, апранутыя ў фуфайкі, у гумавых ботах, з рэчмяшкамі за плячы-

ма. Па ўсім відаць, гэта былі майстры сваёй справы, ехалі яны на суткі-двое з начлегам.

— Ды вось, паспрабуем...— Сяргей чамусьці сумеўся, з некаторага часу ён губляўся пры размове з людзьмі пэўнага кола. Было гэта не таму, што Сяргей лічыў сябе ў думках лепшым за гэтых людзей.

Там, дзе працаваў Сяргей, ён быў упэўнены ў сваіх паводзінах і думках, добра ведаў, што да яго слоў прыслухоўваюцца, з яго меркаваннямі лічацца, але калі здаралася яму быць сярод другіх людзей, дзе патрабуецца не тое, што ўмеў Сяргей, ён адчуваў сябе няёмка. Здавалася б, тут нічога дзіўнага і крыўднага няма, цяпер час такі: адзін умее рабіць адно, а другі другое,— і ўсё ж Сяргею было няёмка. Касіць, араць, спраўляцца з тапаром Сяргей так і не навучыўся: у школе кніжкі, потым інстытут, гарадская прапіска.

— Рыбка плавае па дну...— з невядомым Сяргею намёкам, робячы націск на слове «дну», працягваў усё той жа рыбак, які першым звярнуўся да Сяргея. Ён быў чырвоны што бурак, Сяргей так і не разумеў, такім чалавек гэты быў заўсёды ці крыху выпіў... Другі рыбак нечакана ляпнуў першага далонню па плячы:

— А мазь-то мы забыліся, вароны...

— Ну, тады я ў аптэку палячу,— з лёгкасцю знайшоў выйсце першы рыбак. Ён палажыў ля Сяргея рэчмяшок і вудоўі і «паляцеў».

— А я таксама мазь не ўзяў,— чамусьці надумаў пахваліцца Сяргей.

— Ну-у, гэта ты дарэмна, загрызуць камары, яны цяпер ад'еліся на нас, во такія...— развёў перад сабой рукі чалавек з сур'ёзным тварам.

Потым нечакана ўсміхнуўся, паглядзеў на Сяргея, як на малое дзіця:

— У першы раз, мусіць?

— Першы.— Сяргей памаўчаў, а пасля дадаў: — Тады, відаць, і я збегаю.

— Збегай,— сказаў рыбак.

## 3

Машына спынілася, калі праехалі мост. Прабіраючыся праз людзей да выхада, Сяргей рассыпаў скрутак вудоўяў — парваліся ці развязаліся завязкі. Як назло, адзін з кручкоў зачапіўся за жакет нейкай дзеўчынёхі. У гэты спякотны дзень ёй абавязкова трэба было апрануць чырвоны жакет і такога ж колеру штаны. Сяргей паспрабаваў на хаду адчапіць кручок — не выйшла. На яго сталі азірацца, пабуркваць, толькі дзеўчынёха, нічога не заўважаючы, пільна глядзела праз акно на раку. Раззлаваны на сваю няскладнасць, Сяргей ірвануў жылку — дзеўчынёха так і павезла дадому ў вёску крывы кручок у модным жакеце.

Следам за Сяргеем вылез спакойны, даўнавата няголены стары. Сяргей, як і стары, паглядзеў услед аўтобусу, а потым яны пайшлі назад праз мост — за мостам, у баку ад дарогі, віднелася вёска, і стары, відаць, накіроўваўся туды. Як бы даўно Сяргей тут ні быў, але цяпер, убачыўшы мост, раку, шырокі, на колькі вокам ахапіць, заліўны луг, на якім раслі кучкамі кусты — звычайна яны пачыналі разрастацца са старых пакінутых стажар'яў,— ён успомніў, на якім беразе начавалі, у які бок патрэбна ісці.

— Што, таксама рыбу лавіць? — амаль тыя ж, знаёмыя ўжо, словы пачуў Сяргей.

— Паспрабуем,— не ведаючы, што казаць, Сяргей замяўся.

— Наўрад ці будзе браць... Дажджы зараз ідуць, з грымотамі і маланкамі, баіцца рыба, пахавалася...

— А ці ёсць хоць што?

— Ёсцека, але не тое што раней. Адкуль яна будзе, калі і асталася якая, дык бязвокая — павысцёбвалі... Кожны божы дзень і з вудамі, і з донкамі, і са спінінгамі, ля берагоў ужо дарогі скора будуць. Вунь стаяць...— З моста віднелася ля кустоў белая «Волга», з яе чуваць была музыка, побач ля дымнага цяпла круціўся мужчына, другі сядзеў на беразе ля вуд. Крыху далей, у кустах, бачылася нешта ярка-стракатае — адтуль чуліся жаночыя галасы.— Ды каб такія ўсе — не страшна было б, адпачыць людзям трэба і хочацца... Але ж многія едуць цяпер як на зáрабаткі: па дзесяць вуд, каб дазволілі, усю б яе адным махам выграблі, да мелюзгі. Адкуль у людзей такая сквапнасць?..— Старога здзіўляла не сама сквапнасць, а адкуль яна бярэцца, вытокі яе.

За мостам развіталіся: стары паклыпаў да вёскі, а Сяргей спусціўся з высокага насыпу шукаць чарвякоў пад мостам.

— Як улоў? — спытаў ён у мужчыны, калі, не знайшоўшы нічога пад каменнямі, падышоў да цяпла.

— А-а, няма нічога, во, і на юшку няма, за кансервы прыняліся,— мужчына цёр далонню вочы, якія, відаць, зайшліся ад дыму.

— А ёсць жа яна, ёсць, сядзіць недзе,— са злосцю другі рыбак плюнуў у раку, потым павярнуўся да Сяргея: — З учарашняга і хаця б на юшку — ну, што тут скажаш...

— Можа, чарвякі ёсць лішнія?

— Ды вунь у бляшанцы, вазьмі. Мы зараз і паедзем, толькі час марна патрацілі.— Мужчына, які

цёр далонню вочы, кіўнуў на бляшанку з-пад кансерваў.

Сенакос яшчэ не пачынаўся, і Сяргей думаў, што тыдні праз два тут павінна стаць шумна і людна. Ля берагоў з'явяцца буданы, нібы вёскі ў мініяцюры, задымяцца раніцамі вогнішчы, на якіх у вялізных катлах будзе варыцца смачнае, за вушы не адцягнуць, сняданне,— а мо цяпер усё па-іншаму? Хапае машын і сенакасілак, кожны можа дома выспацца і паснедаць...

Ён ішоў сцежкаю ля берага, глядзеў на траву, якую расчэсваў негарачы слабы ветрык, на кусты, лісце якіх глуха і роўна шумела, і нечакана адчуў, што нечага не хапае. Потым успомніў — не хапала мітусні, гулу машын і гоману. Горад здаўся далёкім-далёкім, быццам Сяргей ехаў сюды не гадзіну, а тыдзень. Над ракой лёталі, кугікалі кнігаўкі, і іх крык яшчэ больш заспакойваў.

Рака пятляла, рабіла кругі, і Сяргей, памятаючы, што да таго месца, дзе калісьці быў з бацькам, вярсты са дзве, надумаў пайсці наўскасяк праз луг, балазе быў след машын, якія хадзілі тут у сухія гады. Хутка стала пад нагамі макрэць. Сяргей разуўся, засунуў сандалеты ў партфель, але вада ўсё большала, усё больш грузлі ногі — давялося закасаць штаны. Калі падыходзіў пад бераг, нечакана стаў грузнуць так, што мусіў хапіцца за асаку, якая расла на куп'ях. Сяргей азірнуўся — мо вярнуцца? Але наперадзе, праз сотню метраў, пачынаўся бераг. Ён пастаяў, не ведаючы, што рабіць.

Без ніякай злосці, быццам так і трэба, ён пацюхаў праз гразь да берага, замачваючы і штаны, і кашулю.

...І ўсё ж ён пазнаў тое памятнае месца. Рака тут рэзка павярнулася, цёмная вада хадзіла кругамі. На сярэдзіне круціліся віры. Ля берага між

кустоў заставаўся пятачок голай утоптанай зямлі — вада ў гэтым месцы была ціхай і цёмнай.

«Глядзі ты — пазнаў»,— аж здзівіўся Сяргей. Толькі цяпер усё стала меншым і прасцейшым: і рака памялела, і кусты быццам парадзелі. Бераг у некаторых месцах размыла, былі бачны раўчукі, якіх раней не было.

Як толькі Сяргей зайшоў у кусты, адразу ж аднекуль наляцелі камары — тады ён вымазаўся едкай вадкасцю, што купіў у аптэцы. Камары віліся роем, але на цела больш не садзіліся. Сяргей доўга складаў вудоўі, прыладжваў новы кручок і, нарэшце, насадзіўшы чарвякоў, закінуў абедзве вудачкі.

— Пазнаў усё ж,— сказаў сабе Сяргей, але асаблівага ўзбуджэння не адчуваў. Нешта знікла. Усё было амаль такім жа, і ўсё ж чагосьці не хапала. І Сяргей прыглядаўся, шукаючы тое, прапаўшае, але так нічога і не знайшоў.

Пасля Сяргей думаў, што, відаць, жыве неяк не так, бо няма той радасці, таемнасці і захаплення, якія былі калісьці. Ужо каторы год ён плануе загадзя, чаго дасягне праз пэўны час, але ўсё гэта — як прэснае есці. А гады праходзяць, можа, калі б ён застаўся тады ля старых бацькоў, тыя і зараз бы жывыя былі, а можа, і не...

Здавалася б, таго ён і дасяг. Жонка была ціхая і ласкавая, яна адразу, са знаёмства, дала зразумець, што бачыць у Сяргею чалавека больш разумнага і лепшага за сябе. Дзяцей у іх не было. Работа ў Сяргея была спакойная — ён мала каму падпарадкоўваўся і яму мала хто.

Сяргей любіў сваю работу, яна цікавіла яго так, што ён увесь рабочы дзень ні пра што іншае не думаў, акрамя работы. Гэта было як ап'яненне ці каханне — Сяргей не мог дагэтуль глянуць на сябе вачыма староннага чалавека, ён увесь, да канца

быў заняты работаю. І калі выходзіў з інстытута, калі аставаўся свабодным, у ім узнікала пачуццё непатрэбнасці і нягоднасці. Таму ён зноў і зноў кідаўся ў работу, імкнучыся знайсці ў ёй поўны спакой і задаволенасць. І хоць Сяргей добра ведаў, што сваёй работай прынясе людзям палёгку, не цяпер, дык пасля, тым, якія будуць жыць пасля яго, але такая думка задаволіць яго не магла хаця б таму, што акрамя работы ў жыцці было нешта іншае: адносіны з людзьмі, знаёмымі і незнаёмымі. І калі лічыць, што работа для Сяргея галоўнае, то што рабіць з успамінамі, пачуццямі? І хто пакажа меру між адным і другім, хто?..

## 4

Было ўжо за поўдзень, але рыба не бралася. Некалькі разоў Сяргей мяняў чарвякоў на кручках, пляваў на іх, як вучыў яго бацька, але ўсё было без толку. Гадзін ля чатырох, калі збіраўся абедаць, хутка і нечакана паплавок кіўнуўся, знік і ўсплыў на паверхню вады, а потым стралою пайшоў да дна. Сяргей ірвануў вудзільна ўгору.

Трапілася нешта вялізнае, праз вудзільна чуліся глухія моцныя ўдары, Сяргей адразу ж забыўся на парады рыбакоў — цягнуў угору і на сябе вудзільна так, што тое гнулася дугою. Серабрыстая рыбіна адарвалася ад вады з шумам і плёскам, бы хто пранікам па вадзе ляснуў. Прамільгнуўшы ў паветры, яна сарвалася з кручка і плёхнула на нізкі бераг. У нейкім ап'яненні і хваляванні Сяргей, кінуўшы ўбок вуду, схапіў дрыжачымі рукамі рыбіну, але яна тут жа вyслізнула і зноў стала біцца ў траве, перавальваючыся з боку на бок і набліжаючыся да вады.

«Як чуе яна гэтую раку...» — мільганула думка. Схапіўшы з травы другі раз рыбіну, Сяргей моцна сціснуў яе аберуч. І тады пачуў, як, супраціўляючыся, ірвецца яна на волю — штуршкі яе адзываліся недзе ў Сяргеевых грудзях ударамі, моцнымі і пругкімі, бы ток праз рукі праходзіў. Нейкае імгненне Сяргей і рыбіна былі як адно цэлае. Нечакана ў рыбіне нешта хруснула, і яна абмякла. Разам з гэтым хрустам нешта хруснула, зламалася ў Сяргеевых грудзях.

Тады адразу прайшло хваляванне. Сяргею бы хто нечакана па твары ўдарыў, ён нават разгубіўся, калі адчуў у сваіх руках перадсмяротны рывок другога таемнага, незнаёмага жыцця. Дагэтуль неяк не верылася, што ўсё так проста... Як апёкшыся, ён кінуў рыбіну ў траву.

Адчуваючы ў нечым сваю віну, ён глядзеў на яе доўга-доўга. Нежывая рыбіна была вялікая, з кілаграм, калі не болей.

Сяргей пахадзіў ля берага і, прыгрэты сонцам, нечакана заснуў проста на траве. Прысніўся хлопчык: сядзіць у хаце ля акна і праз шкло глядзіць на бялюткі снег. Хлопчыку хочацца есці.

Потым у хляве чуецца стрэл і віск, крыху пазней адтуль выходзіць бацька са стрэльбаю ў руках, заходзіць у хату, мые над цэбрам рукі і кажа: «Ну, во, цяпер і есці будзе што».

**5**

Прачнуўся Сяргей ад грому і ветру — збіралася на навальніцу. Высока над зямлёй з-за ракі вецер нёс хмары, што з кожнаю хвілінай большалі і цямнелі.

«Перачакаю»,— падумаў Сяргей.

Вецер сціх нечакана, і зашапацеў дробны-дроб-

ны, як мак, дождж. Тады ў Сяргея заныла ў грудзях. Ён сядзеў пад кустом, глядзеў на шурпатую ад дажджу ваду і ўсё ўспамінаў, калі апошні час мок пад такім дажджом.

І зноў, як нічога і не было, выплыла з-за хмар сонца, заблішчала мокрая трава, запарыла, прыляцелі птушкі, стала верхаводзіць рыба, бы хто на ваду сыпаў падкормку.

...На яшчэ светлым небе ўжо свяціў месяц, празрысты і лёгкі. Калі Сяргей падыходзіў да моста, убачыў, што ідзе аўтобус да горада.

«Не паспею»,— падумаў без хвалявання. Але нечакана з другога боку насыпу выскачылі двое і замахалі рукамі. Аўтобус з'ехаў з асфальту і прытармазіў. Тады Сяргей пабег.

А між тым успаміпаўся гэты дзень: два вясёлыя рыбакі — дзе яны зараз і што з імі? Дзеўчынёха ў чырвоным жакеце і штанах — ці выняла дома кручок? Дождж і рыбіна, яшчэ жывая, што білася ў траве. Спакойны стары і яго ціхія словы: «Баіцца рыба, пахавалася...» І ўсё гэта звязвалася ў нешта адно, набывала нейкі сэнс, а які — Сяргей не ведаў і па звычцы імкнуўся раскласці ўсё на часткі, разабрацца ва ўсім...

Узбегшы на насып, Сяргей азірнуўся. Таго месца, дзе быў днём, не было бачна, яго схаваў сіні, як дым, туман, і толькі кусты, бы астравы ў моры, выглядалі з яго. І калі ён глядзеў на туман, на луг, здалося, быццам нехта нешта сказаў ці заспяваў. Сяргей прыслухаўся, каб пачуць ясней, яму нават нечакана захацелася, каб нечы голас пазваў яго, і ён тады, забыўшыся на ўсё, пойдзе на той голас. Але было ціха, рыпеў драч, і пазваньвалі над вухам камары.

Потым Сяргей азірнуўся на аўтобус — той яшчэ стаяў. Праз адкрытае акно нехта махаў рукою.

# ВЫПАДАК З ЗАРУБІНЫМ

Зарубін — спакойны, ураўнаважаны, год за трыццаць мужчына — пачаў адчуваць, што нечага яму не хапае. Вакол, як кажуць, бурліла, вірыла жыццё, але ўсё: і твары, і галасы, і падзеі, што адбываліся на свеце,— неяк адышло, адсунулася ўбок. Нечакана Зарубін адчуў, што ён — адзін на свеце. Не, гэта, відаць, не было звычайнае адзіноцтва, проста ён стаў вельмі часта думаць, што такога, як ён, Зарубін, больш няма на свеце... І не было, не будзе ніколі. З усімі слабасцямі, тым добрым, што мелася...

Работа ў Зарубіна была няцяжкая — працаваў пасля заканчэння інстытута ў лабараторыі аднаго навукова-даследчага інстытута, дзе, па праўдзе сказаць, было так: хочаш рабі, хоць парвіся, а хочаш — у акно глядзі, але, як вядзецца ў такіх установах, там быў свой кантроль і заахвочванне, чужому воку, пэўна, дзіўныя і незразумелыя. Была ў Зарубіна тэма, з год ён ужо біўся над ёю, але канчатковых вынікаў не было бачна — ці то не пра тое думалася, ці то кірунак работы быў выбраны няправільны, ці то доследы вяліся неакуратна. Здавалася, яшчэ які месяц, тыдзень і ўсё — тэма будзе распрацавана, але час ішоў... Цэлымі днямі, так, што і паабедаць схадзіць было некалі, сядзеў Зарубін у памяшканні, амаль ні з кім не размаўляў,

і калі вечарам сунуўся стомлены па вуліцах горада, шумнага, стракатага ад святла рэклам і вітрын магазінаў, тады вось гэтыя думкі пра сваё жыццё і апаноўвалі.

І думалася Зарубіну, што жыве ён не так, не зусім цікава і весела, што ёсць нейкае другое, лепшае жыццё і, магчыма, мог бы ён жыць інакш, але прайшло ўсё міма, і ён не разгледзеў — калі. Ды і што ён цікавае бачыць: днём лабараторыя, вечарам дома. І так дзень за днём, а там — не паспееш згледзець — і год, два... Спаў Зарубін дрэнна, сніліся нейкія непрыемныя, блытаныя сны: і пра работу, і пра сябе, і нават пра тое, што, здавалася, не мела з ім нічога агульнага. Прачынаючыся, ён звычайна думаў, што, відаць, не вытрымае, пойдзе і падасць заяву аб звальненні, пяройдзе ў інстытут чытаць студэнтам лекцыі. Але на рабоце неўпрыкметку ўцягваўся і толькі вечарам, калі саслужыўцы даўным-даўно разыходзіліся, здзіўлена ківаючы галовамі ў яго бок, Зарубін апамятваўся.

У апошні час Зарубін стаў думаць, як лепш правесці чарговы водпуск: хацелася ўзяць пуцёўку і паехаць куды далёка-далёка, пабыць у другім асяроддзі, з другімі людзьмі — можа, хоць там, у новым месцы, будзе весялей, а калі не весялей, то цікавей.

Гэтыя думкі — і аб рабоце, і аб жыцці сваім — спляталіся, быццам клубок парваных, заблытаных нітак, у нешта адно, што не давала спакою.

Усё здарылася раптоўна і нечакана: прыйшоў на работу, паўдня працаваў, і тут пазванілі з прафкома, куды звяртаўся раней, — прапанавалі пуцёўку на Чарнаморскае ўзбярэжжа. Быў канец года, пуцёўка «гарэла», і таму яе далі за малую плату. На вуліцы ўжо тыдні са два ляжаў снег, але там, на поўдні, было яшчэ цёпла: ля дзесяці — пятнаццаці градусаў, як перадавалі па радыё. У той жа

дзень Зарубін аформіў водпуск. І ўпершыню адчуў палёгку, быццам скінуў з цела лішняе і цяжкое. Узрушаны, прыйшоў Зарубін позна вечарам дамоў.

Жонка амаль нічога не сказала — яна бачыла і разумела, што з мужам творыцца нешта незразумелае — дагэтуль быў чалавек як чалавек,— і таму старалася ні ў чым не пярэчыць. Работа ў іх была розная: працавала жонка медсястрой і параіць, памагчы ў чым яна не магла. А можа, і не хацела, хто іх ведае, гэтых жанчын...

Пры развітванні, калі Зарубін чмокнуў жонку ў вусны, яму стала чамусьці няёмка і таму, прамармытаўшы, што пра ўсё напіша ў лісце, быццам вінаваты ў нечым, сутуліўшыся, хутка пакрочыў з дому.

Яму пашанцавала. Пагода была лётная: адсюль самалёты выпускалі, там прымалі — у тую ж раніцу ён вылецеў. Узрушэнне і радаснае хваляванне, якія адчуў пры паведамленні аб свабоднай пуцёўцы, не праходзілі. Гледзячы на воблакі, падобныя на ўспененае і імгненна застыўшае мора, Зарубін замурлыкаў нават нейкую песню, чаго даўно не рабіў, мусіць, з год, якраз з таго часу, як стаў займацца тэмай. Калі падляталі да ўзбярэжжа, ён упершыню ўбачыў горы. Зарубін з маленства, са школьнай парты, марыў пабыць у гарах, у гэтым было нейкае таямніцтва — вось ён стаіць на скале, пад нагамі дымяцца белыя воблакі, а там, уверсе, сінеча і сонца...

Быў надвячорак, вялізнай белай птушкай самалёт, як нажом, разразаючы воблакі, ішоў на пасадку, і тады, амаль ля зямлі, Зарубін убачыў горы, не тыя, аб якіх марыў, а якія былі на самай справе: зялёна-ружовыя, маленькія і далёкія, як успаміны маленства, ахутаныя вясёлкавымі палоскамі сонечнага святла, якое пучкамі выбівалася адтуль, з-за

гор, угору да Зарубіна,— больш нечаканага і прыгожага за апошні час Зарубін і не бачыў. На імгненне да яго вярнуліся той настрой і бачанне свету, якія былі даўно, так даўно, што ледзь не забыўся... І вось цяпер, калі Зарубін пабачыў горы, ён падумаў, што цуд на свеце ўсё ж такі ёсць, ды і жыццё яго можа стаць зусім іншым, не такім, якім было дагэтуль.

Самалёт апусціўся на зямлю, горы зніклі, нібы сон, і Зарубін апынуўся ў звычайным, не вельмі вялікім, горадзе, дзе жылі звычайныя людзі — чамусьці ў гэты і наступныя дні Зарубін уважліва прыглядаўся да людзей, быццам шукаў у іх прычыну сваёй панурасці. Да пансіяната было вёрст трыста, там знаходзіўся раённы цэнтр, і туды можна было дабрацца самалётам, але ў касе мясцовых аэраліній пажылая стомленая жанчына буркнула, што з-за дрэннай пагоды самалёт туды ў гэты дзень не паляціць.

Гарадскі аўтобус быў перапоўнены, як перапоўнены ў такі час аўтобусы ў іншых гарадах,— ехалі з работы людзі: заклапочаныя, вясёлыя, злыя, абыякавыя, і нічога асаблівага Зарубін у гэтым не бачыў. Побач з ім стаялі дзве жанчыны, больш пажылая казала маладзейшай пра махеравую хустку: як звязаць, на колькі гэта выгадней, чым купляць гатовую, у каго са знаёмых ёсць такія хусткі. Праз паўгадзіны, калі Зарубін выходзіў з аўтобуса, ён усё яшчэ чуў размову пра хустку.

На аўтавакзале, узяўшы білет, разам з іншымі пасажырамі Зарубін сеў у аўтобус. Ён спыніў увагу на невысокім, поўным, сярэдніх год мужчыне, у якога былі круглы твар, вузкія чырвоныя, як нафарбаваныя, палоскі вуснаў і непрыемная сінява ў вачах. Гэты чалавек чымсьці не падабаўся Зарубіну, магчыма, сваёй самаўпэўненасцю, бо трымаў-

ся ён сярод незнаёмых людзей занадта лёгка — гучна, на ўвесь аўтобус, смяяўся і гаварыў з прыгожай, год трыццаці, жанчынай. Яны пазнаёміліся перад самай адпраўкай аўтобуса і, па ўсім бачна, асталіся задаволеныя сабой і абставінамі. Па выпадкова пачутых словах Зарубін зразумеў, што мужчына таксама едзе адпачываць.

Да пансіяната пад'язджалі прыцемкам. Зарубін не адрываў позірку ад акна — хацелася хутчэй пабачыць горы, але ў цемені амаль нічога не бачылася: нейкія чорныя цені то ўзнікалі, то знікалі, і было незразумела, ці то горы, ці то лес, ці звычайны цень ад аўтобуса. Але паступова дарога пачала віцца між лагчын і ўзгоркаў, якія рабіліся ўсё круцейшымі і круцейшымі, і, нарэшце, Зарубін зблізу ўбачыў горы. Але цяпер, калі ён зблізу ўбачыў горы, асаблівага хвалявання не было — здавалася нават часам, што ён ужо быў калісьці тут.

Стаў слязіцца дождж, асфальтаваная дарога заблішчала. Шафёр уключыў радыё. Жанчына аб'явіла трансляцыю канцэрта — рытмічна забрэнькалі электрагітары, перарабляючы знаёмую з маленства мелодыю ў нешта вясёлае і бесклапотнае, што праз паўгадзіны і забываецца. Гэтую народную песню спявала звычайна маці, калі збірала ягады. Зарубін успомніў, як спявала маці,— між сасонак, высокіх і стромкіх, аж да самага неба, убачыў яе, яшчэ маладую і вясёлую. Усё гэта Зарубін убачыў неяк зверху: і сябе, зусім малога, і маці, і чырвоныя палоскі вячэрняга сонечнага святла, што залацілі шэрую кару дрэў, зялёны чарнічнік з чорнымі ягадамі...

Здалося дзіўным, што двое людзей у адзін і той жа час знаходзяцца так далёка. Зарубіну ўспомнілася, як сядзела жонка ля стала, калі ён з пуцёўкаю ў руках вярнуўся дамоў. Ён прыйшоў пазней, чым звычайна: пакуль водпуск афармляў, лабаран-

там план работы складаў — прыйшоў і пабачыў, як жонка вяжа панчохі,— яна толькі-толькі памылася і галаву абвязала белым ручнікам, як чалмою, ад гэтага і ад таго, што ўпершыню ўбачыў, як жонка вяжа панчоху, выраз твару яе здаўся занадта разумным і строгім. Успомніўшы твар жонкі, Зарубін усміхнуўся.

Прыехалі позна, гадзін у адзінаццаць. Разам з ганарлівым мужчынам зарэгістраваліся, разам іх і пасялілі.

Наступнай раніцай разбудзіў Зарубіна глухі басавіты голас:

— Здаравенька, суседзі!

Іван — так звалі ганарлівага мужчыну, ён працаваў шафёрам — паздароўкаўся з высокім чарнявым здаравяком, які стаяў ля адкрытых дзвярэй.

— Я адсюль, з Кубані, на трактары працую,— прадаўжаў здаравяк. Нейкі час памаўчалі. Здаравяк сеў на ложак Зарубіна.— Са мной яшчэ Грыша жыве з Арменіі. Гры-ша!

— Чыво цібе, чыво? — выйшаў з суседняга пакоя малады, год дваццаці пяці, чорненькі невысокі армянін, які быў бы вельмі прыгожы, каб не касаватае адно вока. Убачыўшы незнаёмых людзей, Грыша прыемна ўсміхнуўся: «Здра-авствуйце!»

Прыйшлося ўставаць, хаця спаць хацелася. Здаравяк прынёс тайком бутэльку віна, учатырох выпілі яе нашча, каб лепш снедалася, і нейкі час гаварылі.

— Ці ведаеце такі выпадак, каб у карбюратары дросельная заслонка расплавілася? — пытаўся здаравяк, абводзячы ўсіх позіркам.

— Ды ну-у! — гукаў Іван.— Быць такога не можа.

— А вот і можа,— гарачыўся здаравяк,— я сам бачыў. Ехалі мы тут, у гарах, машыну лесам нагрузілі, дэбэла, дэбэла нагрузіліся...

Зарубін здзіўляўся, навошта яму карбюратар і дросельная заслонка, ён разумеў, што і астатнім таксама не дужа прыемна слухаць гэтую гісторыю, не за гэтым яны сюды ехалі, за нечым іншым — мо таму і стараюцца падтрымаць пустую, непатрэбную размову пра карбюратар і дросельную заслонку. Гэтыя людзі, як і Зарубін, доўгі час працавалі, прывыклі да сваіх правоў і абавязкаў, а цяпер яны павінны нічога не рабіць — таму няёмка. Патрэбен пэўны час, каб яны прывыклі да новага становішча, і тады яны пачнуць адчуваць сябе, як і раней,— знойдуцца заняткі, і імі, нікчэмнымі і абыякавымі, будзе апраўдвацца свая бяздзейнасць.

...А можа, усё гэта не так, не зусім так, можа, і з імі адбываецца тое ж самае, хай сабе другія падзеі, другія абставіны, але ў душы кожнага адбываецца тое ж, што і ў яго, Зарубіна, адкуль ён ведае...

Адчуванне прыгажосці, незвычайнасці паступова знікала. У пансіянаце было многа пажылых людзей, але траляліся і маладыя, большасць з іх былі калгаснікі, бо, як казаў Грыша, летам калгаснікy некалі, хлеб з поля збіраць трэба.

Пасля сняданку Зарубін доўга блукаў па тэрыторыі пансіяната, разглядваючы зялёныя кусты лаўра, знаёмыя па малюнках жоўта-белыя домікі, фанерныя дошчачкі, на кожнай з якіх была напісана якая-небудзь агульнавядомая ісціна, накшталт — «Адпачынак ля мора беражэ здароўе працоўных».

Потым Зарубін пайшоў туды, дзе шумела мора: не вельмі вялікія хвалі ўзнікалі недалёка ад берага і, пераламваючыся, пенячыся, з шумам каціліся

да берага, перакатваючы на ім гладкія, вылізаныя вадой і часам каменьчыкі. Ён доўга глядзеў на хвалі, думаючы, што на іх можна глядзець бясконца, у гэтым ёсць зачараванасць, якая ідзе ад павольнасці і сілы мора.

Перад абедам Зарубін трапіўся на вочы знаёмым: Івану, чарняваму здаравяку і Грышку, якія ішлі ў акружэнні чатырох жанчын.

— А-а, Антонавіч,— адазваў Зарубіна Іван,— мы вось рашылі паклікаць у госці... Па траячцы з брата, ты не супраць такога дзела?

Праз гадзіну Зарубін сядзеў на сваім ложку побач з маладзенькай дзяўчынай, якая спявала хрыплаватым голасам студэнцкія песні. Калісьці іх спяваў і сам Зарубін, быў ён тады студэнтам-першакурснікам, і восенню, калі дапамагалі калгасу, пасля работы збіраліся кожны вечар між жоўтых скірд саломы, каб наспявацца. Свяціліся тады зоркі над галавою, трашчала нешта далёка ў полі, быццам там ваду хтосьці пераліваў тонка і яна цурчала, цурчала... А дрыготкі галасок выводзіў мелодыю, ад якой сціскала ў грудзях, і бачылася белая, залітая месячным святлом дарога і на ёй двое... Зарубін пастараўся ўспомніць тыя твары і ўпершыню са здзіўленнем адзначыў, што не ўсіх памятае, памятае, напрыклад, што быў у іх групе Валодзя, а які ў яго твар — не, не можа ўявіць. І ўспаміны ўсё больш і больш агортвалі яго, нібы тыя мелодыі, што цягнула дзяўчо. Яна глядзела міма людзей у акно, і здавалася, а можа, так і было, што бачыла не сінюю ваду, а тое, аб чым спявала, чаго ў жыцці яе не было.

Потым узнікла другая мелодыя, і Зарубін адчуў сябе ў невялічкай вёсачцы, дзе калісьці настаўнічаў. Зарубін не збіраўся настаўнічаць, проста пасля заканчэння універсітэта ён павінен быў два

гады адпрацаваць у вясковай школе. Пасылаючы яго ў школу, не дужа прыглядаліся, здольны ён ці не, чамусьці лічылася, што веды — галоўнае для настаўніка. І ён мучыў два гады зусім нявінных дзяцей і два гады мучыўся сам. У той невялічкай вёсачцы быў такі дзень, калі Зарубін ляжаў на ложку і плакаў, а з суседняга пакоя даносіліся песні — быў Дзень настаўніка.

Цяпер ён таксама адчуў сваё адзіноцтва, але не так моцна, бо сапраўдным адзіноцтвам, якім павінен перахварэць кожны чалавек — ці ў старасці, ці ў маладосці — няважна,— Зарубін перахварэў, і яму здалося, што імгненне — і ён зразумее, навошта сабраліся сюды гэтыя выпадковыя людзі, што згубілі і знайшлі яны ў жыцці сваім, на што спадзяюцца...

Зарубін выйшаў з пакоя. На вуліцы імжыў дождж, але гразі не было — зямля была камяністая і пясчаная. Цёплы вільготны вецер нёс нізка хмары, шэрыя і кудлатыя. Побач з пансіянатам знаходзілася гара, не вельмі высокая, але даволі крутая,— вяршыня яе цяпер была закрыта, схавана ад вачэй.

Сам не ведаючы чаму, Зарубін пайшоў у бок гары. Пераскочыўшы нешырокі ручай, дзе цурчала чыстая горная вада, ступаючы па белых лёгкіх каменьчыках, якімі была ўсыпана зямля, ён падымаўся ўсё вышэй і вышэй. Калі час ад часу азіраўся, бачыў, як мора рабілася большым: ля берага, дзе мялей, вада была ўспененая і светлая, а далей — цёмна-сіняя. Далёка ў моры стаялі два караблі — яны ўвесь час меншалі, станавіліся падобнымі на цацкі, таму прыгажэлі.

Узнікла жаданне дабрацца да воблакаў, Зарубіну здавалася, што калі падымецца на вяршыню гары, зробіць для сябе нейкае важнае адкрыццё,

тады стане лягчэй жыць, бо адчуваў, што нешта ламаецца ў ягоных паводзінах, думках, а што — не разумеў.

З кожным крокам дыхаць станавілася цяжэй, твар успацеў, хутка Зарубін перастаў адчуваць подыхі вільготнага ветру, хаця тут, уверсе, вецер быў мацнейшы і халаднейшы. Нізкія крываватыя елачкі зніклі, пачаўся лес, у якім раслі тонкія, падобныя на лазу, дрэвы. Толькі цяпер стала бачна, што гара даволі крутая. Хапаючыся за ствалы і сукі дрэў, Зарубін падымаўся наверх, часам слізгаючы і спатыкаючыся. Мора пакрылася слоем сівога туману, у пансіянаце і на караблях загарэліся агні — вечарэла.

...Калі Зарубін спускаўся назад, ужо добра сцямнела, і адзінай, па чым арыентаваўся, была вузкая, белая ад каменьчыкаў сцежка. Спускацца было яшчэ цяжэй: намоклы абутак слізгаў, трэба было трымацца за ствалы і сукі дрэў, каб не ўпасці.

...І пазней, у той жа вечар, гледзячы на старых людзей, якія дурасцю і весялосцю хацелі вярнуць сабе маладосць, ён думаў усё аб адным і тым жа: нічога з ім, Зарубіным, не здарылася на вяршыні гары. Быў халодны сыры вецер, голая мёрзлая зямля, на якой ляжаў месцамі снег, а больш нічога. І гэта галоўнае, бо чамусьці здавалася, што там павінна быць яшчэ нешта, хоць што — ён і сам не ведаў.

На другі дзень Зарубін паехаў дамоў.

Перад тым як заходзіць у пакой, ён выняў з кішэні хусцінку і завязаў адно вока. Жонка сядзела ля стала і вязала панчохі — быццам за гэтыя два дні яна і не хадзіла нікуды, а ўсё вязала.

Убачыўшы Зарубіна, ды яшчэ з завязаным вокам, яна разгубілася, спалохалася.

— Выбілі,— замест прывітання сказаў спакойна Зарубін. Ён паставіў сумку, адвязаў хусцінку і нечакана міргнуў прыжмураным вокам: — Выбілі...

Жонка села на ранейшае месца, апусціла галаву і заплакала. І нейкае новае пачуццё ўзнікла ў Зарубіна, агнём гарэлі яго шчокі, ён стаяў ля жонкі, не ведаючы, што рабіць і што казаць.

## КРЫШТАЛЬ

### РАЗМОВА

Мой новы знаёмы пытаецца:

— І дзе ж ты працуеш?

Пачуўшы адказ: «На шклозаводзе»,— ён нейкі час маўчыць, а пасля задае новае пытанне:

— А крышталь у вас вараць?

— Так, у нас і крышталь вараць.

Цяпер мой знаёмы маўчыць удвая больш, чым першы раз.

— Вось скажы ты мне,— уздыхнуўшы, працягвае ён,— чым крышталь адрозніваецца ад звычайнага шкла?

— Шкло бывае featuresрознае, вараць яго з пяску, соды і іншых матэрыялаў, крыштальнае шкло — таксама з гэтых жа матэрыялаў, толькі яшчэ вокіс свінцу дабаўляюць.

— А-ага-а! — гаворыць мой новы знаёмы, цяпер яму нібы ўсё ясна, і ён надоўга змаўкае. І я таксама.

Мне ўспамінаюцца людзі, з якімі працую, бачу, як яны, трымаючы доўгія тонкія трубкі, падыходзяць да акон шклаварнай печы, апускаюць у акно канец трубкі, чапляюць там, у гаршку, камок бела-ружовай масы, адыходзяць ад акна і пачынаюць дзьмуць. Працуюць яны ля печы на прыўзнятым над зямлёю памосце, быццам на сцэне — адны нахіляюць трубку ўніз, да зямлі, другія падымаюць

угору,— тады шкладувы падобны да тых гуцулаў, якія на гарах і паланінах іграюць на сваіх доўгіх-доўгіх трубах, толькі замест тужлівага і працяжнага гуку на канцы трубкі пачынае расці белы шарык. Трубку круцяць між далоняў, ізноў датыкаюцца вуснамі да верхняга канца яе; здаецца, робіцца гэта няспешна, але кожны рух і імгненне тут разлічаны. Штосьці падобнае бачыў я ў маленстве, калі бацька хапаў з прыпечка чырвоны вугаль і, перакідваючы яго з рукі на руку, прыкурваў і кідаў вугаль зноў у агонь. Кожны рабочы працуе па-свойму: адзін сур'ёзна і стрымана, другі — нібы забаўляецца... Вось гэты шарык на канцы трубкі апускаюць у драўляную альбо жалезную форму, ізноў круцяць трубку між далоняў, нарэшце... бачыш, як плыве па канвееры на апрацоўку штосьці падобнае на вазу.

Я бачу машыны, іх чамусьці завуць разумнымі, быццам яны могуць самастойна думаць,— чмокаючы, абліваючы сябе вадой, жалезнымі пальцамі бяруць яны шкламасу з печы і, амаль таксама, як і рабочыя, вырабляюць шклянкі; стаіш, здзіўлены і горды за розум людзей, якія стварылі гэтыя машыны.

Зноў чую я гул полымя ў печы, гул вентылятараў, машын і думаю, што вельмі ўжо прывык да сваёй работы, да свайго завода.

Некаторыя з маіх новых знаёмых заводзяць са мной больш сур'ёзную размову і тады пытаюцца:

— Ну і як, падабаецца табе работа?

Я маўчу — не ведаю, што казаць. Работа мая няцяжкая, плацяць нядрэнна, на заводзе паважаюць — што больш трэба? Праўда, за дзень стамляюся. І ў абедзенны перапынак сяджу ў сталоўцы, назіраю за рабочымі, якія, паабедаўшы, тут жа, за сталамі, вядуць размовы пра план, пра блізкіх,

пра свае адносіны. Чамусьці ў той абедзенны перапынак я лічу сябе не такім, як астатнія, хоць я — таксама рабочы. Потым я думаю пра сябе: чаму я працую тут доўгі час — і раблю адкрыццё. Я прыйшоў сюды, на завод, з васьмігадовай адукацыяй, вучыўся ў вячэрняй школе, потым завочна, цяпер — майстар; і ўвесь час мяне не пакідае пачуццё, што можна працаваць лепш... Можа, гэта і ёсць прыкмета таго, што работа мне падабаецца.

А пасля абеду я зноў іду ў цэх, дзе клопаты навальваюцца на мяне, і да канца змены ўжо няма часу падумаць ні аб чым іншым, акрамя работы... Учора шкламаса была дрэннай якасці, і невядома, хто вінаваты: састаўны цэх ці шклавары. Многа браку на апрацоўцы — шукаеш прычыну... І калі вечарам, стомлены, вяртаешся дамоў, апаноўваюць цябе нейкі спакой і задаволенасць, бо пачынаеш адчуваць — адчуваць, а не разумець,— што зрабіў за дзень нешта патрэбнае і важнае.

І на пытанне, ці падабаецца мне работа, я звычайна адказваю так:

— Можа, і падабаецца, не ведаю, тут цяжка сказаць адразу. Работа мяне хвалюе — прыносіць і радасць, і засмучэнне, і нават непрыемнасці.

## АЛЯКСЕЙ ІВАНАВІЧ

На заводзе ёсць адзін чалавек, якога нават дырэктар пабойваецца. Завуць гэтага чалавека Аляксей Іванавіч, працуе ён слесарам у механічным цэху, год яму ля шасцідзесяці, росту невысокага, хударлявы, падобны на хлопца-падлетка, у цёмна-сіняй спяцоўцы, заўсёды ў летняй, з доўгім казырком шапцы, са зморшчанай у гармонік скурай на лбе, з пільнымі шэрымі вочкамі, ён на-

гадвае нейкую птушку, якая ўсё нечага выглядае і выглядае... Калі заўважаюць які-небудзь непарадак, звычайна кажуць: «Не ведае пра гэта Аляксей Іванавіч, ён бы разабраўся...»

Аляксей Іванавіч — чалавек пануры і нават крыху рэзкаваты ў меркаваннях, можа, таму ён не ўсім падабаецца — чамусьці атрымліваецца, што такім людзям жыць у калектыве намнога цяжэй, чым іншым, тым, каго завуць добрымі, якія ніколі не маюць ворагаў, але і блізкіх сяброў таксама.

Аляксей Іванавіч заўсёды мае якое-небудзь грамадскае даручэнне, ён пастаянны ўдзельнік усялякіх камісій, падкамісій, прытым не проста ўдзельнік, а, можна смела сказаць, адзін з галоўных выканаўцаў тых рашэнняў і пастаноў, якія прымаюцца на шумных сходах ці ў светлых, прыгожых кабінетах. Выконваць грамадскія даручэнні Аляксею Іванавічу не лёгка.

Таму часта можна ўбачыць, як ходзіць Аляксей Іванавіч з аддзела ў аддзел і просіць выдзеліць яму ў дапамогу чалавека хоць бы на паўдня, каб зрабіць якую праверку ці скласці акт. Начальнікі аддзелаў ветліва яго выслухоўваюць і разводзяць рукамі — вольных ад работы людзей у аддзеле няма. І разбярыся тут, ці так ужо ўсе людзі занятыя.

Але ўпарты Аляксей Іванавіч — быццам яму за гэта грошы плацяць — усё ж дабіваецца свайго; і вось ужо бачыш, як трое ці чацвёра людзей на чале з невысокім, здаецца, усім не задаволеным чалавекам ходзяць па цэхах, па ўсіх закутках, размахваюць рукамі і нешта запісваюць.

Не бывае на заводзе сходу, на якім бы не выступаў Аляксей Іванавіч. Для Аляксея Іванавіча сход — урачыстасць. Прыходзіць ён на яго ў чыстым чорным касцюме, хоць і не вельмі добра адпрасаваным, у белай кашулі з крыху прымятым

каўняром. Садзіцца з боку ад галоўнага прахода, дзесьці на пярэдніх радах, і ўважліва слухае прамоўцу.

І вось, нарэшце, пасля выступлення якога-небудзь паважанага на заводзе таварыша, чуецца ў зале голас: «Можна, я скажу?» І, не дачакаўшыся дазволу, Аляксей Іванавіч устае і выцягвае з кішэні невялічкую запісную кніжачку, вядомую ўсім на заводзе. «Аляксей Іванавіч, вы сюды, да трыбуны, падыдзіце»,— кажуць яму з прэзідыума. На гэта Аляксей Іванавіч махае рукой: «Я ненадоўга... Я толькі некалькі слоў скажу»,— і пачынае гартаць сваю кніжачку.

Успамінае Аляксей Іванавіч тыя дні і вечары, калі ён хадзіў па тэрыторыі завода і назіраў за людзьмі, за іх працай — бачыў тую дарагую машыну, што ржавее пад адкрытым небам і нікому да яе няма справы: ні загадчыку склада, ні начальству — невядома, навошта грошы трацілі; бачыў кучу смецця ў механічным цэху, пра гэта ён як член санітарнай камісіі ўжо казаў начальніку цэха — а з таго, што з гуся вада... Многа што ўспамінае Аляксей Іванавіч у той час, калі перагортвае старонкі сваёй запісной кніжачкі.

І не тое загадчык аддзела забеспячэння кажа: трэба палепшыць службу аховы. Не тое кажа — у другім трэба выйсце шукаць. Трэба за іншым глядзець, за свядомасцю рабочага. Як гэта можа быць — свой жа рабочы суседа не паважае? Значыць, на нашым заводзе і з працоўнай дысцыплінай непарадак, і нечага на кагосьці ўсю віну звальваць...

Па-рознаму слухаюць гэтага чалавека: адны баяцца, што ён вось-вось назаве іх імя і прозвішча — аўтарытэтаў для Аляксея Іванавіча няма і не было ніколі,— гэтыя людзі неяк уціскаюцца ў крэслы

і апускаюць позіркі, нібы вінаватыя вучні перад настаўнікам, другія стараюцца запомніць усё, аб чым гаворыць прамоўца, каб пасля, дзесьці ў зацішным кутку, смеючыся, казаць: «Во даваў... Во даваў Аляксей Іванавіч! Купляеце, кажа, а яно без толку ржавее, а ўсё таму, кажа, што не з свае кішэні...» — такія размовы будуць весці тыя, добранькія, якія ніколі не маюць ні ворагаў, ні блізкіх сяброў; трэція думаюць, што кажа чалавек праўду, можа, трохі і перабольшвае — не адзін жа ён за агульную справу хварэе. Але ж сёй-той стараецца адказваць толькі за сваё, а што ў суседа робіцца — яго не цікавіць. Некаторыя ж проста не разумеюць яго — думаюць: што трэба гэтай старэчы, чаго суе нос усюды. Але ўсім прысутным робіцца ў той жа час няёмка, нешта абуджаецца ў думках: можа, тое, што называюць сумленнем, можа, яшчэ нешта. І кожны пачынае разумець: мог бы ён зрабіць штосьці большае для завода, але — хто з ленасці, хто з самаўпэўненасці — не робіць.

Запісваецца ў пратакол сходу выступленне Аляксея Іванавіча, а раз запісваецца — хочаш не хочаш, а тыя недахопы, пра якія казаў Аляксей Іванавіч, трэба выпраўляць.

Пасля сходу Аляксей Іванавіч ідзе дадому. Ён адчувае лёгкасць, бадзёрасць, нібы памаладзеў пасля сходу; ідзе, думае; успамінаецца, відаць, яму маладосць; і можна заўважыць тады, як Аляксей Іванавіч варушыць вуснамі, быццам размаўляе з кім.

## ПЛАН І ЛЮДЗІ

Вось вы кажаце: план, план... А я скажу так: калі да рабочага падыход знайсці — ніякі план не страшны будзе. Скажыце вы мне —

адкуль найбольш сварак, непаразуменняў, бед усялякіх? Адкуль яны ідуць? Я так думаю — усё гэта ад таго, што мы не заўсёды стараемся зразумець чалавека.

Быў у нас на заводзе ўчастак, на які ўжо ўсе рукой махнулі. Што там ні рабілі: і прэміяльныя здымалі, і брыгадзіра лаялі... Паслалі мяне.

Прыйшоў я, паглядзеў. Людзей у брыгадзе нямнога: кавалі, слесары. Рашыў з кожным пагутарыць.

Выклікаю да сябе Махайлава — слесарам працуе. Малады хлопец, гадоў дзевятнаццаць, знешне — копія такога, якіх у «Вожыку» малююць: валасы па шыю, кашуля наросхрыст, на ўсё — гы-гы ды гы-гы. Што ты хочаш — малады зусім. Дык вось, прыходзіць да мяне — я пытаю:

— Ты колькі ў месяц зарабляеш?

Глядзіць на мяне, вочы вылупіўшы. Ён ужо прывык, што яму ўсякія выгаворы ды натацыі, што на яго, як на пудзіла агароднае, пальцам паказваюць. Мусіць, думаў, што і я з ім гэтаксама буду.

— Ну, шэсцьдзесят.

— Вось давай з табой дамовімся,— кажу яму,— будзеш добра працаваць — заробіш у месяц сто шэсцьдзесят.

— Гы-гы,— смяецца,— кіньце вы. Мне больш васьмідзесяці ніколі не плацілі. Я ж — прагульшчык.

— Кажу табе яшчэ раз, будзеш добра працаваць і не заробіш у месяц сто шэсцьдзесят — прыйдзі і плюнь мне ў вочы.

Змоўк мой Махайлаў. Глядзіць. Задумаўся.

— Добра,— кажа,— буду рабіць.

І смяецца.

— Не,— адказваю,— так не пойдзе. Я табе не хлопчык. Ты мне слова дай, тады я паверу.

— Даю слова,— ізноў смяецца Махайлаў.

Прынёс я на другі дзень заданне, ён аж свіснуў:

— Гэта ж на тыдзень!

— А ты што думаў — грошы самі да цябе паплывуць?

Дні чатыры працаваў Махайлаў добра. На пяты бачу — п'яны Махайлаў, што зямля. Я кажу хлопцам, адвядзіце вы гэта гора ў тэрмічку — пакойчык невялічкі ў нас ёсць, ніхто чужы туды не заглядвае,— хай праспіцца. Завялі хлопцы.

Дзесь перад абедам ідзе начальнік цэха.

— А Махайлава няма сягоння, зноў загуляў?

— Ды тут,— кажу,— некуды выйшаў.

Пайшоў начальнік.

— Пастаўце,— да хлопцаў звяртаюся,— хоць загатоўку ў яго станок.

Паставілі. Пасля абеду зноў падыходзіць начальнік цэха. Работа, кажа, тэрміновая ёсць. Дае чарцяжы. А ў мяне планавая работа яшчэ не зроблена.

Махайлаў спіць. Гадзіны ў чатыры прадзірае вочы, выходзіць з тэрмічкі. Падыходзіць да станка.

— А хто на ім рабіў? — пытае.

— Ніхто,— адказваю.— Начальства цябе шукала — трэба было вочы адвесці.

Глядзіць ён на мяне, не чакаў такога павароту.

— Вось што, друг сітцавы,— кажу яму,— на табе чарцяжы, і сёння каб усё было зроблена. Не забудзь, што і старая работа не скончана.

— Сцяпанавіч, не падвяду.

Астаўся ён на другую змену. У той жа вечар з заводакіраўніцтва рабілі праверку — ці ўсе на сваіх рабочых месцах. Прыходжу я назаўтра, а мне кажуць: «Хто-хто нас здзівіў бы, ды не Махайлаў. Адзінаццаць гадзін, нікога ў цэху няма, а ён адзін на двух станках працуе».

Зарабіў ён усё ж такі за месяц свае сто шэсцьдзесят рублёў.

Тады з кавалямі... У іх заўсёды спрэчкі з брыгадзірамі былі. Ім здавалася, што запісваюць ім менш, чым яны зарабляюць. Ну, вы самі разумееце, што такое кавальская справа... За малыя грошы там ніхто рабіць не стане. Я і кажу ім: вось бланкі, вядзіце разлік самі — што зарабілі, тое і запісвайце. Людзі вы дарослыя і граматныя, правяраць я вас не збіраюся. Дамовіліся. Прарабілі яны паўмесяца — прыходзяць. Падлічылі мы разам — не надта. Кавалі мае і рукамі развялі. А я кажу: самі ўлік вялі — самі. Я тут — ні пры чым. «Ну, Сцяпанавіч, мы звальняцца будзем,— кажуць,— ты ж бачыш, як мы робім».

— Бачыў. Давайце дамовімся так: працуйце, як працавалі, а я пастараюся што-небудзь зрабіць.

Забраў я нарады ды ў планава-тэхнічны аддзел.

Скажу па праўдзе: пабегаў я з тымі нарадамі, але ўсё ж дабіўся свайго — змянілі нормы.

Праўда, калі чалавек зусім апусціўся і разумець цябе не хоча, дык, па-мойму, і цацкацца з ім доўга не трэба. Аднаго я такі выгнаў. Я яму адразу, як і Махайлаву, сказаў: «Хочаш рабіць — рабі, а не — разыдземся». Тры разы я яго папярэджваў, а тады напісаў дакладную.

Я зноў хачу паўтарыць тое, з чаго пачаў: павярніся тварам да чалавека, і ён, калі гэта чалавек, таксама тварам павернецца. Вазьміце такі прыклад. Ідзе начальнік цэха. Падыходзіць да яго рабочы з якой-небудзь скаргай — загатовак няма ці яшчэ чаго... Што б на месцы начальніка цэха зрабіць лепш за ўсё? Спытаць у рабочага: «Ты да майстра звяртаўся?» Вось з гэтага пачаць. А тады ўжо размову весці. А як часам бывае?

Начальнік цэха адразу: «Майстра сюды!» Бягуць, вядуць майстра. Начальнік цэха тут жа, перад рабочымі, майстру разгон дае: ты, такі-сякі, чаму работай не забяспечыў... Вы думаеце, будзе пасля гэтага ў майстра аўтарытэт? Захочацца яму рабіць у такога начальніка? А ў самога начальніка цэха аўтарытэт будзе? А калі б ён, гэты гора-начальнік, сустрэўся адзін на адзін з майстрам — хай сабе майстар і вінаваты, але ж не трэба забываць, што яму працаваць кожны дзень з людзьмі,— тады б зусім іншая размова вялася.

Кажаце, што з людзьмі цяжка працаваць. Цяжка таму, хто разумець іх не хоча. Крыкні на чалавека раз-другі, а на трэці ён збярэцца і пойдзе ад цябе — рабі сам. Рабочых рук цяпер амаль на кожным заводзе не хапае — вунь аб'яў колькі. А за грошы, за адны грошы працаваць таксама дужа ніхто і не кінецца.

## ПРАПАНОВА

Інжынер сядзеў над чарцяжамі і разлікамі каля тыдня. Тую невялічкую высокатэмпературную печ, якую збіраўся рабіць, інжынер добра ўяўляў: яна павінна мець форму цыліндра, унутры якога будзе ўкладзена спіраль з тугаплаўкага дроту. Усё было разлічана: і даўжыня спіралі, і форма печы, і нават сістэма рэгулявання тэмпературы — заставалася адно: зрабіць печ.

На заводзе быў керамічны цэх, і думалася спачатку, што ніякіх цяжкасцей не ўзнікне: зробіць па чарцяжах драўляную загатоўку, абмажа яе спецыяльнай глінай, высушыць, у час абпальвання загатоўка згарыць, і печ амаль гатовая — пакладзі толькі спіраль. Так і было: чарцяжы, драўляная зага-

тоўка, абмазка глінай... Але пры сушцы гліна давала ўсадку, печ трэскалася — і ўсе чарцяжы, разлікі прападалі. Спачатку інжынеру здавалася, што ва ўсім вінавата спецыяльная гліна, потым думаў, што вельмі хутка сушаць, а тады... рукі апусціў.

Печ была яму вельмі патрэбна, праўдзівей, не яму, а заводу, і ён ужо даўно збіраўся зрабіць яе, бо ў серыйнай вытворчасці такіх печаў не было. Хмуры і злосны на ўвесь свет, і на сябе, што не можа знайсці выйсця з гэтага становішча, і на сваю работу, сядзеў ён у керамічным цэху, штосьці ляпіў і ўжо сам не ведаў што.

Інжынера добра ведалі ў керамічным цэху, ведалі, што ён робіць і што ў яго не атрымліваецца. І тады да яго падышла пажылая жанчына, якая ўсё жыццё працавала ў гэтым цэху.

— А мы вось так зробім... Вось глядзіце... Вакол драўлянай загатовачкі абкруцім гумавы жгут — на яго месцы і ляжа спіралька, а потым мы зможам выцягнуць з гліны загатоўку і жгут таксама. І не будзе печ трэскацца...

Калі інжынер афармляў рацыяналізатарскую прапанову, побач са сваім прозвішчам ён паставіў прозвішча той пажылой жанчыны з керамічнага цэха.

## СТАРЫ КАВАЛЬ

Аставалася месяцы тры да пенсіі, як ён застудзіўся — відаць, прахапіла сырым вясеннім ветрам, калі ўспацелы круціўся ля горна. Спачатку каваля палажылі ў гарадскую бальніцу, а тыдні праз два перавялі ў абласную. Там ён праляжаў з месяц, і, нарэшце, яго выпісалі — знайшлі адну з тых хвароб, што не вылечыць. Схуднелага —

адна скура ды косці — прывезлі каваля дамоў. Блізкія і знаёмыя яго не пазнавалі. Да хваробы гэта быў вельмі спакойны, поўны чалавек, з вялікім, як бочка, жыватом. Ніхто ніколі не бачыў каваля сумным — здавалася, галоўным заняткам гэтага чалавека быў смех, і, можа, таму невялічкі будынак, дзе размяшчалася кузня, быў на заводзе месцам адпачынку. Сюды часта заходзілі рабочыя ў вольны ад работы час, каб «пачасаць» язык, згуляць у абедзенны перапынак у даміно. А вось цяпер з бальніцы прывезлі нейкага скурчанага, зморшчанага дзядулю.

Ён ужо аб усім здагадаўся, хаця б па тым, што выпісалі з бальніцы, дазваляюць есці ўсё, што душа пажадае, нават па тым, як глядзяць родныя. За два месяцы ён навучыўся, як кажуць, чытаць думкі па тварах і таму злаваў на людзей, што з ліслівымі ўсмешкамі падыходзілі, супакойвалі — хутчэй сябе, чым хворага,— і, хаваючы вочы, хуценька выходзілі... Пастулова ён звыкся з гэтым — тады як бы прыўзняўся над зямлёю і адтуль, з недасягальнай вышыні, пачаў разглядаць жыццё чалавечае.

Шасцідзесяцігоддзе каваль сустракаў у ложку. Раніцай сабраліся жонка і дзеці, якія папрыязджалі з розных куткоў вялікай краіны,— у тыя дні яны ценямі хадзілі па хаце, не ведаючы, да чаго прыкласці рукі. Да ложка падсунулі стол, селі вакол яго, застаўленага ядою, першымі ў гэтым годзе кветкамі — пралескі цвілі ўжо. Пыталі ў бацькі: можа, вып'е трошкі ці з'есць чаго... І суседзі прыйшлі б, ды не хацелі турбаваць яго.

Ён бачыў і разумеў, што сям'і цяжка, але прытварацца, рабіць вясёлы выгляд у яго не было сіл. Ды і не хацелася. Нават крыўда брала — чаму падманваюць: кажуць адно, а думаюць другое.

Вясёлага сняданку так і не выйшла: паспрабавалі весяліцца — не атрымалася, і таму хутка разбрыліся па кутках.

У хаце зноў стала ціха.

Абедам застукалі нагамі ў сенцах, забубнелі: нехта прыйшоў. Жонка спытала, ці пускаць — з завода. Каваль кіўнуў — было ўсё роўна.

Прыйшлі начальнік цэха, у якім працаваў каваль, парторг завода і гадоў дзевятнаццаці, непрыгожы, увесь у рабацінні, рыжы хлапчына. Хлапчына ўвалок вялізны, ледзь не з метр, пакет, загорнуты ў паперу.

— Максімавіч, дзень добры! — на хаду распранаючыся, гучна і весела гукнуў парторг, жвавы па натуры чалавек.— А ты,— тут жа звярнуўся да хлопца,— разгортвай.

Начальнік цэха — чалавек ціхі, ніколі ні з кім у яго не былі ні сварак, ні непрыемнасцей; ён і цяпер увайшоў, кіўнуў галавою кавалю, як гэта рабіў раней, калі ўсё было добра, і застыў моўчкі ля дзвярэй.

Пачулася шастанне паперы — парторг памагаў хлопцу. Начальнік цэха ўсё стаяў, чамусьці разгублены, не ведаючы, што рабіць — памагаць ці распранацца.

— Распранайся, Іван Пятровіч,— сказаў слаба каваль. Яны ў адзін час, пасля вайны, прыйшлі на завод, адзін аднаго добра ведалі, можна сказаць, сябравалі.

Прыходам і мітуснёй людзі патрывожылі каваля — ніякай радасці, новых хваляванняў не ўзнікла, ён спакойна глядзеў на знаёмыя твары, на вельмі прыгожую вазу, мусіць, спецыяльна для яго зробленую. Такую вазу не на кожнай выстаўцы ўбачыш. У нізе вазы золатам былі адліты словы: шаноўнаму... у сувязі...

Нарэшце ваза была поўнасцю распакавана, парторг узяў яе аберуч, павярнуўся тварам да каваля:

— Ну, Максімавіч,— відаць, ён хацеў сказаць: «Ад імя калектыву і па даручэнню... дазволь мне...» — але, сустрэўшыся з позіркам каваля, замоўк і нават разгубіўся. А пасля, ужо другім тонам, сказаў:

— Ты сам ведаеш, Максімавіч, што я хачу сказаць. Павер, ад усяго сэрца... Раней не маглі прыйсці — цэх новы пачалі, сам разумееш, што гэта...

Толькі цяпер каваль заўважыў пад вачыма парторга сінякі, падумаў, што непрыемнасці па адной не бываюць...

Начальнік цэха дастаў аднекуль бутэльку віна і, падсунуўшы з дапамогай хлопца стол да ложка, стаў пацíху гаспадарыць: пайшоў у другую палавіну хаты да жонкі каваля, і тая хутка пачала насіць на стол закуску. Відаць, начальнік цэха асвоіўся, бо рабіў усё спакойна, як у сваёй хаце. Хлапчына таксама круціўся ля стала, нешта ставіў, перастаўляў.

— А гэта хто такі? — спытаў каваль у начальніка цэха, ківаючы на хлопца, калі ўжо ўсё на стале было гатова і госці, жонка, дзеці сядзелі на крэслах наўкруг стала.

— Ды гэта Коля... Як прыйшоў на завод, даведаўся, што ў кузню вучань трэба, дык, пакуль не паставіў,— не адчапіўся. Тры дні папрацаваў, а на чацвёрты рукі абсмаліў, тыдзень на бальнічным лісце... А вось цяпер да цябе напрасіўся... Гэта Коля! — шматзначна працягнуў начальнік цэха і паглядзеў на хлопца. Той засаромеўся, нібы дзяўчо-падлетак, заліўся чырванню і схаваў рукі ў кішэні.

Каваль падумаў, што гэтае рыжае хлапчаня, відаць, дастаўляе многа клопату начальніку цэха, але чамусьці начальнік цэха любіць яго.

— Як гэта ты ўмудрыўся? — нечакана для сябе спытаў каваль.

— А-а я-я з-за-гат-тоўку п-пад-няў,— хлапчына быў заіка, стаў гарачыцца, стараючыся як найлепш растлумачыць кавалю, ён нават паказваў, як падымаў загатоўку.

У людзей, што сядзелі за сталом, з'явіліся ўсмешкі, і каваль у гэты час успомніў кузню, уявіў, як гэты небарака-хлапчына бярэ абцугамі з горна белую загатоўку, нясе яе да молата, тут загатоўка падае...

— В-во якія...— з гонарам нечакана тыцнуў хлопец кавалю пад нос далоні з чырвонай скурай, якая толькі што загаілася.

Каваль паглядзеў у вочы хлопцу, вялізныя і адкрытыя, і адчуў раптам, што ў грудзях ягоных нешта расплываецца... Ён апусціўся на падушкі, павярнуўся тварам да сцяны і ўпершыню заплакаў.

Госці пайшлі з хаты. Яны яшчэ ніколі не бачылі, каб мужчына так плакаў; моўчкі, не гледзячы адзін на аднаго, дайшлі яны да скрыжавання вуліц і разышліся.

# СПЕЛЫЯ ЯБЛЫКІ

## 1

Антон Лапавухін прыехаў дамоў позна, апошнім рэйсавым аўтобусам, калі ўжо ў сяле амаль ні ў кога не свяціліся вокны, і толькі з акон іхняй хаты лілося белае з фіялетавым адлівам, як ад электразваркі, святло.

Ні весніцы, ні дзверы не былі зашчэплены. Калі Антон ціха зайшоў у хату, убачыў маці — яна спала на ложку, адкінуўшы галаву на падушцы. Гудзеў тэлевізар, перадачы даўно скончыліся, але ён быў уключаны і запаўняў пакой усё тым жа бледна-фіялетавым святлом, што плямамі ляжала ў двары пад вокнамі.

Антон шчоўкнуў выключальнікам — успыхнула, аж зажмурыўся, сотка-лямпачка, ад святла яе стала цяплей і весялей, у хаце стала відно, хоць іголкі збірай; выцягнуў з разеткі шнур ад тэлевізара — экран паволі пагас і ўсталявалася цішыня, бы вушы заклала... Тады толькі прачнулася маці.

— А-а, хто тут? — яна ўсхапілася, спрасоння нічога не зразумеўшы, пачала церці вочы абедзвюма рукамі, пасля агледзелася, працягнула здзіўлена: — Ты-ы...

— Я,— сказаў Антон, быццам без гэтага «я» маці яго і не пазнала б. Сеў на ўслон ля стала. Заўважыў, што ўвесь час трымае партфель у руках.

— А я, гэта, праспала. Усё кіно чакала. Чакала, чакала і — нá табе — заснула,— апраўдвалася маці.— Заморышся за дзень, набегаешся, налётаешся — ні рук, ні ног не чуеш...

Маці гаварыла, запліквала на сабе плаццe, а вочы яе пыталіся аб другім: ну, як ты, што новага...

Коратка, імгненнем, не сустракаючыся з позіркам маці, Антон заўважыў — пастарэла... Антону здалося, што маці пастарэла толькі за гэтыя два месяцы, якія не быў дома. Мо ўсё гэта здалося толькі таму, што маці цяпер была без зубоў — дзве белыя пласцінкі з зубамі ляжалі ў кружцы з вадою,— ці мо проста такою паказалася пасля сну...

Нарэшце маці апранулася, ступіла босымі нагамі на падлогу, паправіла валасы адной рукой — чамусьці яна здалася Антону на дзіва маленькай.

— Ну, дык што... Ты ж, мусіць, з дарогі і есці хочаш. Я цяпер і не вару, праўда. Адна — дык і не хочацца варыць. Яно даўней, як сям'я была, ахвота брала. А цяпер дык аблянела...

Антон слухаў маці і думаў пра іншае, бы гаварыў яму хто:

— ...Вось ты і дома. І забудзь на той боль і на тыя пытанні, што трывожылі і не давалі спакою, і глядзі на сваю пастарэлую маці. Бачыш, яна рада твайму прыезду. Ты зараз павячэраеш і заснеш, каб назаўтра ўстаць і выйсці на двор, станеш і не звядзеш вачэй з нізкіх шэрых хмар, з туману — усё гэта вецер пацягне некуды ўдаль, за той сіні лес... А пасля пойдзеш пад паветку і пачнеш складаць у складню дровы, бо больш важнай і значнай работы для цябе не будзе ў той ранак. Ты будзеш усё гэта рабіць, каб белаю зімою маці змагла прыбегчы да складні і, хукаючы ў чырвоныя ад марозу пальцы, набраць ахапак палення, а затым пакінуць на снезе свае сляды, што павядуць да парога.

І будзе стаяць маці ля печы, і кідаць у яе агняны зеў паленне, і глядзець на чорныя пузатыя чыгуны, схіліўшы галаву набок.

— Але чаму ты забываешся на той канец, да якога набліжаецца чалавек, да якога і ты падыдзеш, і твая маці...— бы другі голас, цвярозы і сухі, сцвярджаў іншае, прымушаў думаць пра тую мяжу між імгненнем і вечнасцю, быццам у ёй, той мяжы, хавалася разгадка ўсіх пытанняў, што трывожылі Антона ў апошні час. Таму і кінуў Антон Лапавухін заняткі ў інстытуце, каб на дзень-два паехаць дадому і знайсці там спакой. Але цяпер, калі Антон ужо сядзеў у роднай хаце і глядзеў на маці, спакою не адчуваў, а наадварот...

— Ты, можа, захварэў ці здарылася што? — маці ўсё ж не вытрымала.

— Ды не, добра ўсё. Заўтра ж бацькава гадавіна — дык я і прыехаў,— Антон паглядзеў нарэшце маці ў вочы, і яна хутка адвяла позірк.

Маці нешта недагаворвала, і Антон адчуў гэта, падумаў, чаму не хапае аднаго-двух слоў, каб не стала недасказанасці.

Упершыню адчуў Антон такую недасказанасць з год назад, калі хворы бацька ляжаў у ложку і з цяжкасцю гаварыў — даваў парады, як касіць. «Ты на пятку касы націскай і локаць ад сябе не дужа адпускай, на пятку націскай»,— казаў бацька і глядзеў у вочы. «Ды нічога, палучыцца»,— адказваў Антон. Ужо апрануты, ён стаяў у парозе хаты, як бы чакаючы бацькавага дазволу ісці касіць дзялянку, што далі ў калгасе за здадзенае малако. І вось тады Антон адчуў, што хоча бацька сказаць нешта іншае, не пра касьбу, не, пра нешта іншае, але не можа...

Антон успамінаў тую, не дужа далёкую, раніцу, калі за акном імжэў дробны дождж, бы густы ту-

ман на зямлю садзіўся, і глядзеў на маці, што рэзала скібкамі хлеб, лажыла ў талеркі мочаныя памідоры, агуркі.

— А мы во заўтра каня папросім — бульбу трэба перааараць. Я ўжо і не спадзявалася. Дзе там адной... Ужо многія перааралі, у такіх во, як я, асталася... Замаразкі скора — па радзіву перадавалі.

## 2

— Уставай, сынок,— будзіла маці,— людзі па коней ідуць.

Антон прачнуўся адразу, быццам і не спаў. Тады ўспомніў сон.

Стаіць ён у сваім двары і нечага чакае. На душы ў яго трывожна. На дварэ не то раніца, не то вечар — змрачнавата і ветрана. Але вецер толькі там, уверсе, а на зямлі ціха і не ветрана. І тады быццам мноства птушак замахала над галавою крыламі — такое было з Антонам у маленстве, калі на выгане ў час летняга дажджу злавіў рукамі маладую варону, што толькі-толькі вучылася лётаць. Яна стала каркаць, ірвацца з рук, і тут, немаведама адкуль, зляцеліся вароны, яны шумна білі аб паветра крыламі, каркалі, нізка, амаль над галавою, лёталі...

Антон глянуў угору — убачыў бацьку. Плыў сярод хмар бацька, бы ветрам яго адносіла, вялікага-вялікага, плечы ягоныя хаваліся ў воблаках, а ногі былі ля самай зямлі. І радасна і страшна стала Антону. Радасна было ад таго, што бацька быў перад вачыма, жывы здаровы бацька, а страшна, што вельмі ўжо вялікі быў бацька, і невядома, куды ён плыў. Антону вельмі хацелася, каб бацька ўбачыў

яго, сказаў хаця б што, але ён нават і не паглядзеў у яго бок.

Антон апранаўся, абуваў кірзавыя бацькавы боты і ўвесь час думаў пра дзіўны сон. І хоць разумеў добра, што ў гэтым сне, як і ў любым сне, не варта шукаць сэнсу, але чамусьці ўвесь час пытаў сябе, куды плыў бацька, чаму ён нічога не сказаў Антону, нават не паглядзеў на яго...

На дварэ ўжо добра развіднела. Ноччу выпаў першы снег, невялічкі, толькі зямлю прыбяліў, але снег гэты быў не страшны — зямля яшчэ цёплая і снег павінна было сагнаць.

Антон есці не стаў, сказаў маці, што паснедае пасля, калі коней прыгоніць, і выйшаў на вуліцу.

Даўней, калі быў малы, першы снег заўсёды прыносіў радасць, нават нейкую таемнасць, але сёлета Антон упершыню не адчуў гэтага і здзівіўся, праўдзівей, спытаў сябе, чаму так,— апошні час ён не мог ні здзіўляцца, ні радавацца, быццам задзеравянела ўнутры ўсё.

Антон крочыў да калгаснага двара і думаў пра дзіўны сон. І зноў, як і ўчора, як і пазаўчора, як і кожны дзень перад гэтым, пачыналі трывожыць яго думкі-пытанні, быццам побач стаялі двое і кожны раіў, прапаноўваў сваё, а ён, Антон, павінен слухаць і выбіраць адну з дзвюх парад.

...На калгасным двары, дзе снегу ўжо амаль не было — яго растаўклі нагамі, калясьмі, машынамі,— сабраліся людзі. Усе стаялі ля канюшні, гаманілі пра апошнія навіны ў сяле, жартавалі: чакалі брыгадзіра. Скора паказаўся і ён, чырванашчокі, моцны на від, малады мужчына з вялікаватым жыватом, што выпінаўся з-пад паліто.

Была нядзеля — выхадны, многія, як і Антон,

4 Зак. 2407

збіраліся перааараць бульбу. Брыгадзіра адразу ж абступілі, але той коней даваць пакуль і не думаў: хадзіў па двары і склікаў трактарыстаў, шафёраў. Следам за брыгадзірам хадзілі гуртам людзі — кожны баяўся праваронiць коней.

— Хлопцы,— казаў брыгадзір, калі сабраў механізатараў,— сягоння, як я казаў, трэба к дванаццаці ў першую брыгаду. Збіраемся тут, роўна ў палавіне дванаццатай. Прашу не спазняцца. Будзем падводзіць вынікі ўборачнай: каму наганяй, а каму і прэмія.

З механізатарамі брыгадзір гаварыў без начальніцкага тону, нават жартаваў.

Потым брыгадзір падышоў да дзвярэй канюшні. Яго адразу ж абступілі, і амаль кожны казаў, як прасіў: «Паўлавіч, мяне ж не забудзь...»

Спачатку коней далі механізатарам і ездавым, а тады ўжо — каму папала... Неяк з-за спін вынес уперад, да Паўлавіча, свой дзюбаты нос калгасны бухгалтар: «Ну, калі па старшынству, дык і мне трэба».

— Калі трэба, дык — на...

Перад брыгадзірам увесь час круцілася згорбленая ў крук старая; яна трымалася за ягоны рукаў і, стараючыся заглянуць у вочы, час ад часу паўтарала: «Унучык на выхадныя прыехаў, можа, дасі мне, адна я... Унучык учора прыехаў...» Але брыгадзір упарта не заўважаў старой, круціў наўкруг галавою, выглядваў, каму яшчэ даць коней, і раз-пораз пытаўся ў конюха: «Ну, коні яшчэ там ёсць?»

— Усе коні,— нарэшце гукнуў з канюшні конюх Шура — жыў ён праз пяць хат ад Лапавухіных,— а пасля, цішэй, дадаў: — Я сабе парку вазьму, а то за работай і перааараць некалі.

— Астатнім у другі раз.— Брыгадзір аж паве-

сялеў, цяжкая гэта работа — раздаваць коней. Ён павярнуўся і пайшоў з двара, схаваўшы рукі ў кішэнях паліто, не аглядваючыся, бадзёра і хутка.

Паўлавіч — брыгадзір новы, прыезджы. Даўней у сяле быў свой брыгадзір, тутэйшы, Бурдаў. Быў ён, праўда, без спецыяльнай адукацыі, але справы ў брыгадзе пры ім ішлі няблага. Хоць і крычаў часта Бурдаў на людзей, і сароміў, і гразіўся, і сварыўся, але за дваццаць год брыгадзірства мала хто ў сяле быў на яго пакрыўджаны. Бурдава звольнілі за грубасць. Яно, каб веданне, дык і не было б гэтай грубасці, але дзе ж ты ўсё будзеш ведаць? А здарылася гэта так. Неяк у полі падышлі да яго двое незнаёмых і спыталі, чаму гэта коней пасуць на канюшынішчы — скасіць спачатку траву трэба. А Бурдаў быў гарачы, не сцярпеў і выказаўся...

Нейкі час Антон яшчэ стаяў ля канюшні і глядзеў, як разыходзяцца людзі: хто з коньмі, хто так.

— Што, дамоў пойдзем? — звярнуўся ён пасля да суседа дзядзькі Іллюка. Дзядзька Іллюк, як і Антон, моўчкі прастаяў на ферме ўвесь час, як давалі коней.

— Пайшлі, што тут рабіць...— згадзіўся дзядзька Іллюк.

— Твая маці і я — цяпер людзі старонніе, пенсіянеры...— казаў-развражаў дзядзька Іллюк.— Нам цяпер апошнім...

— Нічога, ён жа сказаў: не сёння, дык заўтра,— адказваў Антон, чамусьці яму было непрыемна, быццам бы дзядзька Іллюк не тое гаварыў... А і праўда, няўжо брыгадзір павінен быў даваць коней спачатку пенсіянерам, а пасля ездавым і механізатарам?

Дзядзька Іллюк жыў у вялікай, хоць у скокі пускайся, хаце. Жылі калісьці ў ёй здаровыя, як камлюкі, сыны дзядзькі Іллюка. І нечакана за

адзін год іх не стала: адзін захварэў, а другі папаў у аварыю. Пасля таго года і асунуўся дзядзька Іллюк: ягоныя пышныя саламяныя вусы пасівелі і, як ён іх ні падкручваў пальцамі ў час гамонкі, былі яны ўжо не тыя. Дзядзька Іллюк стаў горбіцца, і нечакана ўсе ў сяле заўважылі, што ён ужо дзед. У сяле так часта было: здаровыя і моцныя на выгляд мужчыны станавіліся старымі хутка, за які год-паўгода. Яны ішлі на сяло па загуменні, і Антон успамінаў, як гэтаю дарогай маці не так і даўно праводзіла яго на вучобу ў далёкі і незнаёмы горад. Антон не хацеў тады, каб маці ішла да прыпынку, але яна сама напрасілася. З авоськаю ў руцэ яна то забягала наперад, то аставалася ззаду, то пачынала гаварыць, то, быццам успомніўшы нешта, змаўкала...

Быў чысты летні ранак. Яны памалу ішлі да прыпынку міма ліпы Нямога — на ёй, на самай вяршыні, было калісьці буслава гняздо, але, пасля таго як Нямы памёр і вокны ягонай хаты забілі дошкамі, буслы перасталі прылятаць.

І вось паказаўся аўтобус, пamяты, латаны аўтобус, які пускалі толькі на прыгарадныя маршруты. Ён яшчэ здалёк грымеў, падскокваў на калдобінах, і ў грымоце ягонай чулася Антону: «Я павязу цябе адсюль...» І, угледзеўшы аўтобус, гора сваё і сум свой, маці пачала чапурыцца, папраўляць на галаве хустку — збіралася пацалаваць Антона, але той зрабіў выгляд, што нічога не заўважае... Чамусьці яна заплакала, дастала з кішэні парванай куфайкі рубель з капейкамі і старалася неўпрыкметку ўсунуць яго ў рукі Антона. Антон не браў, адводзіў рукі, гаварыў, што хопіць яму тых, пазычаных...

— А ці помніш ты, як кароў з бацькам пасвіў вунь у тым куце? — нечакана, без усякай прычыны, перабіў успаміны Антона стары Іллюк. Ён кіўнуў

галавою ў той бок, дзе поле рогам «заходзіла» ў лес, і пільна паглядзеў на Антона.

— Помню, чаму ж не,— адказаў Антон і таксама паглядзеў у кут. Там быў калісьці хмызняк, у якім добра хадзілі каровы. Антон адразу ж згадаў той восеньскі дзень, калі разам з бацькам мок ад самага полудня пад спорным восеньскім дажджом — касыя доўгія ніткі цягнуліся густа з неба да мокрай гразкай зямлі, і нідзе ад іх нельга было схавацца: ні пад цяжкімі намоклымі плашчамі, ні пад старой разлапістай ялінай. Каровы таксама мала хадзілі — пазалеўшыя, яны больш стаялі, збіўшыся ў гурт. І тады бацька рашыў гнаць кароў дамоў, хай сабе даяркі і сварыцца будуць. Нічога страшнага, калі на паўгадзіны раней прыгоняць. Бацька вылез з-пад яліны і пайшоў заварочваць кароў. А дождж усё большаў і большаў, і вецер тыя ніткі, што цягнуліся ад неба да зямлі, сплятаў, звіваў. І Антону таксама трэба было вылазіць з-пад яліны, але не хацелася — ногі ў ботах сагрэліся і ягоныя скалеўшыя рукі, засунутыя пад кашулю, бліжэй да цела, таксама.

— ...Расчысцілі, поле зрабілі. Глядзі ты, як час ідзе,— як бы здзіўляўся стары Іллюк.— Вырас ты, вучышся, вялікім чалавекам скора будзеш...

Антон моўчкі слухаў. Апошнім часам яму стала здавацца, што многія людзі размовамі хочуць выказаць нешта іншае, не тое, пра што гавораць, а тое, што іх трывожыць і хвалюе, але што — людзі і самі не ведаюць, таму і стараюцца памалу гаварыць, прыслухоўваючыся да сябе і субяседніка, чакаючы, што вось-вось зразумеюць і скажуць уголас, што ж іх трывожыць... Антон падумаў, што да такіх людзей належыць і стары Іллюк.

Маці стракатала на стале швейнай ручной машынай — нешта шыла.

— Што, няма коней? — павярнула яна галаву, калі Антон, бразнуўшы дзвярыма, зайшоў у хату.

— Няма,— сказаў Антон. Ён зняў з галавы шапку, павесіў яе на крук, убіты ў сцяну ля дзвярэй.

— Няма — дык няма. Снедаць во садзіся. Паясі і аддыхаць будзеш.

Адсунуўшы на край стала машыну і шытво, маці вынесла з кухні на гэты ж стол міску з капустаю, прынесла хлеба, сала.

— Можа, вып'еш трошкі, каб смачней елася? — пыталася маці і глядзела Антону ў вочы.

— Не.— Антон не піў гарэлкі. Не піў таму, што не любіў быць п'яным.

Антону заўсёды хацелася мець яснасць у паняццях, падзеях, ён хацеў ведаць, чаму кожны чалавек паводзіць сябе ў жыцці па-рознаму... Таму і паступіў ён вучыцца ў інстытут, думалася, што пасля заканчэння зможа адказаць сабе на безліч тых пытанняў, якія пачыналі трывожыць у школе. Менавіта толькі пачыналі — амаль нічым асаблівым сярод другіх вучняў Антон не вылучаўся, толькі калі-нікалі рабіўся задуменны і ціхі, бы пакрыўджаны кім. У такі час ён думаў, як дзіўна, што ён, Антон Лапавухін, жыве тут, у гэтым сяле, і менавіта цяпер, а не даўней ці ў будучым, і не верылася, што магло б яго і не быць; ён з лёгкім сумам глядзеў на прыроду, на людзей — усё, што акружала, здавалася нерэальным, быццам ахутаным нейкай музыкай ці песняю. І той сум, што напаўняў яго ў такія хвіліны, быў празрысты, бо прыносіў не адчай і трывогу, а новую прагу жыцця. А потым Антон як бы прачынаўся, задуменнасць яго праходзіла, адсоўвалася клопатамі, крыклівай радасцю — усім, чаго так многа ў пятнаццаць-шаснаццаць год.

## 3

Бацька захварэў вясною, калі Антон заканчваў першы курс. Ён рэдка хварэў, быў не дужа стары, мінула толькі два гады, як пайшоў на пенсію. Пачалося з прастуды, і ні Антон, ні маці, ні, відаць, сам бацька не думалі тады, што ўсё так скончыцца.

Вясной Антон паехаў з будатрадам на Поўнач — круціцца на адну стыпендыю было цяжкавата. Лета прайшло хутка, не паспеў агледзецца, і восенню, калі на пару тыдняў прыехаў Антон дадому, здзівіўся — бацька быў у бальніцы. Антон некалькі разоў вазіў да бацькі ў горад перадачы, яны спрабавалі гаварыць, але неяк таропка і не пра тое, пра што збіраліся,— абое, і сын і бацька, былі разгубленыя. А пазней, месяцы праз два, калі вучыўся, маці выклікала Антона тэлеграмай.

Ён прыехаў на змярканні ўвечары, адкрыў веснiцы і ўбачыў у двары маці. З кашалём за плячыма яна спяшалася на агарод.

— Што з бацькам? — замест прывітання спытаўся Антон.

Маці павярнулася на стук весніц і, уздрыгнуўшы, застыла.

— Дрэнна,— адзінае, што сказала яна тады.

— А дзе ён?

Маці кіўнула галавою ў бок хаты, быццам таямніцу выдавала.

І ад гэтага ківання, ад выгляду самой маці — згорбленай і ціхай — Антону стала не па сабе, ён таропка пайшоў у хату.

Бацька ляжаў у спальні на старым ложку. За два месяцы ён схуднеў так, што Антон яго ледзьве пазнаў: жоўтыя шчокі запалі, уваліліся, нос стаў

доўгі і тонкі, бы чужы, вочы глыбокія і на дзіва спакойныя, нават абыякавыя.

Перад ложкам стаяла крэсла, на ім былі слоік з мёдам, гадзіннік, пачак папярос і яшчэ нешта, што — Антон адразу не разабраў.

Нейкі час Антон і бацька глядзелі адзін на другога, бы не пазнавалі.

— Ну, здароў, сын,— белая дрыготкая далонь бацькі памалу высунулася з-пад байкавай коўдры і, пагойдваючыся ў паветры, пацягнулася да Антона. Антон сціснуў яе слаба.

А тады, яшчэ і сам не ведаючы навошта, Антон памалу апусціўся на калені перад ложкам і пацягнуўся вуснамі да бацькавага твару — быццам хто другі загадаў зрабіць так, а не інакш, загадаў гаварыць:

— Тата! Тата!

Нешта страшнае насоўвалася на Антона, бы глядзеў ён нечакана ў нейкую бездань і нічога, акрамя цемені і холаду, не ўбачыў і не адчуў.

Антону стала горача, слёзы ягоныя мяшаліся са слязьмі бацькі, і ён чуў:

— Ну, што ты, што ты...

Потым Антон чуў маці:

— Хопіць, хопіць, Антон. Бацьку дрэнна будзе.

Ён адарваўся ад бацькі і выйшаў на двор. Ужо сцямнела добра, і зоркі зернем высыпалі на чорным небе. Антон стаяў пасярод двара і давіўся слязьмі.

Усю ноч прасядзеў Антон на крэсле перад ложкам, дзе ляжаў бацька. Антон успамінаў тыя дні, гадзіны, калі быў разам з бацькам. То ён бачыў сябе яшчэ зусім малым: першы раз бацька ўзяў Антона ў лес, і там яны ўбачылі зайца. Спалохаліся тады і Антон і заяц, кінуліся ў розныя бакі. Антон бег да бацькі і крычаў: «Звер, звер...» А бацька смяяўся: «Ды гэта ж — заяц». То ўспамінаў сябе

больш сталым, калі памагаў пасвіць кароў: тыя дымныя росныя ранкі, калі павалі выпаўзала з-за лесу агромністае чырвонае сонца, тыя доўгія цені, пералівы фарбаў на небе... І тое, што каровы лезлі ў жыта, у бульбянішча і ім, Антону і бацьку, прыходзілася бегаць за каровамі і крычаць: «Кудый, ку-дый, каб вас воўк...» І стамляліся, і гудзела цела, і злосць брала...

Антон думаў пра бацькава жыццё, і адна думка ўсё часцей і часцей прыходзіла да яго — няўжо яно павінна абарвацца.

Раніцаю, калі шэрае святло стала прабівацца ў хату скрозь вокны, бацька расплюшчыў вочы.

— Як спалася? — спытаў Антон.

— Нічога, толькі ноч доўгая была.

Яны памаўчалі. Вось тады і адчуў упершыню Антон, што трэба нешта сказаць бацьку, ды і бацька, відаць, нешта хоча сказаць ці спытаць, але...

Ад таго дня запомнілася Антону касьба і выгляд маці, калі яна прыбегла з сяла на пожню: заплаканы твар яе, і слёзы, і шэпт: «Бацька садок хоча паглядзець». І іх бег да хаты, і дрыжачыя пальцы, што ніяк не маглі нацягнуць на бацькавы ногі стоптаныя валёнкі. І тое маўчанне, калі глядзелі на голыя без лісцяў яблыні, якія бацька пасадзіў адразу ж пасля вайны, як вярнуўся з фронту, тыя вуллі пчол — вуллі былі пустыя, бацька ўсё збіраўся купіць пчол, але не выходзіла: то не хапала грошай, то не было ў каго; тое жардзё, што ляжала грудам ля плота — пара гарадзіцца... І той крык жураўліны, што ўдарыў Антона ў грудзі, бы піхнуў хто яго,— яны ўсе трое паднялі галовы і сталі глядзець угару, на ледзь бачны клін. І той парывісты, ужо халодны вецер, што сарваў з галавы бацькі шапку, летнюю, вайсковую, якую маці таропка каравымі дрыжачымі рукамі падымала з мо-

край зямлі і выцірала яе, усё хаваючы вочы... І галава бацькі, лысая, з сіне-чорнымі плямамі пад вачыма. І той пякучы боль, што круціў, скручваў Антона, бо кожны рух, кожнае слова абуджалі ў памяці мноства такіх жа імгненняў, якія ўжо былі, і таму Антон хацеў скласці ўсё, і мінулае і сучаснае, у адно, але нічога не выходзіла — бацькава жыццё, як і ягонае, разбівалася на нейкія кавалачкі, драбнілася...

Пасля смерці бацькі былі яшчэ ноч і той сон.

...Стаіць Антон у двары і праз акно глядзіць, што робіцца ў хаце. А ў хаце нікога няма, толькі адзін бацька ляжыць у куце на дошках, засланых белаю тканінай. І бачыць Антон, як памалу падымаецца бацька, ідзе ў другую палавіну хаты да стала, на якім стаяць міскі з ядою і налітая ў бутэльках гарэлка. І п'е і есць бацька. А пасля ў руках ягоных з'яўляецца гармонік, і бацька, які ў рукі яго ніколі не браў, пачынае іграць і спяваць. Пяе бацька, і па тым, як расцягваецца і сціскаецца мех, як бегаюць па белых гузіках пальцы, Антон здагадваецца, што пяе бацька нешта вясёлае. Але гукаў Антон не чуе, нічога не чуе. Толькі час ад часу трывожыць адна думка — гэта ж сон. А можа, не, не сон?

З гэтай думкай Антон і прачнуўся, вясёлы і шчаслівы. Убачыў маці, што сядзела ля бацькі,— ён ляжаў там, у куце, якраз дзе і сасніўся,— пачуў шэпт суседак, што сядзелі побач з маці, стук малаткоў у двары, дзе мужчыны забівалі ў габляваныя дошкі цвікі, якія ўжо не выцягнеш, ніколі не выцягнеш... І зноў і зноў той погляд у бездань, і жах, і адступленне...

А пасля, як збавенне, была зацятасць і маўклівасць, нават абыякавасць. Толькі калі хто да яго звяртаўся, ён пра сябе паўтараў, хто і што яму ска-

заў. І калі глядзеў на што, таксама, як хто другі гаварыў яму, што дзе робіцца. Нейкім пачуццём разумеў Антон, што самае галоўнае ўжо пройдзена, здарылася...

## 4

За сняданнем Антон надумаў схадзіць да дзядзькі Віктара. Віктар і бацька ганялі калгасных кароў на пашу, даглядалі іх разам зімою: падвозілі кармы, убіралі гной. Дзядзька Віктар і цяпер працаваў на ферме, толькі ўжо ля цялят — памагаў даглядчыцам. За ім лічылася пара коней, і, хто ведае, можа, пасля абеду яны і свабодныя.

Антон знайшоў дзядзьку Віктара — ён выязджаў з цялятніка на конях.

— Здароў, дзядзька! — сказаў Антон, падышоўшы да калёс.— У мяне да вас просьба.

— Здароў. Тпру-у! Ну, хваліся, што там у цябе,— ён глядзеў на Антона і ўсміхаўся.

— Можа, коней дадзіце пасля абеду, калі свабодныя будуць. Бульбу хачу пераараць.

— Коні свабодныя, але ж і брыгадзір сварыцца будзе, калі даведаецца.

Дзядзька Віктар таксама прыезджы. Жыў ён калісьці ў другім калгасе. Калгас там быў слабенькі, зараблялі людзі мала, і ад горада далекавата. Калі дзеці дзядзькі падраслі крыху, тады і наважыўся ён прыехаць сюды: як-ніяк, а калгас мільянер, ды і дзяцей лягчэй уладзіць — горад пад бокам.

— А-а, пакрычыць і на сваім сядзе... Грэх табе адмовіць. Мы ж з тваім бацькам дружбакі былі, праўда? — дзядзька Віктар усміхнуўся.

— Былі,— падтакнуў Антон і ўсміхнуўся адны-

мі вуснамі.— Тады, можа, памагу, каб хутчэй было?

— Ну, то давай. Садзіся на калёсы. А то мае бабы лянівыя, ох, якія лянівыя... Но-но-о! — дзядзька Віктар шлёгнуў коней. Але тыя, відаць, ужо добра ведалі спакойную і не сярдзітую натуру дзядзькі: памалу, нага за нагу, цягнуліся па дарозе.

— Вось мы зараз саломы цяляткам прывязём, цюкаванай, і ўсё — бяры коней. Праўда, накарміць іх спачатку трэба. А брыгадзіру так і скажу: не да мяне, дык да цябе заўтра прыйдзе. Трэба чалавеку перааараць — трэба. Тым больш што халады пачаліся. Ранавата яшчэ снегу лажыцца, але ж хто яго ведае, цяперашняй пагодай... То засуха, то макраццё, то зіма без снегу.

Гаварыў дзядзька Віктар павольна, смакуючы кожнае слова. У старых людзей Антон стаў часта заўважаць гэтую звычку: не сцвярджаць, а разважаць. Цікава было слухаць дзядзьку Віктара — што-што, а пагаварыць ён любіў.

Прыехалі, нарэшце, да саломы, развярнуліся. Ля скірды былі ўжо даглядчыцы, яшчэ не зусім старыя, год пад сорак, жанчыны.

Жартуючы, бабы пачалі кідаць на воз цюкі саломы і хутка завалілі імі дзядзьку — той ледзьве ногі выцягваў. Антон узлез на калёсы і стаў памагаць: укладваў вялікія, але лёгкія цюкі. Пасля яны ўвязалі воз вяроўкаю і паехалі да цялятніка. Там разгрузіліся і паехалі зноў па салому.

Рыпелі калёсы. Антон і дзядзька Віктар сядзелі на возе, звесіўшы ногі.

— Вот кончыш ты вучобу і кім жа ты станеш? — пытаўся дзядзька.

— Не ведаю яшчэ, куды накіраванне будзе... Ды мне і вучыцца доўга. Можа, у інстытуце якім застануся, можа, на заводзе інжынерам...

— Ну, вядома ж, сюды не пападзеш. Но-но-о, каб на вас мухі не садзіліся... Гразі баіцеся, далікатныя дужа... А вот я табе так скажу — на ўсё звычка трэба. Пасля вайны паспрабаваў я на заводзе рабіць. Цяжкавата з грашыма было, а што тады ў калгасахараблялі — капейкі старымі грашыма... Ну, паехаў я тады ў горад. І ведаеш, не вытрымаў, назад вярнуўся. Яшчэ днём туды-сюды: рукі работай заняты, а вечарам — сядзі на лаўцы, рукі сашчапіўшы... Я табе так скажу, як маладому, дык горад ён, можа, і трэба. Вот едзе цяпер моладзь з сяла. Ды і ты сам паглядзі, на пальцах можна пералічыць, хто ў сяле застаўся. Думаеш, за грашыма? Не-е, вунь трактарысты па дзве сотні ў месяц выганяюць, хай які дырэктар столькі заробіць. Яно сабе і праўда: хто за культурай едзе, а хто ад работы ўцякае. Што б там сабе ні казалі, а ў сяле работы болей, чым у горадзе: пасяўную кончыў, пачынай уборачную... І ў калгасе і дома: то плот, то страха,— ат, ні табе выхадных ні прахадных... Цьфу,— пляваўся дзядзька і казаў далей: — Яно сабе ў сяле многа работы і дурной, гэта я табе праўду скажу,— ці ад старыны гэта ўсё ідзе, ці так устроены чалавек: не можа пасядзець без работы. Вот глядзі сам: трымаем мы карову, свінней пару, як закон, курэй штук пятнаццаць, а хто гусей... Здаецца, добра, гарадскія кажуць — у іх сваё ўсё. А на самай справе палічы, колькі мы на іх грошай бухаем. Ты што — пракорміш усю гэту прорву з трыццаці сотак? Вот і цягнеш: той з магазіна, а той яшчэ адкуль... Дык якая тут выгада? Ат, пераводъ толькі грошай... У горадзе яны хітрэйшыя: зарабіў, купіў гатовае і з'еў — і ніякіх табе нерваў. Восем гадзін адрабіў і свабодны, і два выхадныя, і футбол паглядзіш, і на пляж сходзіш... На сенакос летам паедзеш, глянеш, што на беразе робіц-

ца,— бела... А ты з касой ці з граблямі потам умываешся.

Калі другі раз прывезлі саломы цялятам, калі накармілі коней, калі ўволю нагаварыўся дзядзька Віктар пра выгады і пралікі вясковага жыцця, калі ўжо збіраўся Антон ехаць дамоў, падышоў бязвокі Ігнат. Бязвокага Ігната ў сяле мужчыны не дужа і любілі — гэта быў занудлівы, ціхі мужчына, які быў яшчэ не дужа і стары, але для саліднасці адпусціў бараду. Справа ў тым, што бязвокі Ігнат заўсёды стаяў гарой за праўду і справядлівасць, але чамусьці так атрымлівалася, што ад ягонай справядлівасці мала каму лягчэла.

— Віктар, мне коні трэба — жардзё прывезці.

— А можа, мы заўтра прывязём, га, Ігнат? Я раней запрагуся... Во хлопец памагае, бульбу хоча пераараць. Паедзе вучыцца, а дзе там адна старая справіцца?

— Яно можна і заўтра, я ж і не супраць, сягоння толькі ямкі пад слупкі выкапаю. Але ж ведаеш, Паўлавіч сказаў: «Вазьмі сёння ў Віктара коней і прывязі жардзё, што ляжыць ля зернясховішча». Каля цялятніка плот гарадзіць буду. Яно, канечне, калі трэба, але ж... Каб толькі Паўлавіч не сварыўся.

Антон залез на калёсы, усміхнуўся дзядзьку Віктару і сказаў бязвокаму Ігнату:

— Садзіцеся, дзядзька, па жардзё паедзем.

Пакуль да зернясховішча даехалі, нагрузілі калёсы жардзём, назад да цялятніка прыехалі, разгрузіліся, прайшло з паўгадзіны. І ўвесь час Антон чуў бязвокага Ігната, надаедлівага і непрыемнага:

— ...Вот ты, можа, і крыўдзішся на мяне, а што рабіць мне? Ну, скажы ты... Вот я ж і твайго бацьку ведаў, ты думаеш, не хочацца мне табе памагчы?.. Але ж ты сам падумай: памагу табе — вора-

гам Паўлавічу стану. Што ты думаеш — не будзе ён крычаць? Яшчэ як крычаць будзе. І вот усягды мне так: аднаго паслухай, пашкадуй, другому ворагам станавіся. Дык я цяпер так вот раблю: ні вашым, ні нашым. Трэба рабіць, што паложана, тое і раблю, а што не — не... І не чапай мяне, не чапіся... Дык жа не любяць, крыўдзяцца...

І думаў Антон, слухаючы бязвокага Ігната, пра тых людзей у сяле, якія за багаццем, за сваім спакоем трацілі нешта, рабіліся глухімі да другога чалавека. І здавалася Антону, што даўней, калі жылося і бядней і цяжэй, больш весялосці і прастаты было ў людзях.

Справіўшыся з жардзём, Антон пад'ехаў да цялятніка, там ля ўвахода сядзелі на саломе дзядзька Віктар, тыя ж дзве даглядчыцы і яшчэ адзін мужчына.

— Калі ж вы наваселле спраўляць будзеце? Цялятнік новы, ужо з тыдзень у ім. Скупыя вы,— казаў даглядчык кароў, звяртаючыся да дзядзькі Віктара.

— А вот палучка будзе, і адзначым. Вот паглядзіш, я сюды гармонік прынясу і справім. Яшчэ як справім, о-го-го! — казаў сур'ёзна дзядзька Віктар.

Было незразумела, ці ён жартуе, ці праўду гаворыць. Характар у яго быў такі, што мала якая гулянка ў сяле абыходзілася без дзядзькі Віктара і ягонага залівістага гармоніка.

Антон паехаў дамоў.

## 5

Маці кінула шытво, заварушылася забедавала:

— Ай-яй-яй, а я ж яшчэ і свінням не давала.

— Ну, канечне, ты ж абедаць не сядзеш, пакуль

свінням не дасі,— казаў Антон без злосці, хоць у яго словах была доля праўды.

— Зараз, я зараз, сынок. Ты мяшкі збірай, завязкі, а я вось толькі свінням дам...

Пасля абеду пахаладнела. У сяле было зацішней, але, як выехалі за голае поле, ветрам працінала добра, нават мерзлі пальцы.

Першую баразну Антон так і не змог прагнаць: коні не ведалі, як ісці, круціліся, прыходзілася трымаць плуг адной рукою. Коней правяла маці. А пасля было лягчэй: баразна за баразной, скрыль за скрылём — Антон памалу араў. Дагнаўшы ў баразне маці, ён спыняў коней, браў з яе рук вядро і ішоў сам па баразне, збіраў бульбу. Маці хутка засаплася, хустка яе з'ехала набок, адкрываючы пасмачку рэдкіх сівых валасоў. Яна старалася як магла паспець за плугам.

Гледзячы на маці, Антон успомніў яе словы, што казала яна, як не стала бацькі,— у тую ж восень, перад яго ад'ездам у горад. Яна падышла тады раніцай да ложка, села ў ногі і, гледзячы на падлогу, казала, быццам хто загадаў ці папрасіў:

— У мяне ж во было двое дзетак... Жэнька і Анютка. Да вайны яшчэ нарадзіліся, першынцы... Жэньку было пяць гадоў, Анютцы тры. А тады прыйшлі яны зімой у хату: «Матка, гэрр»,— і выгналі. Хата ім наша мяшала. А куды мне было ісці? Сабрала я ў пасцілкі падушкі і адзенне — ды на вуліцу. А на дварэ мароз — аж трашчыць. Пасадзіла дзяцей у падушкі і не ведаю, што рабіць. Сяджу ля дзяцей, заліваюся слязьмі, як дурная стала. Добра, што суседзі не звяры — пусцілі ў хату. Пакуль дзетак пераносіла, тыя і застудзіліся: запаленне лёгкіх у іх было. Яно каб цяперашнім часам — у бальніцу, дый уколы... За адну нядзельку дваіх і схавала: Анютку ў сераду, а Жэньку ў нядзелю. Калі капалі

яму Жэньку, папрасіла, каб і Анютку адкапалі — побач яна была. Адкрылі, а яна ляжыць, як жывенькая... Ужо хадзіла і гаварыла, пыталася, ці красівая яна...

Вясна прыйшла, птушкі лятуць, радасць усім, а мне гора. Устану раненька, з цёмным яшчэ, каб ніхто ў сяле не бачыў, і на могілкі. Снег, гразь, вада кругом па калені, а я... Нагалашуся, накукуюся, і, ведаеш,— лягчэла. А тады бачаць людзі, не будзе з мяне толку,— лавіць сталі. Возьмуць за рукі, завядуць у хату, натукаюць, нагалёкаюць, работай зоймуць: прасці пасадзяць ці яшчэ што... Усё вытрымала, выжыла. Бацька з фронту вярнуўся, хату новую склалі. Гэта цяпер колькі б ім было?

І маці загінала пальцы на руках, варушыла вуснамі — яна лічыла... І глядзела маці пільна на падлогу, быццам бачыла яна там апрача фарбаваных дошак яшчэ нешта.

— А ты ведаеш,— маці ўсміхалася, выцірала хусткай слёзы,— а цябе магло б і не быць. Як табой хадзіла, падняла цяжкую ношку. На пятым месяцы я ўжо была. Жывот к вечару і разбалеўся. І чую, што ўжо — усё... Бацька тады конюхам у калгасе рабіў. Ён ноччу каня запрог ды ў бальніцу — там і выратавалі...

Нечакана, бы ўспомніўшы што, маці сумелася:
— Во, разгаварылася, а ў печы выгарае... Пагаварыла — і палягчэла. Трэба, сынок, гаварыць, цяжка маўкліваму...

І пайшла.

А ён доўга ляжаў і думаў.

Як заканчвалі араць, стаў залётваць снег, халодны і калючы, бы іголкі. Амаль не падаючы на зямлю, снег нёсся над раллёю, засланяў і лес і сяло.

5 Зак. 2407

К канцу зусім замарыліся. Антон запрог коней, ускінуў на калёсы плуг, мяшкі з бульбаю — нааралі пудоў дваццаць,— сеў сам, ззаду моўчкі ўскарабкалася маці.

Антон узяўся за лейцы і ціха сказаў:

— Но-о!..

Коні памалу пайшлі.

— Но-но-о! — крыкнуў Антон грамчэй і сцебануў коней пугаю. Галовы коней заківаліся ўсё хутчэй і хутчэй: знізу-ўгору, знізу-ўгору — коні пабеглі.

— Но-о-о,— крычаў Антон.

Халодны вецер гнаў снег полем, туды, да шэрай сцяны голага лесу.

## 6

Калі Антон распрог коней і выходзіў з канюшні, пачуў конюха Шуру: «Вось будзе заўтра гэтаму Віктару, будзе яму».

Шура казаў быццам сабе, але так, каб і Антон чуў.

Антон нічога не сказаў, моўчкі пайшоў з калгаснага двара.

Ужо змяркалася. Халаднела, нанач нават мароз браўся. Над зямлёю было пуста і лёгка, хаця снегу было парадкам — наўскасяк ён ляцеў і ляцеў, усё гусцеючы.

Антон пайшоў на могілкі. Могілкі былі збоку ад сяла, да іх вяла вузкая, абгароджаная з двух бакоў, сцежка. З аднаго краю могілкі заканчваліся высокім жоўтым абрывістым берагам рачулкі — адсюль, як на далоні, віднелася сяло, калгасны двор, школа. На могілках раслі сосны і бярозы, надзіва высокія і купчастыя,— цяпер, у вецер, яны роўна шумелі.

Раз у год сюды прыходзілі прыбраныя людзі, клалі на парослыя травою горбікі зямлі белыя, чыстыя настольнікі, ставілі і лажылі на іх яду і гарэлку. Людзі былі ў той дзень чыстыя і прыгожыя, нават пасварыўшыся, суседзі міырыліся ў такі дзень. Калісьці, калі быў малы, хадзіў сюды з бацькамі і Антон. Вядома, як піянер і выдатнік вучобы, Антон не верыў у тую казку, што апраўдвала людское свята, і ўсё ж яму было цікава хадзіць тым чыстым веснавым днём сярод шэрых, часта парослых мохам каменняў і крыжоў, разбіраючы на іх надпісы і лічбы. Ён доўга стаяў на месцы, здзіўляўся, калі чалавек жыў вельмі многа ці мала, але праз гадзіну-другую, ужо ў сяле, гуляючы ў біткі, у хованкі ці ў лапту, ён амаль забываўся і на крыжы і на каменне.

Агароджу на бацькаву магілу паставілі летам. Спачатку Антон збіраўся ставіць агароджу толькі на бацькаву магілу, але маці не захацела так — агароджу перарабілі, зрабілі двайной, з запасам на яшчэ адно месца. Магіла бацькава была збоку, побач з бацькавай былі і другія, яшчэ нядаўнія: старога Яўхіма, што дзесяць год ляжаў у ложку і не мог выздаравець, настаўніка Івана Макаравіча, высокага, поўнага, з густым лагодным басам. Калісьці ён вучыў Антона і часта казаў яму жартуючы, што калі і далей ён такі ціхі будзе, то толку з яго не выйдзе — цяпер трэба хваткім быць...

Антон зайшоў у сярэдзіну агароджы, сеў на прыцярушаную снегам лавачку і стаў глядзець на зямлю, што пакрылася беллю. Снег ляцеў і ляцеў, але цяпер не так, як на полі, круціўся падоўгу на адным месцы, то апускаючыся, то падымаючыся.

Пасля, калі нечакана адчуў, што змёрз, выйшаў з агароджы, закрыў дзверцы — яны рыпнулі, і Антон аж уздрыгнуў ад гэтага гуку.

Як ішоў да абрыву, убачыў свежую яшчэ, не абгароджаную магілу. Чыя, ён не ведаў. На ёй ляжалі два яблыкі. Гэта былі антонаўкі, вялікія і жоўтыя... Відаць, паклаў іх нехта даўнавата. Ён глянуў на яблыкі і пайшоў далей між сосен і бяроз, што шумелі і шумелі сваімі вяршынямі, між камення, што ляжала на старой частцы могілак,— магілы тут амаль зраўняліся з зямлёю, і толькі пакрытае мохам каменне сведчыла, што тут таксама пахаваны людзі. А пасля ўжо, як падышоў да абрыву, зноў сталі ўваччу яблыкі: адзін спелы і цэлы, а другі напалавіну счарнелы. І тады ён стаў думаць пра гэтыя яблыкі — аж заламала ў галаве.

У сяле ўжо загарэліся агні, вокны хат клікалі вясёлым і ўтульным святлом, мычала ў некага карова, бразнула вядро ля калодзежа. Нечакана голасна закрычала жанчына: «Ко-о-лька-а, дамоў ідзі-і». А пасля, цішэй, усё тая ж жанчына прадаўжала, да некага звяртаючыся: «Урокі нявучаныя, а ён па завуголлі бегае».

Ці ад холаду, ці яшчэ ад чаго, Антона скаланула. Нечы голас пачуў ён у сабе. Яшчэ невыразны і незразумелы, ён паволі авалодваў Антонам. І тут ён успомніў — то была песня старой Сымоніхі. Быў ён малы, і кожны вечар улетку праседжваў з вудай ля ракі. Сядзеў, сцішаны, тады і чуў гэтую песню. Ішла Сымоніха і пяяла:

...Закаці, закаці
ты за лес, за гару,
закаці, закаці...

Летні вечар апускаўся на зямлю, ужо туман лажыўся пад самыя ногі, і гусінага паплаўка, зробленага бацькам, не было бачна на вадзе, гарэла роўна, як свечка, на яшчэ светлым небе першая зорка, нядаўна праляцелі вароны — доўгай звілі-

стай стужкай яны паволі, па адной-дзве, зыбаліся ў паветры,— прабеглі коні на другім беразе, і конюхі казалі:

— Во пяе Сымоніха — аж лес дрыжыць...

Пяклі-кусалі камары, а Антон не мог паварушыцца — усё ішла і ішла Сымоніха лесам і пяяла, і было незразумела, ці то жаліцца яна каму, ці то хваліцца сваім лёсам, жыццём сваім. І думаў ён тады, яшчэ малы, чаму пяе старая Сымоніха, калі ёй трэба сумаваць, бо ў першы год пасля вайны двое дзяцей яе падарваліся на міне.

Цяпер Антон здзівіўся таксама, толькі ўжо з сябе: чаму з ім такое, што...

Хацелася яму правесці рукой ля вачэй — мо ўбачыцца і той вечар, і сам, і старая Сымоніха, якой ужо няма... І нечакана Антон зразумеў: «Не можа яе ні вярнуць, ні ўбачыць, толькі ў памяці...» — і зноў уваччу сталі яблыкі, сённяшні дзень: і снег, што ляцеў над раллёй, дзядзька Віктар, старая, што трымала брыгадзіра за рукаў і ўсё старалася заглянуць яму ў вочы.

Пасля гэтага ён адчуў палёгку. Ішоў дамоў і слухаў, як нешта выпростваецца ў яго душы і становіцца лягчэй дыхаць, як пасля плачу, на поўныя грудзі.

# ГАННА

Калі нявестка, жонка Валодзі, сказала: «Ідзі з дому, каб вочы мае цябе не бачылі»,— Ганна моўчкі сабралася. А што там было збіраць: пашпарт, кніжка пенсійная, дзве кофтачкі, спадніца — і ўсе зборы. І пайшла. Спачатку зайшла ў садок пчол паглядзець.

...І праўда, чаго яна тут будзе, дакуль з нявесткай грызціся?

Пчолы яе жылі не ў доміках, а ў калодах. Кніжак пра пчол Ганна не чытала, глядзела пчол неяк па-свойму, праўдзівей будзе сказана — зусім не глядзела. Пчолы ў яе неяк самі вяліся, людзі казалі, што рука ў Ганны лёгкая: калі раіліся пчолы, рой далёка не ляцеў, а дзе-небудзь тут жа, у садку, на суку яблыні і садзіўся. Ганна ў гэты момант, крыху папырскаўшы на пчол вадою, венічкам змятала чорны клубок у пасудзіну, а пасля садзіла рой у пустую калоду. Пчолы Ганну рэдка кусалі, даглядала яна іх без дымара і маскі. На зіму калоды Ганна не хавала, а толькі, прыкрыўшы лёткі, прысыпала снегам.

У суседзяў пчолы даўно павыміралі, ці ад хімікатаў, якія сыпалі на калгаснае поле, ці яшчэ ад чаго, а ў старой Ганны пчолы вяліся. Гледзячы на калоды, на пчолак, Ганна пашкадавала пчол, хто іх даглядаць будзе, а затым накіравалася на вулі-

цу. Яна не думала яшчэ, куды пойдзе, ведала адно — дома начаваць не будзе.

І ўсё было б ціха, каб не малыя. «Бабка! Бабка!» — учапіліся ў спадніцу, зараўлі. І тады Ганна не вытрымала. Па маршчыністым твары пацяклі слёзы, бяззубы рот пры размове ледзь-ледзь адкрываўся. Ганна гладзіла светлыя галовы дзяцей шэрымі, як перасохлая зямля, рукамі, казала, каб малыя слухаліся Галю.

Каб людзі не бачылі, пайшла Ганна не вуліцай, а гародамі. Вёсачка была невялікая, навокал яе стаяў глухі лес. Чужы чалавек здзіўляўся, як можна жыць у такой глушы — да райцэнтра сорак вёрст і нават у цэнтр калгаса праз лес паўтара кіламетра цягніся.

Калісьці гэты край быў партызанскім. І здавалася, людзі, якія больш за іншых пакутавалі, павінны цяпер жыць лепш за ўсіх. Але скончылася вайна, мяняліся, як надвор'е ўвосень, старшыні калгаса, нават электрычнасць правялі сюды ў апошнюю чаргу, калі ва ўсім раёне гарэла святло. І ўсё ж будаваліся новыя бялюткія дамы, расла чарга ля калгаснага касіра ў дзень палучкі — не дужа хацелася ісці на тыя вялікія і лёгкія заработкі ад гэтай зямлі, гэтага лесу, які калісьці карміў, паіў і хаваў.

Ганна ішла міма дамоў, знаёмых з самага маленства. Ад нараджэння яна нікуды далей райцэнтра амаль не ездзіла, і вось цяпер, на старасці, трэба плесціся ў белы свет. Хутка хаты засталіся ззаду, і дарога павяла Ганну па тых мясцінах, дзе ледзь не застрэлілі Валодзю. Ён быў яшчэ падлеткам, калі немцы ўзялі яго, як і другіх нявінных, заложнікамі, павялі на расстрэл. Валодзя ўцёк, па ім стралялі, але не трапілі. Знайшоўшы Валодзю, Ганна два тыдні хавалася ў лесе, елі траву, мох, блукалі да таго часу, пакуль не трапілі да партызанаў.

У знаёмым, як свая далонь, лесе Ганне ўспаміналася жыццё. Ніколі яна не адпачывала, не ездзіла на курорты, нават пахварэць — і то некалі было.

Блуканне па лесе, страляніна дарма Валодзю не прайшлі. Ён стаў ціхі і худы. Пасля вайны адразу ж ажаніўся. Ён не хацеў жаніцца на гэтай ведзьме, але Ганна тады сама настаяла, упрасіла Валодзю.

Як чула Валодзева душа... І пазней, калі пачаліся сваркі, ён спачатку спрабаваў мірыць іх, а потым махнуў рукой, тым больш што здароўе яго пагаршалася.

Першы раз завезлі Валодзю ў бальніцу, калі Галі было тры гады, а Зіна зацяжарыла ўжо Колькам і Андрэйкам. Валодзя падлячыўся крыху, а праз два гады яго зноў завезлі ў бальніцу. Вядома, каб быў у хаце спакой, каб дыета была — можа, і жыў бы яе сын. А якая ў тыя гады дыета? Праўда, быў мёд — любіў і ўмеў Валодзя за пчоламі глядзець...

Апошні раз, калі прыйшла Ганна ў бальніцу да Валодзі, спрабавала казаць сыну штосьці вясёлае, многа смяялася. І Валодзя смяяўся, але ў вочы маці не глядзеў. І калі ўжо занадта разышлася Ганна, пачала казаць, як яны пачнуць жыць, калі Валодзя выпішацца з бальніцы: у сельсавеце лесу выдзелілі, хату ператрасуць, купяць маладую карову, а то гэтая старая... Валодзя нечакана паглядзеў Ганне ў вочы. Той як мову адняло: такі сум, адзінота былі ў яго позірку... «Навошта гаварыць пра гэта... На, вось, аддай дзецям»,— ён працягнуў Ганне змейку, зробленую з кавалачкаў дрэва і пафарбаваную зялёнай фарбай. Змейка, як жывая, варухнулася ў яго белых тонкіх пальцах. Пасля гэтага Ганна нічога не магла сказаць, яны моўчкі сядзелі, глядзелі, як круціцца змейка.

Ішла Ганна да сястры, якая жыла таксама ў вёсцы. Трэба было ісці спачатку праз лес, а затым праз поле, якое называлі Ракаўцамі. Да вайны на гэтым полі стаяла вёска з такою назваю, а пасля таго, як людзей і хаты начыста спалілі, на месцы Ракаўцаў нічога не асталося — адна старая дарога, паабапал якой ляжала каменне. Ніхто ў гэтым месцы і не сяліўся. Праходзячы праз Ракаўцы, Ганна ўспомніла знаёмых, якія калісьці жылі тут, а цяпер іх няма, як і не было ніколі. Спалілі людзі людзей. І за што?

Ганна прыцягнулася да сястры вечарам. Яны пагаравалі ўдзвюх і парашылі, што лепш будзе, калі Ганна пойдзе ў дом пенсіянераў. Не хочацца ісці, а што ж зробіш... Прыняць яе прымуць: муж на фронце палажыў галаву, адзіны сын памёр.

Была б Ганна ў доме пенсіянераў, але трэба ж так здарыцца, прыехаў у той жа вечар дамоў Сымон, сын сястры. Паглядзеў ён на Ганну, паслухаў, ды і кажа:

— Куды ты, цётка, паедзеш? Паедзем са мной, дзяцей у нас няма, нядрэнна табе ў мяне будзе: ванна, два пакоі — дзе ты ў вёсцы такое знойдзеш? Як бы добра сярод чужых людзей ні было, сярод сваіх лепш.

І патарабаніў на другі дзень Сымон Ганну ў горад. Працаваў ён там нейкім начальнікам, жыў добра.

Прачыналася Ганна рана-рана, толькі світаць пачынала, падымацца было няёмка — людзей у такую рань разбудзіш. Яна доўга варочалася ў мяккім ложку, але заснуць не магла. Тады пачынала ўспамінаць, што звычайна рабіла ў такі час дома: летам ішла даіць карову, зімой падпальвала ў печы. Быц-

цам увачавідкі Ганна бачыла — вось корміць дзяцей, падмятае падлогу, а вунь і двор іх, і хата...

Днём Ганне работы амаль не было — якая ў тых двух пакоях работа?

...Калі пайшоў першы снег, яна ўвесь дзень прасядзела ля акна, глядзела, як прамерзлая зямля засцілаецца беллю. А ноччу ёй прыснілася, што ў калодах забылася закрыць лёткі, мерзлі пчолы, і нікому не было да іх справы.

Не пайшла Ганне ні смачная яда, ні спакой, ні цукеркі, якія купляла жонка Сымона.

... — Баба! Баба прыехала! — кінуліся ёй насустрач унукі, як толькі згледзелі яе прыгорбленую постаць.

Яна пачула, як па шчоках папаўзлі гарачыя слёзы.

— Пчолкі вы мае... Валодзечка...— шаптала яна штосьці незразумелае.

# ДВА ДНІ НА СХІЛЕ ЗІМЫ

Аўтобусу пара было адпраўляцца, а ён яшчэ і не паказваўся — людзі купкамі стаялі на пасадачнай пляцоўцы, перагаворваліся і раз-пораз гуртам кідаліся то да аднаго, то да другога аўтобуса, якія паволі заварочвалі на плошчу. Было хлюпоцце,— пад нагамі чарнелі ямкі, напоўненыя вадою і мокрым снегам, зверху ў гэту чарнечу і гразь падалі светлыя сняжынкі. Можна было пайсці ў памяшканне і хоць крыху адагрэцца ў цеснай мітусні, гомане, крыку, але ў любы міг мог паказацца рэйсавы аўтобус, і таму Круглік стаяў ля дашчанай сцяны. Было сыра і ад таго холадна, хацелася хутчэй залезці ў машыну і сесці на карычневае сядзенне.

Круглік ехаў і глядзеў на жанчын, якія блізка сядзелі адна ад другой — нос у нос,— гаварылі пра парасят, што як ніколі дарагія пад вясну, пра сыноў і дачок, пра нейкага Грышку, што напіўся і аблаяў пры народзе брыгадзіра. Белая зямля з асеўшым, як бы прыціснутым, снегам бегла насустрач, паварочвалася вялізным колам ля самых акон, і, гледзячы на яе, з радасцю думалася пра маці, пра дом... Наперадзе былі тры вольныя ад работы дні — два выхадныя і адгул,— і можна было хоць што зрабіць па гаспадарцы. Але акрамя работы і абавязку было і яшчэ нешта дома, што цягнула яго па

суботах з горада, прымушала дзесьці на сярэдзіне тыдня думаць пра дом, як пра свята. Адчування свята, па праўдзе сказаць, у яго даўно не ўзнікала — бы згубіўшы што, хадзіў ён між станкоў, якія гудзелі, аж закладала вушы, глядзеў на бліскучыя стружкі, што кольцамі віліся з-пад разцоў, на шэра-цёмны метал, на замасленыя рукі і ўспамінаў снег, цішыню, двор, да якога, мусіць, не размецена сцежка.

Маці была не адна, прыехала яе старэйшая сястра цётка Зіна памагаць рабіць каўбасы — на мінулым тыдні нямы Андрэй забіў вепрука. Андрэй трохі гаварыў, але дрэнна, як гадовае дзіця. «Карашо мяса, люба мяса»,— казаў ён у мінулую суботу і гладзіў сабе жывот. Андрэй умеў ляпіць печы, ставіць хаты, майстраваць вокны, дзверы, адзінае, што ў яго не ладзілася — жыццё з жонкай, бесталковай, пустой бабай. Тое, што зарабляў Андрэй, разыходзілася ў яе невядома куды і навошта, у хаце іхняй было пуставата і няўтульна. Жанчыны перамывалі костачкі Андрэевай жонкі і шкадавалі Андрэя, але нічым памагчы не маглі: чужая сям'я, як чужая радня... А нямы, здавалася, і не заўважаў свайго становішча: хадзіў подбегам, рабіў работу з ахвотаю, часта нават і спяваў сабе пад нос толькі яму зразумелае. І калі занадта ўжо дапякала жонка, ён, падпіўшы, ганяў сваю няўдаліцу па завуголлі.

Сам Круглік біць свінней не мог — звычайна сыходзіў са двара, каб не чуць і не бачыць... Вяпрук выгадаваўся ладны, хаця надзеі, што з яго выйдзе што талковае, было мала: падсвінкам быў хваравіты, няежкі, амаль усё малако ад коз маці вылівала яму. Але потым вяпрук адышоў, стаў добра есці, матляючы над карытам віславухай галавою, выгрыз у хляве нават падрубіну, якую цяпер прыйдзецца мяняць.

У сенцах прытарна-саладкавата пахла свежым мясам, якое маці і цётка Зіна перакручвалі праз мясарубку. Круглік па звычцы зняў шапку, кіўнуў цётцы і маці і моўчкі, як чужы, прайшоў міма іх у хату. Ужо там распрануўся.

Усё было такім жа, як і тыдзень, як і год назад: стары, даўно нямодны, буфет, на якім красаваўся пышны гліняны кот, якога невядома калі маці купіла ў цыганак на гарадскім рынку, канапа, а насупраць, у куце, тэлевізар — калісьці ў тым куце была ікона, а потым маці неяк неўпрыкметку яе зняла і ці то выкінула, ці то схавала... Невядома чаго Круглік прайшоўся па хаце, спачатку ў старой палавіне, потым у новай, затым, вярнуўшыся ў старую палавіну, сеў на канапу.

Ён быў дома — яшчэ ніяк не мог прывыкнуць, што ёсць свая сям'я, што ён ужо дарослы чалавек, сыну якога хутка споўніцца пяць год. Жывучы ў горадзе на кватэры, Круглік адчуваў, што ўсё гэта часовае: і тое месца, дзе кватараваў цяпер, і нават тое, дзе будзе жыць, калі яму хутка дадуць ад завода кватэру. Круглік з радасцю думаў пра дом, які паставіў бацька пасля вайны, у якім ён вырас,— адзіны непаўторны дом на зямлі, быццам гэты дом і быў той апораю, за якую можна і варта трымацца.

— Я на стол, мусіць, буду ставіць — абедаць пара,— заглянула маці ў хату.

Круглік кіўнуў галавою — стаў, будзем абедаць.

За абедам ён трохі выпіў, і яго адразу ж пацягнула на сон. Ён дрэнна слухаў, як жаліцца цётка Зіна на свайго зяця, пайшоў у спальню на ложак, на якім спаў калісьці бацька. Заснуў хутка і моцна, як звычайна засынаў дома.

Як прачнуўся, убачыў, што за акном ідзе снег — наўскасяк, прадаўгаватымі палосамі. Было ля чатырох гадзін дня. Падумаў, што сёння трэба аба-

вязкова прыцягнуць на санках саломы на подсціл. Цягнуць прыйдзецца самому — не спадзявацца на ездавых. Нельга было свежую сёлетнюю салому браць, але за сялом у полі засталася мінулагодняя скірда. Ніхто тую салому не дазваляў браць, але і не забараняў — так, маўчком, яе і разбіралі, хто як мог.

Круглік нацягнуў старыя, яшчэ бацькавы, боты, апрануўся і выйшаў на двор. Свежае, халоднае пасля хаты і ад таго, здавалася, празрыстае паветра павеяла ў твар, і Круглік, глыбока, на поўныя грудзі ўздыхнуўшы, пайшоў да драўляных прадаўгаватых санак.

Дарогу месцамі перамяло, і таму, накідаўшы на санкі саломы, Круглік цягнуў іх, часта спыняючыся. Хутка захакаўся, успацеў. Кароткая сцежка ад скірды да дарогі здавалася доўгай-доўгай. І на ўбітай дарозе не лягчэла — вецер напіраў у грудзі, боты слізгалі, і Круглік падаў на калені, як маліўся. Брала злосць, як бярэ злосць слабага чалавека на каня, што ніяк не скране з месца цяжкі воз — бі не бі яго, а ён толькі кідаецца ў аглоблях...

У двор Круглік не змог зацягнуць салому — як ні тузаў санкі, з месца яны не краталіся: салома распушылася, асела, і ён болей цягнуў яе, чым вёз. Круглік адпусціў вяроўчыну, якой увязаў вязку, адчыніў вароты і, узяўшы вілы, насіў салому з санак у пуню. Ужо даўнавата сцямнела, але зорак на небе не бачыў — яно, зацягнутае чарнільна-сінімі плямамі, ціснулася да белай зямлі.

У сенцах маці і цётка Зіна заканчвалі работу. Круглік зайшоў у хату і лёг на канапу. Праз дзверы слухаў, што гавораць старыя.

— А я табе і кажу — перавозьце хату. Чаго табе тут адной сядзець? У нас на агародзе і паставіце. Ты ж не маладзееш...— вучыла цётка Зіна.

— Хто яго ведае,— вагалася маці.— З цяперашнімі нявесткамі, зяцямі... Во, прыехала да Антоліных нявестка, гарадская, дык і каровы баіцца, і свінням есці не дасць — культурная... Раніцай вусны намажа і глядзіць паўдня ў люстра сама на сябе. Шыён, во, нейкі яшчэ на галаву чапляе. Сама ж ведаеш: маладыя — сабе, старыя — сабе. Не-е, тут трэба падумаць. З аднаго боку, горад — яно і добра: і магазін, і культура, але ж без коз, свінней што я там рабіць буду?

— Ат, твае козы-лозы... Жыва будзеш і без іх. Пойдзеш прыбіральшчыцай, анучкай шмарганеш у якой канторы — семдзесят рублёў у месяц і два выхадныя ў тыдзень. Некаторыя ў нас так робяць: у двух-трох месцах уладкоўваюцца, болей, чым інжынеры, зарабляюць. Так што хопіць табе і на малако і на мяса. Козы-лозы... А што ты, акрамя работы, відзела за сваё жыццё, ну што? Дзеці, вайна, тады зноў дзеці — цяпер, пад старасць, толькі і адпачыць...

— Дзеля дзяцей жа і жывеш. Я ж нічога,— здавалася маці.— Гэта ж як сын, так і я. Што цяпер я, старая порхаўка,— ты яму кажы. Сама бачыш, які маўмыра,— увесь бацечка. Той усю жызню моўчкі пражыў і гэты... Усё маўчком.

Стома ў Кругліка паступова адыходзіла, і толькі слаба ныў жывот — мусіць, перасіліўся. Не хацелася варушыць ні рукой, ні нагой, вось так ляжаць і слухаць нетаропкую гамонку.

Потым вячэралі.

— Гэта ж, во, Зіна кажа, каб мы перавозілі хату на яе пляц,— гаварыла маці і запытальна глядзела ў вочы.

— Яно калі ставіць будзеце, то вясною, а тады ўжо нельга будзе,— падхапіла гаворку цётка: — А чаго ёй тут сядзець адной. Захварэе, не давядзі бо-

жа, дык і вады нямашака каму падаць. А там і дзіця вам паглядзіць, і есці згатуе, і, як ні круці, хата свая...

Круглік моўчкі еў, быццам гамонка і не яго датычылася: ох, як, здавалася, усё проста — вазьмі і пераедзь...

— У нас жа, во, на гэтым тыдні хаўтуры былі,— нечакана маці павярнула на другое,— Сцепаніда памерла. Адна дажывала. Сын самалётам прылятаў, ледзь не спазніўся... Ёсць яшчэ ў сяле старэйшая за мяне, ёсцека. Во, Аўдзеіха канцавая, тады Сымоніха, суседка мая,— чалавек сем будзе. Не хочуць старыя паміраць, ой, як не хочуць. І ўсё ж, здаецца, было — а не, жыць хочацца. Гэта ж, во, прыйшла пасля хаўтур да мяне Сымоніха і плача — памру, кажа, скора. А я ёй: дурная ты баба, кажу, ты ж яшчэ ваду ў дзвюх руках носіш. Во, калі будзеш з кіёчкам хадзіць і ваду не зможаш ад калодзежа насіць, во, тады скора памрэш. А так ты яшчэ жыць будзеш. Рада мая Сымоніха, слухае і смяецца.

«Старое, як малое»,— падумаў Круглік і, уявіўшы, як гаварыла маці з Сымоніхай, нечакана ўсміхнуўся.

Убачыўшы яго ўсмешку, маці страпянулася, быццам і чакала гэтай усмешкі:

— А мо і праўда — пераедзем, га, сынок?

— Падумаць трэба,— сказаў, нарэшце, Круглік.

— Во-во,— працягвала ўзрадавана маці,— я ж і казала Зіне: тут падумаць трэба. Як сын, так і я...

Павячэраўшы, глядзелі тэлевізар. У клуб ісці не хацелася, ды і чаго туды было ісці. Як жартавала маці, на пяць калек глядзець...

Па заяўках тэлегледачоў паказвалі фільм, зняты яшчэ перад вайною,— пра настаўніка. Той настаўнік прыехаў у сваё сяло вучыць дзяцей, а баць-

ку думалася, што ў горадзе ў сына не ўдалося жыццё, таму ён і вярнуўся назад. У тым фільме было і каханне, затоенае, гордае, са слязьмі ў падушку. Там былі і песні, і танцы з прыпеўкамі — маці і цётка былі ў захапленні, пазнаючы танцы, якіх цяпер не танцуюць, казалі, во-во, якраз гэтак жа і было. Думалася Кругліку, ці то сапраўды тады, да вайны, людзі былі такімі, ці то мастацтва было такім...

Потым пачалася праграма «Час». Круглік паглядзеў і яе.

А потым ён выцягнуў з разеткі шнур, і тое жыццё, якое толькі што паказвалася, знікла, як сцяной засланілася, быццам Круглік быў недзе далёка-далёка і вось толькі цяпер вярнуўся ў сваю хату.

Ён выйшаў на двор і здзівіўся: белая зямля з пульхным бязважкім, як бы падсінелым снегам, цягнула да сябе цішынёй і затоенасцю. Белымі былі і яблыні ў садку, снег ляжаў нават на плоце. Было ціха і пуста, быццам павінна нешта вось-вось здарыцца і ніяк не здаралася... Круглік выйшаў за весніцы. Здалёк пачулася музыка — ішлі падлеткі на танцы: гыркаў з трэскам транзістарны прыёмнік, і яны, падлеткі, падпявалі:

— Увезу-у тебя-я о-днуу...

Круглік перачакаў, пакуль яны пройдуць і сціхне песня, затым скіраваў на бальшак у бок школы.

Школа была за сялом ля самага лесу. Старую драўляную, у якой вучыўся Круглік, разбурылі, а ў новай ён адчуваў сябе госцем. Мо ад таго, што ён крочыў у цемені і яго ніхто не бачыў, што быў дома і нікуды не трэба было спяшыць, ён адчуваў лёгкасць і прастату. Неяк не верылася, што можна назусім адысці і ад гэтай дарогі, па якой калісьці бегаў з партфелем у руках, на якой знаёмы кожная лагчына і пагорак.

6 Зак. 2407

Ля самай школы ўбачыў Іванчыкавага Пецю. Выходзіў са школы, у якой свяціліся вокны,— мусіць, займаліся вячэрнікі. Пеця ўбачыў Кругліка, здзівіўся:

— Чаго ты тут?

— Так, гуляю.

Пеця ўсміхнуўся:

— А мне не да гульні.

— Што, дзеці вучыцца не хочуць? Кажуць, новыя праграмы цяжкія, праўда?

— Цяжкія. Толькі не дзецям цяжка, а нам, настаўнікам.

— Чаму?

— Ён жа, малы, не ведае, як раней, да яго, вучылі, а нам перавучвацца трэба, на хаду, так сказаць.

Круглік ішоў дарогаю, што вяла ўсё далей у лес, здавалася, вось так бы ішоў і ішоў усю ноч, прыслухоўваючыся да рыпення снегу. На душы было неяк проста, ціха і... пуставата.

Раніцаю Круглік пайшоў у лес насекчы дроў. Ён ужо трэцюю суботу іх сек. Сасоннік быў калгасны, яго выцярэблівалі — рабілі поле.

Дроў не было, спачатку нават і не паверылася, што іх нехта ўкраў, але, пахадзіўшы там, дзе яшчэ мінулую суботу ляжалі дровы, Круглік заўважыў ледзь бачныя замеценыя сляды палазоў. Потым была злосць, а спачатку толькі разгубленасць. Паспрабуй знайдзі цяпер і дакажы — кожны сякераю сячэ...

І ён зноў узяўся за тапарышча — біў спачатку абухом па ствале, і тады зверху сыпаўся снег. Сагнуўшыся, махаў сякераю, то з правага пляча, то з левага, глядзеў на шэрую кару і жоўта-белыя трэскі, упіраўся плячом у сасонку, аж стагнаў, слухаў, як гэпае аб зямлю дрэва, быццам нешта жывое з

ног валіцца, насіў да груда бярвенні. Ён любіў секчы дровы, гэтак жа, як і ўсялякую сялянскую работу: касіць, араць, капаць бульбу. Але ўвесь час рабіць яе не мог. Хацелася яшчэ нешта ўмець і ведаць акрамя гэтай работы, і Круглік быў тут, відаць, не вінен. Яшчэ тады, у маленстве, ён пачаў адыходзіць ад вясковага жыцця — як ні дзіўна, але ён, вясковец, ужо не быў вяскоўцам; праводзячы ў школе цалюткія дні, ён забываўся на тое, чым жылі яго маці і бацька: свінні, карова, сена, бульба... Ён ведаў пра ўсё гэта, можа, нават добра і дасканала, але яно не ўвайшло ў яго душу, не заняло ў ёй галоўнага месца. Быў увесь час заняты марамі пра другое жыццё, гарадское, дзе было і кіно, і тэатр, і асфальтаваныя дарогі, і мноства людзей — прыгожых, разумных, заняты марамі пра другую спецыяльнасць, яшчэ не зразумелую і не ясную.

Тады ў школе, як і ўсюды, многа гаварылася пра кнопкі, пра поўную механізацыю і аўтаматызацыю таму-сяму здавалася, што праз якія дзесяць—дваццаць год людзі будуць хадзіць у белых халатах, націскаць тыя кнопкі і болей нічога не рабіць, а глядзець, як з нейкага разумнага аўтамата будуць выскакваць гатовыя булкі з макам. І мімаволі напрошвалася параўнанне таго будучага жыцця з сучасным: гноем, што накідвалі віламі на рыпучыя калёсы, размовамі: «Во-во, не выб'ешся ў людзі — з віламі ў калгас пацягнешся»,— з чахлай кукурузай, што ніяк не прыжывалася на калгасным полі. А яму, Кругліку, было тады пятнаццаць год, і ён, ні аб чым не думаючы, пайшоў шукаць тую механізацыю, тыя кнопкі... А потым, пасля арміі, нешта як бы зламалася ў ім, атухла — ён стаў болей азірацца назад, чым глядзець уперад, і толькі тады многае заўважыў. Але зрабіць з сабою нічога не мог: ён быў другі.

Маці, пачуўшы, што ўкралі дровы, расплакалася:

— Во-во, не дарма мне дрэнны сон прысніўся: і дровы ўкралі, і зубы ўстаўленыя згубіла. Увесь дзень шукала — і як у ваду канулі, як і не было іх усё роўна,— яна шапялявіла, а Круглік глядзеў на маці, якая цяпер, без зубоў, была старэнькая і непрыгожая, і яго браў жаль не толькі да маці, а і да ўсіх гэтых старых, якія дзесьці ў адзіноце сустракаюць вечары, чакаючы знаёмага стуку ў дзверы і якога ніяк не дачакаюцца.

— Ну, сціхні. Закажам новыя — было такой бяды.

— Дзе мы ўжо такія закажам... Гэтыя добрыя былі, я ўжо прывыкла, налаўчылася. А тых, хто дровы краў... Каб у іх хата згарэла, зладзюгі. Што б я рабіла адна...

На зямлю аднекуль зверху садзіўся вечар — цямнела і ніжэла неба, нанач браўся мароз, і той мокры ўдзень снег цвярдзеў, пачынаў хрумсцець пад нагамі. Круглік пахадзіў па двары, не ведаючы, за што брацца. І праўда, сягоння выйшаў нейкі няўдалы дзень, адно к аднаму: і дровы, і гэтыя зубы, што палажыла недзе маці і ніяк не знойдзе. Зубы знойдуцца, відаць, пасля, праз дзень-другі... Старая недзе паклала і забыла.

Маці трохі сцішылася, стала паліць нанач грубку, гатаваць на керагазе вячэру. Цётка Зіна паехала дадому яшчэ днём, і цяпер хата здалася апусцелай, як бы з яе вынеслі што, і вельмі ціхай. Але тэлевізар уключаць не хацелася — у гэтай цішыні Круглік заўважыў, што мімаволі шукае вачыма малога. Нечакана ён засумаваў па гарадской кватэры — усё там здалося больш светлым і цёплым, мо так было ад таго, што перад вачыма стаяў малы. Захацелася пагрэцца ў ванне, потым легчы з ма-

лым у ложак і пачытаць перад сном фантастычную кніжку пра іншыя цывілізацыі, не думаючы ні пра свінней, ні пра коз, ні пра дровы...— ён пачаў прывыкаць да простага, як запланаванага, рытмічнага гарадскога жыцця: восем гадзін работы, тэлевізар, малы... І так дзень за днём, амаль без змен.

— Я паеду, мусіць, сягоння нанач.— Ён устаў з канапы і пачаў апранацца. Нечакана Кругліку стала сумна і абыякава: гэтая салома і ўсё астатняе, дзеля чаго ехаў,— за гэтыя два дні ён стаміўся, і не ад работы...

— А як жа з вячэраю?

— Дома павячэраю.

І ўжо сказаўшы «дома павячэраю», ён ледзь не прыкусіў язык — а дзе ж яго дом?.. Адной нагой ён быў там, у горадзе, а другой... І ведаў ён, адчуваў душою, што, пакінуўшы сяло, ён згубіць нешта. Дагэтуль ён хоць і злаваў на няскладнасць матчынага жыцця, але, як бы ні было, ён быў шчаслівы, бо час ад часу вяртаўся ў маленства... Калі ж перавязе хату, сюды не паедзе, яму тут няма чаго рабіць, і гэта палохала.

— Калі ж ты прыедзеш цяперака? — Маці заўсёды перад ад’ездам пыталася, быццам напамінала, што трэба прыехаць.

— У суботу. Ну, я пайшоў. Тады мо і дровы прывязу, што сягоння насек,— сказаў ён напаследак, зачыняючы дзверы.

Седзячы ў аўтобусе, Круглік глядзеў у акно, за якім нічога не бачылася, і думаў, што заўтра ён паспрабуе адпачыць. Ці ўдасца толькі?

# ЗДЗІЎЛЕННЕ

## РАДАСЛОЎНАЯ

У дзеда Івана і бабы Гэлькі было пяцёра сыноў і ніводнай дачкі. Калі самы малодшы сын дзеда Івана і бабы Гэлькі верхалаз Сяргей вырас, пачалася вайна, быццам чакала яна, пакуль сыны дзеда Івана і бабы Гэлькі вырастуць. Усе пяцёра пайшлі на фронт, і, як бы назло вайне, ніводзін з іх не быў пакалечаны ці нават паранены. Здаровыя і цэлыя вярнуліся сыны дадому, паставілі ў цэнтры сяла пяць хат і сталі жыць-пажываць ды дзяцей нажываць.

Вось тады, пасля вайны, многія з нас і на свет паявіліся, пасляваеннікі, унукі і ўнучкі дзеда Івана і бабы Гэлькі, ці, як нас называлі і называюць, Іванчыкі.

## БОКС

Калі я гляджу па тэлевізары матчы па боксу — першынство краіны, свету, калі я гляджу, як дарослыя людзі лапешаць адзін другога па твары кулакамі — хай сабе кулакі і схаваныя ў тоўстыя мяккія пальчаткі,— гляджу на ўсё гэта з нейкай халоднай зацікаўленасцю дарослага чалавека, якому абыякава, хто пераможа, той ці гэты. Нельга сказаць, што я супраць бокса, не, я разумею, што мае сучаснікі, як і я, павінны быць гарманічна развітымі, што мужчына павінен быць смелы, дужы.

І між тым, назіраючы матчы па боксу, я ўспамінаю, а калі і забываю, што і я быў баксёрам. На жаль, з кожным годам успаміны становяцца менш выразнымі, усё менш і менш яны мяне хвалююць — відаць, я станаўлюся ўсё больш і больш лагічны ў сваіх паводзінах і разважаннях.

...Наша хата была самая большая і пусцейшая. Як мне цяпер здаецца, акрамя белай печы, двух жалезных ложкаў, стала і доўгіх, аж на ўсе сцены, лаваў, у ёй больш нічога і не было. Суседзі заўсёды збіраліся ў нас. У свята сыходзіліся дзядзькі, круцілі самакруткі, дымілі горкім пякучым самасадам, што рос у кожнага ў гародчыку, і разглядвалі нас, баксёраў.

Звычайна, як дурнейшы, адным з баксёраў быў я. Напарніка мне шукаць доўга таксама не даводзілася: у кожнага дзядзькі было па двое-трое, а то і чацвёра дзяцей.

Дзядзькі і суседзі сядзелі на лавах, дымілі гэтак жа, як дымяць на матчах па боксу за мяжою, і да нас, баксёраў, аднекуль зверху, скрозь клубы дыму, даносілася:

— Ну, Валодзя мой твайго Кольку сягоння кокне, як піць даць...

— Не, гэта яшчэ як сказаць. Мой Коля сягоння цэлую міску бульбы ўплёў.

— А вось паглядзіш...

— А тут і глядзець няма чаго. Твой Валодзя — ён слабак супраць майго Колі.

Звычайна па невядомай нам прычыне балельшчыкі дзяліліся пароўну: колькі было за аднаго, столькі ж і за другога. Спрэчкі разгараліся ўсё больш і больш, і нам здавалася: яшчэ трохі — і самі дзядзькі рынуцца ў бойку, адстойваючы наш гонар.

Мы, баксёры, станавіліся ў два процілеглыя кан-

цы хаты, а паколькі хата была вялізная і пустая, нам было раздолле, плявалі па чарзе на далоні і цёрлі далоні аб штаны, каб кулакі былі крапчэйшыя. Па камандзе мы пачыналі: беглі насустрач і, сустрэўшыся дзесь пасярэдзіне хаты, заплюснуўшы вочы...

На жаль, у мяне не хапае майстэрства апісаць той момант, калі шчокі мае гарэлі чырванню — відаць, тады ўсе думалі, што гэта ад смеласці... Калі ўсё ўнутры ў мяне гарэла не ад прагі да славы, не ад прагі да чэмпіёнскіх тытулаў і медаляў, не... Відаць, гэта будзе дзіўна і, магчыма, незразумела, як і мне таксама цяпер, але я добра памятаю, што прымушала мяне біцца... невядомасць. Так-так, мне было зусім невядома, залепіць далонню мне ў вока Валодзька ці не — кулакамі біцца забаранялася. Можна было толькі даваць адзін аднаму аплявухі, але ад гэтага не было лягчэй. Выйграю я ці прайграю — перамога прысуджалася адкрытым галасаваннем усіх балельшчыкаў, і тут ужо падымаўся такі вэрхал, што хоць вушы закладай. І вось з гэтай невядомасці нараджалася ўсё астатняе: і хваляванне, і паплёўванне на далоні, і само жаданне прыняць удзел у боксе...

Цікава, што думаюць і адчуваюць перад баямі сапраўдныя баксёры, якіх трэніруюць па навукова распрацаваных методыках?

## КЛУБ

Гэта быў той час, калі вечарамі з адкрытых акон, часта напалову схаваных кустамі бэзу, даносіліся песні ў выкананні Уцёсава — патэфоны былі з ручкаю, пласцінкі даўно зацёртыя, таму гук атрымліваўся занадта рыплівы, расцягнуты,

і ў гэтым была нейкая асалода. А мо яна, асалода ўспрымання, з'явілася пазней, цяпер, калі ўспамінаю пра той час?

Гэта было тады, калі нашы старэйшыя браты і сёстры, даваеннікі, сходзіліся на танцы ў вялікую пустую хату і плацілі гарманісту і гаспадару яйкамі. У нашым сяле акрамя гарманіста быў яшчэ і скрыпач, стары дзядзька Юзік. Над гэтым Юзікам часцяком моладзь пасмейвалася, але ён, здавалася, не заўважаў гэтага. Пілікаў на сваёй скрыпцы ён доўга і добра, як заведзены, часта нават засынаў за ігрой... Але мы на такія танцы ўжо не трапілі, для нас пабудавалі клуб з былой пуні — перасыпалі сцены, зрабілі падлогу, столь, на голыя сцены панавешвалі плакаты і лозунгі. Замест крэслаў былі лаўкі. У клубе тым праводзіліся сходы калгаснікаў. Яшчэ ў ім даваліся канцэрты самадзейных артыстаў. Слова «артыст» для мяне было загадкавым і недасягальным, як зорка. Артыстамі ў нас былі свае вясковыя хлопцы і дзяўчаты. На канцэрты тыя было цяжэй прабіцца, чым цяпер на выступленні замежных зорак...

Такіх цікавых канцэртаў ужо і не бывае. Многа спявалася песень, чыталіся голасна байкі. Тут быў і такі нумар: адзін расказвае, схаваўшы за спіну рукі, а другі чалавек, нябачны з-за спіны, паказвае, пра што расказваецца... Мне асабліва падабаліся прыпеўкі. Не ведаю, хто складаў тыя прыпеўкі — прафесіянал, пачатковы паэт, ці мо самі артысты. Людзі дружна пляскалі ў далоні, многа смяяліся, аж выціралі слёзы.

Была яшчэ песня, якую спявала Зіна. Яна павольна, заклаўшы рукі за спіну, выходзіла з-за куліс на сцэну, за ёю выходзілі гарманіст і дзядзька Сяргей. Дзядзька па-свойску падыходзіў да Зіны, і яны пэўны час шапталіся, дагаварваліся, якую

песню будзе спяваць Зіна. Нарэшце дзядзька падыходзіў да краю сцэны і голасна аб'яўляў, хто будзе спяваць і якую песню.

Зіна кашляла ў кулак — правярала голас і ківала гарманісту. Яе тонкі, яшчэ дзіцячы і цудоўны галасок выводзіў мелодыю і словы пра палі, пра рэкі, пра родную старонку, над якою раніцай узыходзіць сонца і чуецца стук тапароў і звон піл... Мы бачылі і тыя палі, і тое сонца, і тых людзей, што вялі вялікае будаўніцтва, і яшчэ было страшна, каб Зіна не «сарвалася», бо вельмі ўжо хораша яна спявала.

Былі сцэнкі, у якіх прымаў удзел дзядзька Сяргей — тады ён быў загадчыкам клуба. У тых сцэнках ён пераапранаўся так, што яго было і не пазнаць, чапляў з моху, што расце на бярозах, бараду і вусы, насоўваў на канец носа акуляры, напалову згінаўся і праз слова кехкаў. Звычайна разыгрывалася сцэнка з жыцця бюракрата альбо чалавека, які нічагусенькі не разумее ў жыцці, робіць адно глупства ўслед за другім. Мы адчувалі перавагу над гэтым чалавекам: разумелі, што ён жыве не так, як трэба, а як трэба жыць, мы ўсе добра ведалі — і ад таго голасна смяяліся.

Акрамя канцэртаў у клубе было і кіно.

Бацька ў калгасе за дзень зарабляў грашыма каля трыццаці капеек, і яму нават заікацца пра грошы на кіно не было сэнсу, балазе, што хоць пускалі вечарам да клуба.

...Дзесьці раз у месяц пасля паўдня па вуліцы стары конік ледзь цягнуў калёсы, на якіх бачыліся маторчык і скрыні з апаратурай. Кінамеханік, ці, як мы яго звалі, кіншчык, паплёўваючы ў гарачы пыльны пясок, крочыў побач з калясьмі, раз-пораз падсцёбваючы коніка пугаю, але той не дужа паскараў хаду — адкуль брыгадзір мог узяць лепшага каня, калі і так усіх коней на пальцах пералічыць

можна. А дужы конь усюды трэба: і на полі і ў лесе...

Вечарам, калі цямнела — на небе высыпалі вялізныя зоркі і чуўся клёкат буслоў, што жылі на ліпіне ля дома Нямога, у паветры рэзка пахла травамі, цягнула вільгаццю ад ракі,— мы ашываліся ля клуба. Трапіць у клуб было цяжка, можна сказаць, немагчыма, але ўседзець дома, калі чуеш, як ля клуба тарахціць маторчык, яшчэ цяжэй. Варыянты прабрацца ў клуб былі розныя: прашмыгнуць непрыкметна за спіной кіншчыка, калі той, абапёршыся спіною аб вушак, будзе абілечваць гледачоў, пралезці ў фортачку ў акне, калі яна не зашклёна, ці папрасіць каго з дарослых, каб той сказаў вялікадушна кіншчыку:

— Гэты шпанюк са мной ідзе, пусці яго!..

Нам, Іванчыкавым, было лягчэй крыху, бо родны дзядзька быў загадчыкам клуба, але і яму, відаць, было няёмка кожны раз праводзіць па аднаму ў клуб кучу дзяцей...

А ўвогуле, усё залежала ад таго, які быў кіншчык. Былі добрыя — гэтыя дазвалялі глядзець кіно праз акно. Тады пад акном выстрайвалася доўгая чарга, як па хлеб у краме. А былі і сярдзітыя, яны адганялі нас ад клуба, бо некаторыя кідалі ў маторчык гразь, каб той заглох і каб у мітусні прабрацца ў клуб.

І вось, нарэшце, мы ў клубе. Садзімся на падлозе перад пярэднімі лаўкамі проста перад экранам — белай прасцінай. Коні, на якіх сядзелі коннікі ў вастраверхіх з зорачкамі шапках, праносіліся побач з намі, грымела раскацістае «ўр-раа!» — і ў кожнага замірала сэрца. Хто пераможа, нашы ці... Перамагалі нашы, нашы! Цягнікі беглі з экрана проста на нас — калацілася сэрца і прыходзілася заплюшчваць вочы, бо ці мала што бывае...

Пасля ўжо, на вуліцы, пачыналася галаснае абмеркаванне, як усё гэта было: наш таму, а той...

А потым клуб разбурылі і пабудавалі двухпавярховы цагляны Дом культуры. Было гэта, як я заканчваў школу, пасля таго, як наш бедны калгас далучылі да багатага. Дом культуры пабудавалі з глядзельнай залай на чатырыста месц, з кінабудкай, у якой стацыянарная кінаўстаноўка, з фае, чытальнай залай, бібліятэкай і мноствам другіх пакояў. Ён узвышаецца над усім сялом. І адразу ж, як пабудавалі Дом культуры, перад ім пасадзілі парк. На суботнік выйшлі ўсе, і старыя і малыя, рабілі паўдня і самі здзівіліся, што так хутка закончылі работу. Пасля быў сход, на якім старшыня калгаса гаварыў: «Малайцы людзі, добрую справу зрабілі: і для сябе, і для дзяцей сваіх».

Тыя, калісьці кволыя, дрэўцы даўно перараслі нас, людзей, і цяпер, калі прыязджаю ў сяло, бачу, што Дом культуры амаль пустуе, у ім стаіць дарагое піяніна, на якім ніхто не іграе, акрамя заезджых сталічных артыстаў, ды і самадзейныя канцэрты неяк самі па сабе знікаюць, а калі і праводзяцца, то на іх збіраецца не дужа многа людзей — амаль у кожнай сям'і ёсць свой тэлевізар, па якім можна паглядзець і «Клуб кінападарожжаў», і «У свеце жывёл», і «Артлато», і нават канцэрт з Крамлёўскага палаца з'ездаў. О-о, колькі цікавага можна паглядзець, не вылазячы з сваёй хаты!..

Дзядзька Сяргей пастарэў, цяпер ён ужо не іграе ў сцэнках, не прыклейвае бараду і не насоўвае на кончык носа акуляры, не аб'яўляе ў час канцэрта, хто і што будзе спяваць,— для гэтага ёсць у Доме культуры штатная адзінка мастацкага кіраўніка. Ён нядаўна купіў машыну, і калі б я ні прыязджаў дадому, бачу яго ў гаражы то пад машынаю, то каля яе.

## БРОНЬКА

Мы так яго і звалі — Бронька. Не дзядзькам і не дзедам, а проста Бронькам. Гэта быў стары чалавек, у якога балелі ногі, таму хадзіў ён увесь час з палкаю. Цягнуў за сабою ногі і неяк валачыўся наперад, здавалася — ён вось-вось паваліцца, але яго выручала палка. Ён мог не толькі хадзіць, але нават і бегаць, толькі тады ўсё адбывалася хутчэй: і перастаўленне палкі, і падцягванне цела.

— А-а, палячок, гарэленькі бачок...— чамусьці заўсёды гаварыў ён нам пры сустрэчы на выгане, дзе цалюткімі днямі пасвіў гусей. Бронька быў трохі глухаваты, ён жмурыўся, моршчыўся і задзірыста глядзеў у вочы. Ягоны стары шчаціністы, нягалены твар не вельмі прыцягваў да сябе — мы стараліся бокам абыходзіць Броньку.

Чамусьці гэтае «палячок» вельмі нас крыўдзіла, мы тут жа пачыналі даказваць яму, што мы не палячкі, але Бронька і слухаць не хацеў — сцвярджаў сваё. Сварыліся такім чынам мы не менш гадзіны.

Хата яго стаяла ў лагчыне, і вясною, а часта і летам пасля вялікіх дажджоў ля Бронькавай хаты беглі шпаркія бурлівыя ручаі. Вада наносіла на ягоны агарод жоўта-белы пясок, таму Бронька праз увесь агарод пракапаў канаву, але яна хутка, праз год-два, замывалася. Суседзі даўно памянялі свае неўрадлівыя агароды на лепшую калгасную зямлю, але Бронька мяняцца не хацеў. Вось з-за гэтай вады і з-за гэтых ручаёў у нас з Бронькам ішла пастаянная барацьба.

Летам, калі дождж пачынаў ліць як з вядра, а маці шчыльна зачыняла дзверы, вокны і нават закрывала юшку ў коміне, «каб у хату не ўляцела маланка», калі раскацiста грымеў угары загадкавы

гром, быццам там, уверсе, качаў нехта вялізнае каменне, калі ляскаў пярун так, што мімаволі падгіналіся калені і ёкала ў грудзях, калі маланка рвала на шматкі воблакі, тады я стаяў ля акна і «маліў бога», каб дождж быў яшчэ большы. І вось ужо разлівалася вада ля Бронькавай хаты, як вялізнае возера. Там плавалі сарванае дажджом з дрэў зялёнае лісце, трэскі, шмецце, палена, а то і кашэль, які знясло ў некага з двара. Пасярод вуліцы беглі белапенныя ручаі, з намоклых цяжкіх лісцяў капала вада, і гром, цяпер ужо далекаваты, пагрымліваў, пабуркваў. Цяпер трэба абхітрыць маці і вырвацца на вуліцу. Наступала наша самая шчаслівая пара.

Недалёка ад Бронькавага селішча мы рабілі загату з пяску і гліны. Мокрыя з галавы да пят, боўталіся босымі нагамі ў вадзе, загадзя ўяўляючы, якую злосць выклікча загата ў Бронькі.

Вылятаў ён, як заўсёды, нечакана са свайго двара, залітага вадою, трымаючы ў адной руцэ кій, а ў другой палку ці палена. Бронька махаў палкай, крычаў і кульгаў у наш бок. Мы кідаліся хто куды... Загату нашу ён, вядома, бурыў, бо кожнае вядро вады размывала яго агарод.

Бронька тады ў маім уяўленні быў увасабленнем нечага недарэчнага, пустога, дзіўнага, з чаго можна пасмяяцца.

Такім ён і застаўся ў маёй памяці, і тут я ўжо нічога не магу зрабіць,— глухаватым, адзінокім, непрыгожым старым, які хваліцца, што ў яго было двое сыноў і калі б зараз яны былі жывыя, то...

Калі глядзеў я на яго, ніяк не верылася, што Бронька быў калісьці малым, такім, як і мы, а пасля ён быў прыгожым дарослым хлопцам і што ў яго была жонка і двое сыноў, не верылася ва ўсё гэта. Здавалася, ён і з'явіўся на свет такім.

Калі ўжо скончыў школу і вучыўся ў далёкім горадзе, неяк, прыехаўшы дадому, пачуў ад маці, што памёр Бронька. Было гэта на пачатку лета, і якраз так здарылася, што пайшоў дождж, спорны, буйны.

Я стаяў ля расчыненага акна, слухаў, як ляскае пярун, як шуміць дождж, адчуваў пах вільгаці і азону, глядзеў на ручаі і тое возера, што разлівалася ля Бронькавай хаты, і мне стала сумна. Я стаў неяк нанава думаць пра Броньку, пра ягоных дзяцей. Яны знайшлі міну ў балоце, прыцягнулі яе на свой агарод, які Бронька так бараніў ад нас, кінулі ў вогнішча і самі селі побач — глядзець, што далей будзе. Там жа з Бронькавымі сынамі быў і мой старэйшы брат, але яго ў той час паклікала дадому маці, ён адбегся з сотню крокаў, і тут міна бабахнула, аж павылятала шкло ў некаторых вокнах... Яшчэ я ўспомніў, як часта, ідучы з лесу дадому, Бронька падаў на агародзе. Калі я падбег аднойчы, пачуў, што ён галосіць, як жанчына...

## ЕЎКА

Была яна маленькая, якраз нашага росту — гарбаценькая, кульгавая, з нядужымі, тонкімі, як у дзіцяці, рукамі. Жыла адна на краі сяла ў невялічкай хатцы, у якой з двух акон адно было напалову разбітае і закладзенае картонам.

Еўка хадзіла па сяле і рабіла каму што: там глядзела дзяцей, там хату памагала мыць, там сеяла, а там капала. Хадзіла яна не да ўсіх: былі сем'і, да якіх хадзіла штодзень, а былі і такія, да якіх і не паказвалася.

Цяпер, праз гады, я ўсё больш і больш задумваюся над яе жыццём, услужліва ўяўленне малюе

мне, як Еўка ўставала раніцай у халоднай няпаленай хаце і думала, да каго сягоння пайсці: там была ўчора — сягоння няёмка, а ў той хаце пасварыліся... І што думала яна, калі хадзіла па хатах, і што бачыла... І ці змагла б яна цяпер хадзіць па хатах, ці кармілі б яе, ці раіліся б з ёю...

Але ўсё гэта — мае цяперашнія думкі, а тады было прасцей і неяк звычайней. У маленстве, як мне здаецца, многае што было звычайным і простым.

Заходзіла яна ў хату дзесь перад сняданкам ці перад абедам.

— Ну, здароў вам!

— Здароў, Еўка, праходзь, садзіся.— Маці выцірала лаўку і падсоўвала ёй.

— Ай, не, мне ісці трэба.— Еўка рабіла выгляд, што яна дужа занятая і забегла да нас толькі праведаць, на хвіліначку.

Маці рабіла выгляд, быццам разумее, што Еўка дужа занятая, і таму ўгаворвала:

— А-а, пасядзі, паспеецца. У мяне, во, зараз бульба зварыцца, я сняданак прыладжу, паснедаеш з намі, а тады і пойдзеш. Нічога такога ў мяне няма, але пад'есці можна.

Мы садзіліся разам з Еўкаю за стол, снедалі ці абедалі, а пасля Еўка ішла з хаты. Чамусьці ўспамінаецца, як выходзіла яна з хаты зімой — у шэрай лапленай фуфайцы, схаваўшы рукі не ў кішэні, а пад пахі, кульгала яна па белым снезе міма акон.

Яшчэ Еўка ўмела варажыць. Варажыла яна часта. Калі-нікалі прасіла паваражыць яе і мая маці. Маці варажыла, калі ёй было цяжка: ці то ў старэйшых дзяцей жыццё не ладзілася, ці то ў сваёй сям'і непарадак быў.

Выціраўся стол, накрыты кляёнкай, садзілі за яго Еўку і казалі: «Ну, Еўка, паваражы ты нам».

Еўка тасавала пульхную калоду картаў, даўно зацёртых пальцамі, аж шэрых, раскладвала іх па адной і так і гэтак, пераварочвала і пачынала гаварыць: і пра далёкую дарогу, і пра казённы ліст, і пра чырвовага караля, які дапаможа ў цяжкую хвіліну. Гаворка вялася загадкавая і цікавая, мы, малыя, сядзелі ля стала, разявіўшы раты і наставіўшы вушы...

Маці часта перабівала Еўку. Тады яны пачыналі меркаваць, што азначае далёкая дарога — відаць, прыйдзецца зноў ехаць да дзяцей, мірыць іх. Абмяркоўвалі, хто такі чырвовы кароль, які дапаможа ў цяжкую хвіліну.

Заканчвала Еўка варажбу так: складвала карты, тасавала напаследак і гаварыла: «А нічога... Перамелецца, ператрэцца — мука будзе і ўсё дабром скончыцца».

Як памятаю, ні разу яна не сказала, ці будзе дрэнна, ці будзе цяжка — не, яна так не казала.

Еўкі даўно няма, ніхто не ходзіць па хатах. Засталася толькі сярод людзей прымаўка, якую казала Еўка:

— А-а, нічога, перамелецца, ператрэцца — мука будзе і ўсё дабром скончыцца.

## КІРМАШЫ

Кірмашы пачыналіся дзесьці ў другой палавіне лета і цягнуліся аж да позняй восені: спачатку ў адным сяле, потым у другім. Свой ранейшы сэнс яны даўно ўжо згубілі, ніхто на кірмашах не купляў, не прадаваў і не мяняўся. Застаўся звычай запрашаць да сябе ў госці блізкіх, радню. Маці расказвала, як яна кірмашавала з бацькам у першы год пасля вайны. Выехалі на веласі-

7 Зак. 2407

педзе да сястры ў суседнюю вёску. Прыехалі, а ў той нічога, акрамя бульбы, і не было. Яны зварылі з шалупіннем чыгунок бульбы, упялі яе з соллю, а пасля пайшлі на танцы, дзе скакалі да раніцы.

Рыхтавацца да кірмашу маці пачынала тыдні за два-тры: купляла ў горадзе вялікую, тоўстую, як сякерай перасекчы, без галоў рыбу, вымачвала яе ў начоўках, збірала тварог, смятану, прадавала ў горадзе на базары яйкі і купляла крыху белай мукі, каб на кірмаш напячы аладак са смятанай. Відаць, на кірмашовых сталах было і яшчэ нешта. Кірмаш — гэта была падзея, той дзень, калі трэба было хораша сустрэць гасцей, хораша і праводзіць.

Прыходзілі на кірмаш прыбраныя, ветлівыя, часта цэлымі сем'ямі, пры сустрэчы жанчыны крыжнакрыж цалаваліся, быццам госці прыходзілі не з суседняй вёскі, да якой вёрст пяць — дзесяць, а з-за свету... Нічога асаблівага на тых кірмашах і не было: елі, выпівалі, пасля галасна спявалі, тупацелі нагамі пад гармонік, хадзілі ў хлеў і глядзелі худаватых адкормнікаў, мералі іх, мацалі і разважалі, якое будзе сала: пальцы ў два ці ў тры...

Было яшчэ і дрэннае на тых кірмашах — бойкі і п'янка. Мужчыны добра напіваліся, дамоў вярталіся ўкрывулькі, а некаторыя жонкі дык і без мужыкоў вярталіся... Пасля кірмашу ад мужчын можна было пачуць: во, гульнуў дык гульнуў ужо... Не было такога кірмашу, каб не біліся: то ў адным, то ў другім канцы вёскі бегалі здаровыя хлопцы адзін за другім з коллем, часта трашчалі кашулі, лілася кроў. Гледзячы на дарослых, біліся і падлеткі. Часта ў клубе ці каля яго можна было пабачыць такую сцэну: двое падлеткаў год па трынаццаць стаяць насупраць нос у нос, як пеўні, мераюць адзін другога знішчальным поглядам, потым адзін з іх мнагазначна гаворыць скрозь зубы: «Пойдзем пага-

ворым!» Другі не менш мнагазначна цыркае скрозь зубы слінаю і, засунуўшы рукі ў кішэні, згаджаецца: «Пойдзем!»

Мы, яшчэ меншая мелюзга, як толькі дзе чулі «пойдзем пагаворым», адразу ж кідаліся да падлеткаў — хадзілі за імі гуртам.

«Гаварылі» не на людзях, а дзесьці ў зацішку, але так, каб і людзі маглі паглядзець: кідаўся нам на рукі пінжак, закасваліся кашулі — усё рабілася так, як рабілі дарослыя хлопцы.

І нечакана за якія пяць-сем год усё гэта стала знікаць: і кірмашы, і бойкі, і павальныя, на ўсё сяло, п'янкі. Старыя памалу аджываюць сваё, а маладым гэта ўжо і не цікава. На кірмашах цяпер ужо не мераюць сытых адкормнікаў пядзямі, а больш гавораць пра мэблю, машыны, матацыклы... Хлопцы з суседніх вёсак становяцца дружнейшымі і спакайнейшымі, не так часта можна пабачыць іх і ў бойках не толькі таму, што цяпер за аплявуху пятнаццаць сутак можаш атрымаць, а яшчэ і таму, што нешта змянілася ў саміх людзях, у адносінах людскіх.

## ЧАС

Пасля заканчэння школы я каля двух год не быў у сяле. Калі прыехаў, кінулася ў вочы, як падрос і пасталеў суседскі хлопец Валодзя. Ён ужо смела браў дзяўчат за плечы, праводзячы іх вечарам з клуба, смыліў у адкрытую папяросай і паглядваў на мяне зверху, як на малое дзіця,— за гэты час ён вымахаў сантыметраў на пятнаццаць. І гэта мяне так здзівіла, што цэлы дзень пасля я хадзіў як аглушаны.

Перад маім ад'ездам з вёскі гэта быў хлопец-падлетак, невысокі, худы, як шчэпка, з тонкай ку-

рынай шыяй, у хованкі ён ужо не гуляў, а на танцы паказвацца саромеўся. Калі жыў у сяле, то неяк і не заўважаў, што и расту і другія растуць. Паехаўшы з сяла, думалася, што па прыездзе павінна ўсё астацца такім жа. А тут на табе...

І тады, відаць, упершыню зразумеў, што і я мяняюся з цягам часу. Толькі як? Гэтага я не ведаў, бо мне ўсё здавалася, што з гадамі я не мяняюся, а астаюся такім жа, якім быў у маленстве.

Няўжо для таго, каб заўважыць у сабе змену, трэба заўважаць, як змяніўся другі чалавек?

## СВЯТЛО І ЦЕМЕНЬ

Маці была недзе ў людзях, прыйшла дамоў і расказвае:

— Гэта заходжу я ў хату, а ў ёй ужо цёмна — звечарэла на дварэ. Гляджу, сядзіць на лаве чалавек і кашэль з лучыны пляце. А мой жа ты чалавеча, кажу, як жа ты ў цемнаце робіш? Дзе ў цябе тут святло ўключаецца?

— А мне і не трэба святло,— кажа ён.

— Як жа — не трэба?

— Я сляпы,— кажа ён ціха і пляце кашэль.

І гэты выпадак так здзівіў маці, што пасля другім людзям яна некалькі разоў пераказвала яго.

## ПАСТУХІ

Следам за моладдзю ў сяле сталі знікаць і пастухі. Каровы стаяць і равуць вясною ў хлявах да таго часу, пакуль не пачнуць распускацца бярозы і алешнік. Пасля ўжо, у сяўбу, пачынаюць думаць пра пашу і пра пастухоў. Але талковага пастуха знайсці цяжка, а калі хто і згаджаецца,

дык толькі да першага авансу... Плацяць пастуху цяпер не горш, чым якому дырэктару: у месяц рублёў трыста грашыма ды яшчэ яйкі ці бульба... Але нават і за такія грошы пасвіць кароў калгаснікаў ісці не хочуць, нават з тых сем'яў, у якіх бацькі, дзяды і прадзеды былі пастухамі. Згаджаюцца лепш пасвіць калгасных кароў. Калгасных пасвіць лягчэй: пазней выганіш, раней прыгоніш, спецыяльныя пашы — канюшына з цімафееўкай,— ляжы на баку ды паплёўвай...

Больш за ўсё цяпер ганяюць радоўкамі, пастухоў нават і шукаць перасталі. Як кажа маці, апанелі людзі: такая плата вялікая — і ніхто ісці не хоча.

Я часта думаю пра вялікія грошы, а потым, успомніўшы, што кожны дзень трэба ўставаць у чатыры гадзіны раніцы і дзень пры дні тырчаць пры каровах, залець, калець, пячыся, лётаць, высунуўшы язык, згаджаюся — і праўда, апанелі людзі...

## СПАДЧЫНА

Адышло, а калі, у якім годзе, ужо і не памятаю... І тыя сляпыя з торбамі крыж-накрыж старцы, што, паклаўшы руку на плячо павадыру, хадзілі па сёлах і спявалі доўгія песні. Іх мелодыю забыўся, толькі засталося ў памяці нешта жалобнае і доўгае, як плач... І тыя бліны з гнілой бульбы, якую вясной збіралі на агародах, яшчэ не прасохлых — ногі грузлі ў клейкай гразі, што ніяк не адпускала ад сябе... Той салодкі смак ад бліноў застаўся надоўга. І той напаўразбураны нямецкі бункер, на якім гулялі ў вайну, разраўнялі. І той дзень, калі ў сяле бурылі апошнюю зямлянку і нехта сказаў: «А хай бы мы яе пакінулі, каб дзеці і ўнукі ведалі».

І здзіўляе зусім не тое, што многае забываецца, адыходзіць у нябыт, як благое, так і добрае, а тое, што я яшчэ нешта захапіў ад таго пасляваеннага часу, а дзеці мае ўжо нічога не будуць ведаць. Для іх гэта будзе гісторыя па падручніку.

Калі пачынаеш задумвацца над усім гэтым, нейкія блытаныя, нязвязныя думкі пачынаюць мроіцца, нібы пчолы ля вулля, і не можаш выдзеліць з іх якую адну, галоўнейшую. Напрыклад, думаецца, што і дзеці мае, вырасшы, пасталеўшы, будуць успамінаць маленства і знаходзіць у ім тое, што адыходзіла, станавілася гісторыяй...

## АДОЛЯ І МАЛЫ

Перад адпраўкай у прыгарадным аўтобусе шумна і цесна — недзе ногі паставіць: тут рабочыя, служачыя, якія жывуць у вёсцы, а працуюць у горадзе, старыя маршчыністыя дзяды і бабулькі, якім, здаецца, толькі і работа, што сядзець на цёплай печы, а не цягацца з клункамі. Едуць госці, з гасцей, вучні, вяртлявыя і крыклівыя, на якіх няма ніякага ўходу. Многія адзін другога ведаюць, пачынаюць тут жа, праз галовы, гамонку — амаль кожны стараецца пачуць і быць пачутым. Ад гэтага шум у аўтобусе ўвесь час павялічваецца.

Неяк між ног ад пярэдніх дзвярэй да кабінкі шафёра ціснецца невялічкі, гадоў чатырох, хлопчык — некаму не хапіла часу адвезці дзіцё ў сяло. Чуюцца галасы:

— Дзіцё, дзіцё расцісненце...

— На рукі вазьміце хто хлопчыка, а то маладыя газеткамі вочы пазакрывалі, сядзяць пахаваўшыся... Закультурыліся дужа, граматнымі сталі...

На пярэдняй, за кабінкай шафёра, лаўцы сядзіць Адоля з насунутай на вочы чорнай хусткай.

Нарэшце, з чыіхсьці рук хлопчык трапляе да Адолі, тая садзіць яго між каленяў і папраўляе валасы на сваёй галаве — запіхвае іх далонню пад хустку.

— Ну вот, скора і паедзем,— кажа ціха Адоля і глядзіць на хлопчыка.

І праўда, прыходзіць касірша, шчоўкаюць дзверы — аўтобус памалу кратаецца. На нейкі час шум і гоман у аўтобусе мацнее, а потым становіцца цішэй і вальней — утрасліся людзі.

Хлопчык ціхі і светлы, быццам толькі памыўся ў лазні. У яго тоненькая белая скура на тварыку, маленькія акуратненькія вусны і чорныя сумныя вочкі. Чамусьці здаецца, што хлопчык увесь час глядзіць унутр сябе і, угледзеўшы там нешта цікавае, разглядвае.

На сцяне кабінкі шафёра вісіць плакат-малюнак: прыгожая жанчына з распушчанымі валасамі і разяўленым ротам развяла перад мікрафонам рукі, па ўсяму бачна — спявае. Спачатку старая і малы моўчкі глядзяць на прыгажуню-артыстку. Потым старая нахіляецца да вушка хлопчыка і нешта шэпча. Той адказвае.

— Ды ты грамчэй кажы, старая я, глухая што пень, памру скора,— нечакана голасна, амаль на ўвесь аўтобус кажа Адоля.

— У цёт-кі Нас-ты! — з адчаем крычыць хлопчык і глядзіць у вочы гэтай старой.

— Во, цяпер чую,— усміхаецца Адоля і нечакана хітрым позіркам страляе па суседзях. Тыя ўжо прыціхлі, развесілі вушы — што далей будзе.

— І што ж табе дала цётка Наста?

— Лукавіцкі і панцоскі.

— А-а, рукавічкі і панчошкі. Пакажы... Цёплыя...— Адоля па-гаспадарску абмацвае рукавічкі хлопчыка.

— А бацька, маці ў цябе ёсць?

— Ёсцiка! — хлопчык крычыць так, што ажно на задніх лаўках чутно, і там прыслухоўваюцца.

— А гарэлку бацька п'ець?

— П'ець...

— У-у, п'яніцы праклятыя, пагібелі на вас нямашака,— гледзячы на прыгажуню-артыстку, скардзіцца старая,— і лечаць вас, і па міліцыях цягаюць, і жонкі вас кідаюць, а вам хоць бы што, хоць кол на галаве чашы...

Людзі смяюцца, чуюцца каментарыі:

— Во, і скажы малому... Усё выскажа, што трэба, што і не трэба, як на споведзі.

— А што тут казаць... Правільна, што закон прынялі на гэтых алкаголікаў — можа, хоць трохі парадак будзе, а то параспускаліся, як старэцкія пугі... Жыць сталі добра, заняцца нечым, а капейчына ў кожнага вядзецца — чаму ж не піць.

— А добры, відаць, хлопчык — самастойны, не разбалаваны, не такі, як цяпер у некаторых — да трыццаці гадкоў з соскі кормяць і пояць, а тады не ведаюць, як з шыі скінуць...

Мусіць, хлопчык аб нечым здагадаўся, бо на далейшыя роспыты старой не адказвае.

— Бач, абідзеўся...

— Дагадаўся, відаць, цяпер яны разумныя — з дыпломамі нараджаюцца...

Зноў Адоля і малы моўчкі глядзяць на плакат-малюнак.

Гудзе, калышацца аўтобус, за вокнамі мільгае сіні вячэрні снег, гледзячы на які ўспамінаецца хата, цяпло, і яшчэ чамусьці ў такі час становіцца крышку сумна, але сум гэты не цяжкі, а, наадварот, прыемны ў нечым...

— А кім жа ты будзеш? Ты, мусіць, гэтым... у космас паляціш,— не вытрымлівае Адоля.

Пры слове «космас» яна неяк па-заліхвацку круціць над галавою далонню. Хлопчык моўчкі ківае галавою — так-так, ён паляціць у чорны як сажа космас, ён увесь час думае пра гэта. Белая доўгая ракета будзе раўці злым страшным зверам, а ён, гэты цяперашні хлопчык, будзе кіраваць ёю, на галаве ягонай будзе красавацца прыгожая, як у матацыкліста, шапка з чатырма вялізнымі вогненнымі літарамі, і зоркі будуць уцякаць, разбягацца перад ім, а ззаду, праз шкло, ён угледзіць зямлю, маленькую, як яблык, і там на ёй астанецца і гэта старая, і аўтобус з людзьмі і шумам, і сіні снег — можа, тады ён успомніць пра ўсё гэта і засмяецца...

— А куды ж ты едзеш? — ціха і ўжо другім, лагодным, голасам пытае старая.

— У Блодаўку,— гэтак жа ціха адказвае хлопчык.

— У Бро-даўку,— цягне Адоля.— А ты не замёрз, пакажы...

Кручкаватыя, з патрэсканай скурай, непрыгожыя пальцы Адолі, якія ўжо ніколі роўнымі і белымі не будуць, набліжаюцца да носіка хлопчыка, і носік хаваецца між іх.

— Ты дзьмі ў нос, дзьмі,— кажа Адоля.

Дуццё ў нос не вельмі атрымліваецца, нарэшце Адоля выцірае хусцінкаю нос хлопчыка і кажа працяжна, амаль гэтак жа, як і раней:

— Ну вот, скора і Бродаўка будзе.

## ДЫСПУТЫ

У цэнтры старога горада ёсць царква, старая-старая, можа, яе нават паставіў той князь, які, як кажуць гісторыкі, заклаў горад і імем

якога горад і называецца. Царква дзеючая: заходзь і глядзі на іконы, а калі маеш час і ахвоту, маліся, бі паклоны, стаў за свае грошы свечкі...

Так ужо атрымалася, што побач з царквою размешчаны рынак і тут жа, паблізу, спыняецца аўтобус. Супынак канечны, аўтобус з адчыненымі дзвярыма стаіць, збірае людзей доўга, таму тут можна многае што пачуць і пабачыць. У нядзелю тут, на супынку, людзей мнагавата: хто ідзе з рынку, нагрузіўшыся сеткамі з бульбай, капустай, курамі, трапляюцца і тыя, што выходзяць з царкоўных варот.

Усё пачынаецца ў аўтобусе, калі ўжо ўсе пасядуць на сядзенні, разгледзяць адзін аднаго. Нечакана якая-небудзь бабулька, на дзіва беленькая, сухенькая, войкае, звяртаецца да суседкі, такой жа старой:

— Вай, Волечка, здароў, а я і не бачыла...

— Здароў, здароў, а дзе ж ты была?

— Ды вось, у царкву хадзіла. Памалілася, грахі з душы зняла — і палягчэла трохі. Трэба ж адблагадарыць... Ты ж ведаеш — захварэла, занядужыла я зусім. Стала пасціцца, маліцца і — што думаеш — выздаравела. За гэта і благадару...— Пры слове «благадару» бабка ківае галавою, не адводзячы позірку ад Волечкі.

Абавязкова — так ужо ў нашым жыцці атрымліваецца — насупраць беленькай сухенькай старой сядзіць амаль такая ж старая, з той розніцай, што ў яе на дзіва вясёлыя адчайныя вочы і чырвань на маршчыністых, у гармонік, шчоках. Слухаючы гамонку, яна спачатку незадаволена моршчыцца, як ад зубнога болю, потым не вытрымлівае:

— Па-мог, бла-га-дарыць яна... Старая, а дурасць вядзе... Так ён табе і паможа... Як кашаль хваробе! Жджы, Пятрок, сыр — дажджэшся!

Беленькую бабульку гэтыя словы як шылам колюць:

— А ты што думаеш, і не памагае?.. Памагае. Мне паможа, а табе, бязбожніцы, не.

У аўтобусе сціхаюць, пачуўшы такую гамонку. Але на кароткі час.

— А мне і не трэба,— адразу ж заводзіцца, ускіпае субяседніца беленькай бабулькі.— Не, вы, людцы, паслухайце,— грамчэй, ужо да грамады звяртаецца атэістка,— верыць яна, кланяецца да падлогі, дый не толькі яна... Няслі даўней, валаклі ў царкву пірагі... А яны, святыя, тымі пірагамі свінней кармілі.

У аўтобусе рагочуць, аж за жываты бяруцца. Не было б так смешна і дзіўна, калі б у ролі атэісткі выступала маладая дзяўчына ці хлопец.

Бабулькі амаль аднагодкі, ім хутка ісці туды, дзе, як кажуць паэты, белая зіма, а яны зараз спрачаюцца да поту, да хрыпаццяў ў горле.

Беленькая бабулька круціцца як уюн:

— Грэх гэта, грэх, і за гэта божанька пакарае.

— Ха-ха,— адкрыта здзекаваецца атэістка

Цяпер ужо ўсіх пасажыраў забірае за жывое. Аўтобус гудзе, як патрывожаны вулей. З усіх бакоў чуюцца словы, спрэчкі.

Глядзіш, трэцяя бабулька прадзіраецца да дзвюх старых і пачынае:

— Во, маладзец бабка, во праўду даець, а то моляцца, дзякуюць чорту лысаму...

А ў аўтобусе гудуць, гудуць...

— І праўду ж кажа баба, яны багацеюць, а гэтыя старыя пенсію ім выкладваюць...

— А можа, і праўда каторай памагае. Памоліцца, унушыць сабе... Лечаць жа гіпнозам — дык якая розніца? Кажа, во, памагло — ну і добра. Абы памагло, колькі ёй тут асталося...

— Памагло...— Паглядзі, як дзяцей стараюцца прывучыць? А доўга дзіцяці: раз, два — і верыць. А паспрабуй тады адвучы... Была я раз, бачыла. Стаіць, як ягнятка... Яму б бегаць, у хованкі гуляць, а ён ужо сцішыўся, сцюцюрыўся, усяго на свеце баіцца...

Бывае часта такое, што хто-небудзь нечакана замоўкне, паглядзіць у акно, а пасля махне рукою і кажа:

— Каб яны згарэлі, гэтыя дыспуты, астаноўку сваю даўно праехаў.

## ВАСІЛЁК

На стук з-за хлеўчука выкаціўся з брэхам маленькі, з пядзю, калматы сабачка і, ледзь не куляючыся праз галаву ад злосці, падкаціўся да маіх ног. Сабачка, як званочак, падбег да мяне і нечакана стаў, падняў угору мордачку — здзівіўся, мусіць, што не ўцякаю.

У двары, невялічкім, але акуратным і чыстым, дзе расла нават мурава, чалавек сушыў сена, што было раскідана па траве: перакідваў яго граблямі праз дарожку, падбіваючы знізу, растрасаючы.

— Дзень добры вам!

— Здароў, калі не смяешся.— Чалавек быў стары, год пад семдзесят, але з вясёлым і жвавым, як у маладога хлопца, позіркам.

— Мне праверыць трэба, як за электрычнасць плаціце...

— А-а, ну тады хадзем у хату.

Зайшлі. Хата вялікая, з дзвюх палавін, і пустая, без абавязкова знаёмых атрыбутаў: тэлевізара, дываноў на сценах... У адным яе кутку на вялікім двухспальным ложку ляжала жанчына і стагнала.

Чорная коўдра, якою яна была накрыта, увесь час дрыжала — жанчыну, відаць, трэсла.

— Няма ў нас лічыльніка, дый не трэба ён мне — дзве лямпачкі ўсяго, без разеткі. Мы так плацім, во кніжка наша,— гаварыў стары.

Нечакана адчуў, як забалела ў галаве. Захацелася на вуліцу.

Выйшлі з хаты ў сенцы. Ніколі не курыў, але, калі ўбачыў, што гаспадар дастае з кішэні цыгарэты, папрасіў.

— І даўно яна так?

— Жонка? Даўно, трэці год ужо. Летась мову адняло. Не горшае і не лепшае ёй.

— А да ўрачоў, што кажуць?

— Не ўсё ж урачы могуць. Спрабавалі лячыць — не атрымалася. Хвароба такая — нервенная.

— Вы што, так удваіх і жывяце?

— Так і жывём,— чалавек усміхнуўся, але не так, як маладыя, а неяк прасцей і ў той жа час крышку сумна.

І яшчэ раз здзівіўся, якія добрыя ў чалавека вочы. Як у дзіцяці, чыстыя і безабаронныя. Даўно я не бачыў такіх вачэй.

— Ёсць сын яшчэ і дачка. У Сібіры жывуць, быццам у нас тут месца мала. Гады тры назад прыязджаў сын, казаў: прадавайце ўсё, да мяне паедзем. А цяпер куды я паеду — крані, во, яе і ўсё... Дый прывык ужо да сяла: і да вайны, і пасля тут, во, як корч сяджу. Хату, во, год назад перасыпаў — думаў, сын вернецца. Дужа ён і кінуўся... А так — нічога. Карову трымаю. Дзяржава не забываецца, памагае: мне і старой пенсію плаціць. У калгас і рад бы схадзіць, дык жа за жонкай трэба глядзець: як малое — і піць і есці падай.

— Ведаеце што, мажа, адрас пакіну, калі здарыцца што, мала чаго... Чым змагу...— Балела, пра-

ма ламала ў галаве, і гэтыя словы хоць крыху сушылі боль.

— Дый нічога, выжывем. Не трэба мне помачы, пенсія ёсць, на хлеб пакуль хапае. А ўборы — пражывём і без іх...

Калі ўжо выходзіў, пачуў з вуліцы крык:

— Васі-лё-ок, малако нясі!

Ля хаты спыніліся калёсы, з іх злез чалавек, што збіраў ад калгаснікаў малако ў белыя бідоны.

— Зараз, зараз,— мой гаспадар крочыў следам за мной з гарлачыкам у руках.

Прайшоў па вуліцы і, як згубіў ці забыў што, азірнуўся. Двое чалавек стаялі ля калёс і глядзелі мне ўслед. Мусіць, гаманілі. Хай гавораць. Гаварыць пра ўсё можна.

## ТЭОРЫЯ АДНОСНАСЦІ І АКРАЕЦ ХЛЕБА

Як казаў адзін адмоўны персанаж аднаго сучаснага кінафільма, пачалася ў маім жыцці няўдалая паласа: тое, за што браўся, не атрымлівалася і не рабілася, а тое, за што трэба было брацца, ляжала ці стаяла некранутым...

У гэты час надумаў я «пазнаёміцца» з тэорыяй адноснасці, пра якую многа чуў ад розных людзей і калі-нікалі чытаў нават у навукова-папулярнай літаратуры. Казалі і сцвярджалі, што гэта тэорыя растлумачвае паводзіны свяцiл і атамаў, тлумачыць будову Сусвету. Мне цяжка растлумачыць, чаму я быў падсвядома ўпэўнены, што менавіта гэта разумная тэорыя дапаможа мне знайсці прычыны маіх няўдач і памылак, дапаможа разабрацца ў самім сабе, зразумець сябе. Відаць, было гэта таму, што і пачалося ўсё з гэтай тэорыі...

Я стаў занадта часта думаць пра людзей, ду-

маў, з чаго складаецца чалавек, чым заканчваюцца ягоныя радасці і пакуты,— і ўсё неяк распадалася: розныя блытаныя думкі авалодвалі мною, але ніводнай з іх я не мог «аддацца», выдзеліць яе сярод іншых, назваць выратавальнай, бо той канец, да якога набліжаецца ад нараджэння кожны чалавек, блытаў усё, а мне хацелася дакладна і ясна ведаць адказы на простыя пытанні: адкуль, навошта і чаму?..

І вось, відаць, я і стаў так часта задумвацца над сваёй прыродаю, над тым, з чаго складаюся. Нельга сказаць, што я такі ўжо невук, каб не ведаў і не разумеў зусім, з чаго складаюся, не, але ўзровень ведаў можа быць розны, а мне хацелася ведаць як мага больш.

У гарадской бібліятэцы ў цішы чытальнай залы сядзеў я за сталом, абклаўшыся дзвюма тоўстымі кнігамі: адна з іх была пра тэорыю адноснасці, а другая — фізічны слоўнік. Справа ў тым, што цяпер пайшла мода пісаць не толькі навуковыя, а нават і навукова-папулярныя кнігі так, што без фізічнага слоўніка іх ніяк не адолееш — лягчэй, здаецца, вывучыць кітайскую грамату, якая, як кажуць, дужа складаная... Дык вось, ныркаў я носам з адной кнігі ў другую і памалу, як цёмнай глухой ноччу ў незнаёмым бездарожным лесе, прадзіраўся сярод складаных і мудрагелістых паняццяў да ісціны.

А ісціна сцвярджала, што чалавек, як і ўсё на свеце, складаецца з атамаў, малекул, фізічных палёў і больш нічога... І не толькі пра гэта, а нават і пра тое, што тыя атамы і малекулы распадаюцца на яшчэ меншыя часцінкі, а апошнія ў сваю чаргу з'яўляюцца ўсяго толькі порцыямі святла... Я бачыў многа дзіўнага: сузор'і і галактыкі ў параўнанні з Сусветам былі, як атамы ў параўнанні са мною, чалавекам, ды і сама прастора і час станавіліся не-

чым такім ужо загадкавым, што, відаць, і ўявіць немагчыма, а і ці можна ўявіць, як маса скрыўляе прастору і час,— уявіць гэта, напрыклад, накшталт нейкай крывой паверхні з узгоркамі і лагчынамі, у якой узгоркі і лагчыны — прастора і час, і ўвогуле паспрабуйце ўявіць Сусвет у форме бясконцага чатырохмернага цыліндра, у якім тры каардынаты з'яўляюцца прасторавымі, а чацвёртая — часам...

Не, многае з таго, пра што пісалася ў кнізе, я не мог уявіць, хаця і разумеў, што гэта калі не праўда, то нешта блізкае каля праўды, гэта — рэчаіснасць. Я выходзіў з чытальнай залы на вуліцы шумнага горада, глядзеў на людзей, на іх усмешкі і бачыў зусім не тое...— а тады зноў, як п'яніца да чаркі, ішоў да кніг.

Я пачынаў адчуваць, што губляю нейкі сэнс ці яшчэ што, быццам раствараюся сярод тых часцінак і спалучэнняў, і само жыццё траціць сэнс... Гэта было падобна на той год у раннім юнацтве, калі я ўпершыню стаў задумвацца над сваім жыццём, але тады, так нічога і не прыдумаўшы, так нічога і не растлумачыўшы сабе, рашыў жыць, проста жыць, як і ўсе жывуць... І ўжо колькі год лічыў, што над гэтымі «праклятымі» пытаннямі і думаць не варта, яны былі для мяне нечым глухім, цёмным і загадкавым, як могілкі ў поўнач для сямігадовых дзяцей. І вось цяпер, калі я сабраўся з духам хоць крыху разабрацца ва ўсім гэтым, мяне чакала вялікае расчараванне.

Дні сталі для мяне шэрымі і змрочнымі, роспач брала не толькі адтаго, што я — ніштo, а і адтаго, што я ведаю пра сябе такія рэчы і нічым не магу сабе памагчы. Я хадзіў як у тумане, браўся нешта рабіць і адразу ж, на палове, кідаў работу... І дзіўная рэч, я бачыў тады толькі тое ў жыцці, пра што чытаў.

Выпадкова ў той час мне трапілася кніжка, у якой гаварылася пра ўсё звычайнае, даўно знаёмае настолькі, пра што нават і не думалася,— чалавек чытаў летнімі вечарамі кніжку на лузе, думаў над прачытаным, глядзеў на траву, на нізкае сонца, на жанчыну, што ўдалечыні зграбала сена, а потым, белаю зімой, ён знаходзіў сярод старонак высахлыя сцяблінкі і ўспамінаў пра той летні вечар... Там гаварылася, як ішоў дождж і за змрачнавата зыбкай сцяной вільгаці бразгаў ланцугамі конь,— і ўсё гэта я ўбачыў і пачуў так яскрава, быццам гэта я ляжаў у траве і чытаў кніжку, быццам я вяртаўся ў дождж дамоў да майго бацькі і, праходзячы па лузе, чуў у шапаценні дажджу бразганне ланцугоў спутанага каня...

І ўсё, што хвалявала, мучыла мяне дагэтуль, адышло ўбок, я астаўся адзін на адзін з кнігай. Там гаварылася яшчэ, як старая пабіла матузамі малога за тое, што ён абшчыпаў акраец хлеба, не дачакаўшыся вячэры, і як зыркаў малы, кідаючыся ў дзвярах ад старой, і як старая пасля не ведала, дзе дзяваць свае вялікія нязграбныя рукі,— потым гэта старая сама ўпадзе з драбін, і ў яе будуць моцна балець грудзі,— і як маці малога глядзела на старую, і што думала тая маладая маці, мужа якой забілі на вайне, і яшчэ, як плакалі яны ўсе трое: і старая, і малы, і маці — і як малы казаў: «Я не буду больш чапаць таго хлеба...»

Тады ўспомніў я сваё маленства і тых людзей, што былі побач са мною: і бацькоў, і Броньку, і Еўку — успомніў так, быццам нехта, асвяціўшы ліхтаром мінулае, сказаў:

— Глядзі — вось яно...

Успомніў і падумаў пра тых людзей, з якімі быў і цяпер жыву, і хоць успаміны былі не зусім звязаныя між сабою, як не звязаны ў мяне ні з чым

успамін аб дарозе,— быў ранак, заліты сонечным святлом, і я крочыў па стэпе, не памятаю ўжо куды і адкуль, але тая дарога і той ранак стаяць у памяці,— і я падумаў тады, штó ўсё гэта для мяне няўжо толькі ўспаміны і больш нічога іншага?..

...І чаму так добра і так цяжка бывае ад успамінаў, і, увогуле, чаму, калі мне цяжка, успамінаю пра тую дарогу, і тады аднекуль прыходзіць упэўненасць, што ў маім жыцці будзе яшчэ ранак, і не адзін, якім я буду ісці і глядзець шырока адкрытымі вачыма на задымленую зямлю... І праходзіць цяжар, і складанае становіцца простым.

І пад канец спытаў сябе, ці мае сэнс параўноўваць усмешку маці з той часцінкаю, з якой я складаюся, і што важней для чалавека: тэорыя адноснасці, ці акраец хлеба?..

Пасля гэтага я па-іншаму глянуў на свет, гэта было як тая хвароба, якою дзеці часта хварэюць ў маленстве, а потым, дарослыя, ёю ніколі не хварэюць.

# ЦЕРАЗ ПОЛЕ Ў КАНЕЦ

## 1

Быў я тады вольны і свабодны як птушка. І нават калі я ўбег у той шэры і ціхі, як бесcум чалавечы, пакой, я быў яшчэ свабодны і бесклапотны, нават калі я ўбачыў старога, які, нагнуўшыся над сталом, сядзеў на лаўцы, я быў яшчэ вольны.

А там, адкуль прыбег, на вуліцы, свяціла яркае цёплае сонца, і, зразумеўшы, што зблудзіў і не туды трапіў, я накіраваўся назад, як рак, усё не адрываючы позірку ад чалавека. І, збіраючыся выходзіць, ужо ўзяўшыся за клямку, я нечакана ўгледзеў, што ён плача. Тады, сам таго не разумеючы чаму і навошта, падышоў я да стала, сеў на другую лаўку, насупраць, і паглядзеў на яго з цікаўнасцю.

Вось з гэтага ўсё і пачалося: што я, сам таго не разумеючы, падышоў да старога, запамятаў — вось з гэтага...

А тады я яму:

— Ты вазьмі і выйдзі.

Ён аж уздрыгнуў усім целам, быццам гэтымі словамі, гнуткімі і кароткімі, як дубцы, я па спіне з усяго размаху... І падняў на мяне погляд, адарваў памалу ад стала, за якім мы сядзелі, і ў паўзмроку ўбачыў я вочы, далёкія і глыбокія, скуру, што адлівала белым цьмяным святлом, зморшчаную, бы поле ўзаранае... Пачуў:

— Куды, скажы, куды мне ісці?

І затрымцеў ён на міг, як на яблыні апошні ліст увосень пад парывам халоднага, з дажджом, ветру. А потым зноў абвяў, апусціў галаву, быццам і не было нічога: ні слоў маіх, ні яго адказу.

— Што ж, тады пайду,— я ўстаў з лаўкі і пасунуўся памалу да дзвярэй. І гэтым быццам зноў ударыў яго, і стары скалануўся і зноў за сваё, як тапелец за саломінку.

— Пастой,— казаў ён,— я раскажу ўсё... Бо тут,— ён паказваў рукой на ўпалыя грудзі,— баліць, моцна баліць, кожны дзень, кожную хвіліну, асабліва пасля таго, што здарылася ўчора. Толькі не падумай, што хачу вучыць цябе — што заўгодна, толькі не гэта.

Ён паказваў на вочы, схаваныя сярод маршчын, як два возеры ў густым і глухім лесе. Быццам упершыню глядзеў на свае рукі, на пальцы, шэрыя і сагнутыя, што час ад часу ўздрыгвалі, бы ад болю нясцерпнага.

— І вось... — ён усміхнуўся, а мо — заплакаў...

Тады я зноў сеў на лаўку, насупраць.

— Што ж, гавары. Праўда, там, за парогам, чакаюць мяне, там, за парогам, многа цяпла і сонца, і прыгожая дзяўчына з нерасплеценай касой чакае мяне — мы пойдзем на бераг мора.

— Вы пойдзеце на бераг мора? — Твар пасвятлеў, і на міг маршчыны зніклі — я ўбачыў яго малым, быццам гады адбегліся назад і паказалі: вось які ён, калі бегаў басаног...— Як гэта цудоўна! — прадаўжаў стары.— Сінія, з белымі грыўкамі, хвалі, як коні, з шумам будуць вазіць вас, калыхаць. Шум вады і ветру астанецца ў вас надоўга, вы будзеце чуць яго і пасля, калі, узяўшыся за рукі, бліскучыя і гладкія ад сцякаючай вады, выйдзеце на белы бераг, дзе гарачыя пясчынкі — вам стане горача ў ногі,— і ўпадзеце, разграбаючы гарачыню:

там, у глыбі, будзе не так спякотна. А затым, прыжмурыўшы вочы, праз вузкія шчыліны веек станеце глядзець адзін на аднаго і не пазнаваць, а ў гэты час паплыве некуды бераг, спачатку пацíху, і пасля ўсё хутчэй і хутчэй, вада і вецер зашумяць парывамі... І там, далёка-далёка ад вас, на другім канцы свету, зямля пачне падымацца вертыкальна ўгору, пераварочвацца — вас панясе, як каметы ў космасе, некуды ўбок і ўніз, туды, дзе ніхто, акрамя вас, не быў і не будзе ніколі, у тую краіну мараў, уладарамі якой станеце толькі вы. І тады вы возьмецеся за рукі, каб не згубіць і не згубіцца ў гэтым падзенні-палёце. Як гэта цудоўна, што вы пойдзеце на бераг мора!

— Ды не,— я сваё,— усё будзе прасцей, намнога прасцей, бо зямля сама ніколі не пачне падымацца вертыкальна ўгору і ніякага другога свету, акрамя гэтага, няма. Мы пойдзем плаваць. Халодная марская вада добра ўплывае на нервовую сістэму. Паплаваўшы, мы насуха выцерамся махровым ручніком і пойдзем на лекцыю. Сёння лектар будзе расказваць аб прычыне плачу і смеху. І яшчэ, у канцы лекцыі, у пацвярджэнне сваіх слоў і думак, пакажа дослед: малпе, валасатаму продку нашаму, у кару галаўнога мозгу ўжывіць электроды. У залежнасці ад таго, да якога электрода будзе падводзіцца электрычны ток, яна будзе то плакаць, то смяяцца.

Так што ты гавары, але хутчэй, бо цяпер час такі: імклівы як ніколі. Ты ведаеш, цяпер век хуткасцей: і вучэнне гіпнозам, і атамныя станцыі ў вечнай мерзлаце, і ракеты, хуткія як думка, дзень і ноч возяць над зямлёю ядзерныя боегалоўкі. А мне ўсяго адпушчана трыццаць шэсць тысяч пяцьсот дзён. Ну, можа, крышку больш ці менш, не гэта галоўнае, а галоўнае ў тым, што я тут аднойчы, з'я-

віўшыся выпадкова, аднойчы павінен прайсці праз усё гэта, як праз поле ў другі канец, і назаўсёды знікнуць, і следам пойдуць другія — і тут ніхто не вінаваты, нішто не зменіш, хоць забіся. Я цяпер прайду, і другі раз не траплю на гэта свята, не прыйду я другі раз у госці. А тут яшчэ ты — скажы, навошта мне з табою звязвацца, траціць марна дарагі час. Ты ведаеш, час нельга павярнуць назад. Вось я гаварыў з табой хвіліну, і ўсё — яна не вернецца...

— Вось і добра, вось і дзякуй.— Здавалася, ён не чуў маіх слоў, акрамя тых, калі я сказаў, што застануся ля яго і буду слухаць. Ён гладзіў мае белыя рукі, а я нейкі час, як загіпнатызаваны, не зводзіў позірку з яго рук, дзе чорныя вены павыступалі на паверхню.

— Ну,— падагнаў я і паглядзеў яму ў вочы. І стары зноў затрымцеў — збаяўся, што не вытрымаю і пайду, а ён астанецца адзін.

— Як цяжка пачынаць... Тут ведаеш, як на скрыпцы, калі ты ўзяў яе ў рукі, прыклаў да падбародка і павінен адразу іграць. Адразу, без настройкі, павінен сыграць тое, што нельга выказаць, бо калі пачнеш гаварыць, будзе не так, не тыя словы, а калі нават і тыя, то нешта ўсё роўна прападзе — тое, што хаваецца між слоў. Ці як мастаку цяжка нанесці першы штрых на палатно, нацягнутае на рамку, калі ўжо ўвесь малюнак прадуманы, мастак зжыўся з ім і цяпер астаецца толькі адзінае: пакласці ў патрэбным месцы патрэбныя фарбы — якая дробязь... Ці бачыў ты хоць раз, як дрыжаць яго пальцы і ён сам дрыжыць, аж трымціць — страшна, боязна гэтага імгнення, салодкага да болю, бо з яго ўсё пачынаецца і ім заканчваецца. Так цяжка і мне,— стары зноў усміхнуўся, а мо — заплакаў...

Кроплі поту выступілі на твары, але ён не змахваў іх рукой — было не да гэтага.

— Я так хачу,— казаў, перадыхнуўшы,— каб ты зразумеў мяне.

Ізноў замоўк, уставіўся на паверхню стала.

А я тады падумаў, што ён стары. Стары і адзінокі.

## 2

— ...Ці чуў ты, як пяюць купальскія песні, ці быў ты вечарамі ў вёсцы, тымі ціхімі, аж усё звініць, вечарамі, калі туман кладзецца пластом над ракою, зачэпліваецца зыбкімі краямі за кустоўе, перапаўзаючы ў лагчыны; калі дзеці-падшыванцы, яшчэ днём насабіраўшы лам'я, нарэшце дачакаліся свайго часу, раскладаюць пасярод вуліцы цяпло, і яно ціха пачынае гарэць, як свечка. З крыкам бегаюць дзеці вакол цяпла, валакуць з усіх канцоў, бы мурашкі, суччa, сухія дровы — гаспадараць. Ужо добра цямнее, і не адна, а мноства зорак з'яўляюцца на небе — як хто з рукі сыпануў. Баляць у людзей стомленыя за дзень рукі...

Як госці, як на якое свята, выходзяць з хат жанчыны, старыя і маладыя, садзяцца наўкруг цяпла на паленне.

— Ну, пачынайце, старыя,— мовіць нехта з маладзейшых — у цемені не ўгледзіш хто, а тыя будуць доўга аднеквацца, ківаць галовамі адна на другую. І, нарэшце, узнікне песня. Тонкі і доўгі напеў ірванецца ад агню ў цемень і паляціць да цёмных хат, да дрэў, якія, распараныя гарачым сонечным цяплом і разварушаныя тугім ветрам, толькі цяпер пачынаюць астываць і заціхаць. І ўжо там, за вёскай, адбіўшыся ад паверхні цёмнай, цяжкой і густой вады, у якой спяць з адкрытымі вачыма ля берагоў вялікія і малыя рыбы, адбіўшыся ад высо-

кай і густой сцяны сасновага лесу, напеў падымецца ўгору, над усёй зямлёй, і там, зазвінеўшы ў бяздонні, заціхне паступова.

— Памагайце, што ж вы,— скажа старая жанчына, закашляўшыся,— цяжка адной.

Бабы заківаюць галовамі: так-так, цяжка адной цягнуць песню, ох, як цяжка, як і цяжка жыць аднаму.

І другі раз, як птушка з клеткі, ірванецца ад святла ў цемень песня, цяпер ужо больш моцная і плаўная, і, здаецца, усё навокал — і зямля, і паветра — зазвініць чалавечай радасцю і тугою па тым, што ёсць і чаго няма... І выйдзе з ціхай хаты мужчына, закурыць, паглядзіць па баках — убачыць далёка-далёка агонь і ўсміхнецца, пачуўшы песню,— зду-ур-не-лі бабы! Яшчэ ён будзе доўга стаяць, прыслухоўвацца ці да сябе, ці да песні.

І бегаюць, бегаюць як заведзеныя дзеці, а сярод іх і я, малы і босы, нашу паленне з двара старой Лук'яніхі, хаваючы на ўсякі выпадак ад яе позірк. Старая Лук'яніха гладзіць шурпатай далонню па маёй галаве і кажа: «Во маладзец, во недзе дроў расстараўся».

Гэта ўжо назаўтра яна агледзіць, што паўскладні дроў няма, як карова языком злізала, і ўранні будзе доўга крычаць на сваім двары, махаць суhенькім кулачыкам у бок нашай хаты, але за купальскую ноч людзі доўга зла не хаваюць.

— Ку-па-лаа, купа-лааа...— ён паспрабаваў спяваць, і слёзы выступілі на твары — не выйшла.— Не выходзіць,— глядзеў на мяне, чакаў, мо я памагу, але я спакойна пацiснуў плячыма: я не чуў гэтай песні. Я ведаю, як гудзе саксафон, як звініць арганола, я добра памятаю, як мужчына спявае ў мікрафон песню, але не тую — цяпер пяюць другія песні.

— Д-ду-ду-дууу...— я нават, размахваючы рукой і пастукваючы аб падлогу лакаваю туфляю, зацягнуў адну з маіх любімых мелодый — мне падабаюцца новыя песні.

А ён сваё:

— Не выходзіць,— разгублена, як дзіця, хлэпаў вейкамі,— толькі звон стаіць у вушах, і памятаю, што было мне тады вельмі добра. І чым больш год праходзіць, тым мацнее жаданне пачуць тую песню зноў.

— Слухай,— казаў стары са слязьмі,— калі ты пойдзеш на лекцыю, спытай у лектара, чаму я так хачу пачуць тую песню, убачыць зноў тыя маршчыністыя твары?

І хаця я не разумеў яшчэ, пра што ён будзе гаварыць далей і, наогул, чаму так хочацца пабыць са мною, але тут я ўпершыню адчуў, што стары быццам звязвае мяне нечым, нябачным і тугім, і, каб парваць усё гэта, каб зноў быць свабодным і пайсці хутчэй адсюль, я так і сказаў:

— Навошта ты пра гэта, навошта? Няма ўжо той жанчыны, якая гладзіла цябе калісьці шурпатай далонню, разумееш, няма. Яна прайшла цераз усё поле, як і мы хутка пройдзем, і тут нічога дзіўнага няма. Я не веру ў цуд — усё можна растлумачыць, для гэтага вывучаю розныя навукі і хаджу на лекцыі.

А тады ён, як нажом пад сэрца:

— А плакаць ты не развучыўся? Слёзна плакаць, як некалі ў маленстве?

І тут я раззлаваўся. Гэты стары ўсё ж свайго дабіўся — нешта варухнулася ў маіх грудзях, і, можа, упершыню я не ведаў — што, не мог растлумачыць.

— Навошта? — кажу я яму.— Навошта плакаць? — паўтарыў.

— Не, скажы,— як смала, не адставаў ён,— ты плакаць не развучыўся?

— Не ведаю — пакуль не плакаў. Не забывай, я нарадзіўся пасля вайны і смерць у вочы не бачыў, а ты быў на ёй — у гэтым між намі розніца. У мяне свае задачы, свае цяжкасці, і, магчыма, тое, што табе здаецца складаным, для мяне простае, і наадварот...

А ён сваё:

— Ну вось, я і баяўся, што ты не зразумееш, пра што хачу сказаць. Як гэта цяжка — зразумець...

І заціх.

## 3

— Хочаш,— казаў пасля,— я раскажу пра лесніка. Я пазнаёміўся з ім пасля вайны. Ён быў абгарэлы, чорны, што вугаль, прыкульгваў на левую нагу.— Нечакана стары молада ўскочыў з лаўкі і стаў паказваць, як хадзіў ляснік, відаць, яму вельмі хацелася, каб я ўявіў, які́м быў ляснік, але навошта?

Пасля ён сеў на ранейшае месца і прадаўжаў гаворку, але цяпер ужо ціха, без нервознасці, быццам яму было абыякава ўсё тое, пра што ён гаварыў.

— ...Была ў лесніка скрыпка, і больш за ўсё ён любіў на ёй іграць. Ёсць у нас такое месца — за вёскаю расце на пагорку малады бярэзнік, яго так і называюць: Леснікоў пагорак. Толькі не любіў ляснік, калі назіралі за ім у час ігры, злаваўся тады, аж бялеў. Садзіўся ён звычайна адзін, іграў і плакаў — слёзы цяклі па абгарэлым у час вайны твары, таксама абгарэлая рука вадзіла смычок па струнах, бы гладзіла штосьці жывое і дарагое, і пальцы другой рукі, што трымалі грыф, дрыготкія пальцы, не знаходзілі сабе месца... І калі трапляў-

ся хто ненарокам на тым пагорку, чуў тую музыку, бачыў лесніка, таксама плакаў... Той ляснік учора памёр, я больш ніколі не пачую, як ён іграе. Прашу цябе, калі пойдзеш на лекцыю, спытай у лектара, чаму хацелася плакаць, чуючы леснікову музыку, чаму яна была такая сумная?

Гэта стары ўсё ж свайго дабіўся: я ўбачыў нечакана зялёнае лісце бяроз, што калыхалася на ветры,— доўгае вецце, бы чыесьці рукі, гайдалася на ветры, зялёную траву і яшчэ чорнага абгарэлага чалавека, які сядзеў сярод белых ствалоў і іграў, схіліўшы галаву набок. І тады я пачуў мелодыю, нехта нябачны зайграў побач на скрыпцы — не заўважыў, калі ўзнікла мелодыя, толькі паспеў падумаць, хутка, але ясна, што пра мелодыю таксама трэба будзе спытаць у лектара.

А потым усё гэта: і бярозы, і ляснік, і нават стары — адплыло некуды ўбок, і асталося голае поле ў вячэрнім паўзмроку, а пасярод поля вялізная канава. З двух канцоў поля да канавы беглі людзі, некаторыя ехалі на машынах — відаць, там, ля канавы, быў вялікі шум і лямант, але я нічога не чуў, бачыў толькі злыя людскія твары, жалеза, якое гарэла і плавілася, чырвоную людскую кроў і чорны дым, што поўзаў над зямлёю. І чуў я, як нехта побач іграе на скрыпцы.

Ля канавы, сустрэўшыся, людзі забівалі адзін другога, уверсе над імі лёталі жалезныя птушкі — яны таксама біліся. І ўсё гэта: і забітыя людзі, і абгарэлае жалеза — падала ў канаву. А з двух канцоў поля беглі новыя людзі, цяпер ужо не такія, як першыя: ахутаныя жалезнымі латамі, узброеныя доўгімі тонкімі коп'ямі,— яны калолі адзін другога і таксама падалі ў канаву.

І тут дайшло да мяне, зразумеў, што канава, відаць, бяздонная, інакш, якая б яна глыбокая ні бы-

ла, урэшце запоўнілася б людзьмі і зброяй. А можа, усё гэта не так, як здаецца на першы погляд, мо, падаючы ў канаву і паляжаўшы там, людзі ажываюць, уваскрасаюць нанава ў другім абліччы і адзенні і бягуць затым, выбягаюць з процілеглых канцоў поля, каб сустрэць адзін другога смяртэльным ударам і ўпасці ў бяздонную канаву. Відаць, гэта ім дужа даспадобы, калі яны так робяць... І ўсё гэта ідзе адно за адным, як лета за зімою: ужо цягнуць катапульту і таран, а там, пад самы канец,— а мо пачатак? — валасатая малпа валачэ ад дрэва дубіну і падсоўвае чалавеку пад дрыжачыя рукі і нешта раіць, шэпча яму...

...Толькі мелодыя не мяняецца, тая мелодыя, якую, як я цяпер здагадаўся, іграў ляснік сярод белых бяроз тым людзям, якіх няма, якія ёсць, якія будуць...

Тады я сцяў зубы. А пасля сказаў:

— Не, не, стары, хопіць — мне таксама балюча, хаця я яшчэ і не быў там, у полі, ля самай канавы. Цяпер я ўмею плакаць.

## 4

— Ды не,— ён, стары чалавек, гаворыць мне,— не гэта галоўнае.

— А што галоўнае, скажы мне, што галоўнае? Я пытаў аб гэтым лектара, але ён сказаў, што кожны сам павінен знайсці галоўнае.

Стары задумаўся, апусціў галаву — ён ужо амаль прайшоў усё поле і пад самы канец шляху азірнуўся назад, шукаючы ці разглядваючы нешта.

— Аднойчы я сасніў сон,— пачаў ён.— Я табе лепш раскажу гэты сон. Убачыў я ў сне дарогу і на ёй, гэтай дарозе, трох: стары мужчына ішоў, апіраючыся на кій, малады мужчына, які дапама-

гаў старому, і яшчэ — хлопчык, падскакваючы то на адной, то на другой назе, бег наперадзе. Чамусьці я разумееў — такое бывае толькі ў сне,— што дарога, па якой яны ідуць, доўгая-доўгая, бясконцая і ідуць па ёй людзі таксама доўга, усё жыццё сваё: узнікаюць на дарозе, сталеюць і старэюць...

Дык вось, бег хлопчык наперадзе, лялякаў сабе пад нос, смяяўся бесклапотна. Час ад часу, калі збіваўся з дарогі, хлопчык чуў мужчынскі голас. Хлопчык не думаў, куды бяжыць і навошта, проста яму было цікава бегчы па дарозе і лялякаць сабе пад нос.

Апошнім крочыў стары чалавек. Яму было цяжка ісці, ох, як цяжка пераставляць старыя ногі, якія ўжо столькі прайшлі, і, каб не малады мужчына, стары даўно ўпаў бы, ён прайшоў бы намнога менш па гэтай бясконцай дарозе.

А мужчына быў здаровы і спрытны. Але і яму было цяжка: глядзі, не спускай вачэй з хлопчыка, каб не зблудзіў, старому ўвесь час дапамагай. Стомлены мужчына часта выціраў рукавом пот з твару, калі-нікалі да яго прыходзіла думка, што сам мог бы прайсці больш і шпарчэй, але ў тым жа і замінка, што побач былі стары і малы.

Скажы мне, якое пытанне задасі лектару, расказаўшы мой сон: чаму малады здаровы мужчына не мог кінуць старога і малога ці для цябе будзе цікавей такое пытанне — навошта яны ішлі, куды...

І тут я адчуў, што спавіты нечым нябачным і тугім, спавіты так, што і не паварушыцца. І яшчэ адчуў, што тая свабода, якою так ганарыўся, адыходзіць ад мяне, адлятае, нібы птушка, да некага другога, магчыма, таго, хто зрабіў у гэты час першы крок і засмяяўся без прычыны.

Тады я ўстаў з лаўкі:

— Што ж, пайшлі.

— Куды? — спытаў стары.

— На бераг мора.

— А лектар і дзяўчына? — здзівіўся ён.

— Мы не пойдзем сёння на лекцыю, мы пойдзем на яе пазней, магчыма, заўтра, а сёння мы паспяшым на бераг мора, будзем доўга плаваць, а тады ляжам у гарачы пясок і, прыжмурыўшы вейкі, будзем глядзець, як зямля пачне падымацца вертыкальна ўгору...

І тут ён заплакаў, у каторы ўжо раз за гэты дзень, але цяпер па-новаму, і падаў мне руку, на якой вены тоўстыя і доўгія, як карэнні старога, але яшчэ моцнага дрэва.

Мы выйшлі з пакоя — ззаду, за спінамі, астаўся паўзмрок і шэрасць. І ўдарыла сонца ў вочы, мы прыжмурыліся і засмяяліся — заўсёды так: калі многа сонца, трэба прыжмурыцца.

# ДВОЕ І АСТАТНІЯ

Чалавеку трэба гаварыць — гэта яго права, а мо і абавязак, не ведаю дакладна, але мяркую па сабе. Гаварыць — лепш, чым маўчаць. І зразумей правільна, не хачу абвінавачваць цябе, а сябе апраўдваць, гэта лягчэй за ўсё, як лягчэй за ўсё адкупліваць грахі малітваю. Калісьці чуў, існуе ці існаваў у адной краіне цікавы звычай: у канцы тыдня людзі ідуць у царкву і каюцца. Разумееш, не сабе, а ўслых яны бубняць і просяць служку альбо бога — якая для іх розніца? — прабачыць, адпусціць грахі: хлусню і жорсткасць, ленасць, баязлівасць. Ім прабачаюць — радуюцца людзі, выходзяць і смяюцца: цяпер ім лягчэй жыць. Як гэта проста.

Дык вот, не спадзяюся я, што таксама палягчэе, ды і, відаць, не варта, каб лягчэла, бо праз усё я павінен прайсці, як і ты павінна, і мы тут нават мо і не вінаваты...

Памятаеш, ты сказала: «Астанься»,— і я астаўся. Мо тады і ўзнікла між намі тое лішняе, што праз многа-многа дзён выльецца ў патокі слоў, нікчэмных і калючых, прымусіць ісці ў адзіноце па вуліцы і слухаць, хто чым заняты: там купілі новы гарнітур, а там паехалі ў камандзіроўку... Відаць, ты таксама памятаеш той дзень, калі я, хаваючы позірк, гладзіў твае валасы — мая рука ляжала на тваёй галаве, і вусны твае былі побач, нават не трэба

было паварочваць галавы,— памятаеш, калі нечакана ўпершыню адчулі, што нам патрэбна слова, але якое? І мы маўчалі, здзіўленыя. Не, гэта было не тое маўчанне, калі думалася, як усё дзіўна: і твой твар, і гэты столік з кветкамі, і чырвонае віно ў крыштальным графінчыку, і само маўчанне, і пагляд у другія вочы, у якіх бачыш адзінае — няўжо праз сотні, тысячы стагоддзяў нічога гэтага не будзе?..

У той дзень, калі мы глядзелі адзін аднаму ў вочы і там, як у крывых люстэрках, бачылі сябе, разгубленых і ціхіх, мы нечакана схамянуліся — трэба было ратаваць тое, што было між намі, што звязвала нас і яднала. І тады табе нічога не заставалася, як сказаць: «Што ж, ідзі, калі цябе чакаюць». І ў тваім «ідзі, калі цябе чакаюць» быў папрок, яшчэ не рэўнасць, не, адзін папрок усяму, што забірала мяне ад цябе. Вось з гэтага дня патрэбна пачынаць, калі ты сказала «Астанься». А можа, і раней...

Спачатку мы хацелі адзіноты. Так-так, пабыць у адзіноце. І мы таго дабіліся: гучала музыка, і хрыплаваты мужчынскі голас спяваў на незнаёмай мове песню, а якую — невядома... Гэтыя музыка і песня былі нашы. Чырвонае віно, спакой і словы — нашы. Воблакі і сонца, апушчаныя з берага ў рачулку босыя ногі, шчыпучы халадок, бы вада пілавала ногі і там, пад вадою, ногі нам не належаць,— але ўсё гэта наша, толькі наша. І калі не верылася, а мо не...— тады цягнулася рука да другой рукі і гладзіла яе, смяяліся радасна вочы, не, усё наша. І пасля ціхія да раніцы размовы, белае цела, загорнутае ў цемень, далонь, што, уздрыгваючы, гладзіць плечы, гарачыня, забыццё, і зноў, і зноў, як са дна ракі на паверхню ў спякотны дзень, жоўтая поўня за акном, мокрая бліскучая трава, па

якой ланцугом цягнецца нечы след,— таксама наша.

Мы, наіўныя, думалі, што так павінна быць заўсёды: спачатку мы, а потым людзі — тым горш для нас. Прамовіўшы: «Застанься»,— ты мо і не хацела благога, хацела адзінага: зберагчы спакой, а выйшла — разбурыла. І тут цябе нельга вінаваціць — няма пакуль падручнікаў жыцця і навучыць таксама нельга, ты спрабавала зберагчы тое, што было: і чырвонае віно, і хрыплаваты голас, што спяваў песню, і воблакі, і сонца, і халадок, і поўню...— табе здавалася, што самы просты шлях — слова, звычайнае ціхае слова. Адкуль табе, ды і мне таксама, было ведаць, што гэта слова можа загубіць.

Як мне здаецца, мы спрабавалі падпарадкаваць сабе тое, што нам не належыць і не можа належаць,— ты добра памятаеш, я тады астаўся ля цябе, я не мог цябе не паслухаць, а ў думках быў у дарозе, ля тых людзей, якія мелі ўва мне патрэбу. Адкуль нам было ведаць! Як малыя дзеці не думаюць пра пытанні, якія хвалююць дарослых — у дзяцей сваё кола пытанняў,— так і мы лічылі, што ўсё павінна было быць простым і ясным, як на паштоўках, якія ўкрадкай прадавалі калісьці ў цягніках, памятаеш: два прыгожыя без маршчын твары адзін насупраць другога, голуб уверсе трымае ў дзюбе ліст і надпіс-пажаданне... Мы нават і не задумваліся ў першыя імгненні пра астатніх, тых, якія прымусілі ахвяраваць асабістаю свабодаю і пачуццём да блізкага чалавека. І мы спачатку спрабавалі гэтага не рабіць.

Цяпер паслухай, што з гэтага сталася: спачатку папрокі ў тым, што з другімі мне цікавей, чым з табою. Я спрабаваў апраўдвацца — і зноў усё тыя ж словы, словы, словы...— але не змог, заблытаўся і замаўчаў. Тады мо ўпершыню падумаў, што калі б

9 Зак. 2407

мы змаглі поўнасцю расказаць адзін другому свае думкі і пачуцці, сталі б самымі шчаслівымі людзьмі. Чым больш думаў, тым больш здзіўляўся, як з сябе, так і з іншых: колькі жорсткасці, злачынстваў і забойстваў адбылося толькі з-за таго, што чалавек не разумее чалавека. Зразумей, я не збіраюся сказаць, што чалавек разумее сябе: зразумець сябе і бліжняга — дзве розныя рэчы, ды і ці можна зразумець сябе?..

А калі ўсё ж лічыць, што я кажу няпраўду, што слова і пачуццё адно і тое ж, то астаецца адзінае: спіхнуць усе трагедыі чалавецтва, ад кап'я да вадароднай бомбы, на прыроду, як на шэрага воўка, і развесці ў бяссіллі рукамі.

Пасля ты многа гаварыла пра эгаізм і чэрствасць.

Ведаеш, сказаўшы мне апошняе слова, ты як рукамі ў грудзі піхнула, я нават разгубіўся і не змог нічога адказаць, а толькі глядзеў на твой твар — запамятаў вузкія палоскі чырвоных вуснаў, прыжмураныя злыя вочы і больш нічога, быццам вусны і вочы належалі розным людзям. І пасля, калі крочыў у адзіноце па вуліцы, и думаў, што тое слова табе ніколі не прабачу, слова прыносіла мне боль, бы загнаная ў цела стрэмка. Але цяпер, праз гады, успамінаючы тыя імгненні, я думаю вось пра што: калі б хто іншы назваў мяне эгаістам, ды нават і ты, толькі ў іншы час і другім тонам, я зусім бы не абразіўся, а мо нават бы і засмяяўся. Зразумей, назваўшы мяне ці яшчэ каго эгаістам, мы нічога не мяняем, больш цікавей прагледзець прыроду эгаізму, і тут, магчыма, развядзеш рукамі...

Што прымусіла нас спачатку кахаць, а потым ненавідзець?

Эгаізм, пра які ты так многа гаварыла? Мо правільней было б пачаць з яго, а потым пра цішыню,

спакой, гарачыню і забыццё?.. Ці прыходзіла табе думка, што каханне — той жа эгаізм. Каго кахаем у каханні: сябе ці іншага?..

Разумееш, пра што хачу сказаць? Мы кахалі да таго часу, пакуль нам было добра — табе і мне. І пасля ўжо, калі я вымушаны быў пакінуць цябе на час у адзіноце, ты за гэта пакрыўдзілася.

А мо ўсё не так. З самага пачатку не так. З самага пачатку мы не ведалі, што нам трэба, мы былі як тыя сляпыя, якіх я паказваў табе на малюнку: успомні — я прынёс дадому малюнак, што купіў у магазіне,— некалькі сляпых, трымаючыся за рукі, ідуць па зямлі, не разбіраючыся, дзе дарога, дзе — не, перад імі не то канава, не то абрыў, пярэдні падае ўжо, нахіліўшыся, а за ім з усмешкаю на твары праз імгненне будуць падаць астатнія, бо ўсе трымаюцца за рукі... Толькі розніца між намі і сляпымі ў тым, што мы трымаліся за асабістыя пачуцці, а калі іх не стала, вымушаны былі разысціся, так і не зразумеўшы, навошта, дзеля чаго былі разам.

...Другі вечар сяджу ў тым самым кафэ, усё той жа хрыплаваты голас спявае на незнаёмай мове песню, а якую — невядома, чырвонае віно наліта ў белы крыштальны графінчык і стаіць на маім століку, знешне ўсё асталося такім жа, як і многа год назад, толькі цяпер я пытаю, дзе тое няўлоўнае, той настрой незвычайнасці і заспакоенасці? Чагосьці не хапае ў кафэ, зноў і зноў я думаю пра цябе, пра тыя вечары, калі мы тут сядзелі,— здаецца, мы тут і не былі ніколі, а нехта іншы, і мы толькі праз вокны назіралі. Гэта думка ўзмацняецца яшчэ і тым, што, калі б так здарылася — уяві на хвіліну,— каб мы цяпер сядзелі побач за белым столікам, тады б я добра ведаў, што ты — гэта ты, і пальцы маёй рукі зусім бы не цягнуліся да тваёй рукі.

Перабіраючы ў памяці апошнія дні сумеснага жыцця — так перабіраеш фотаздымкі ў сямейным альбоме,— я лічу, што мы хацелі знайсці выйсце: зноў стаць блізкімі і дарагімі — і шукалі яго з дапамогаю слоў, не разумеючы, што позна. І розумам тут не дапаможаш, таму так хутка памыляліся: пачыналіся папрокі, якія хутка заканчваліся спрэчкамі. Па-мойму, тут нельга вінаваціць цябе ці мяне, калі хто і вінаваты — абое. Пасля, як сталі жыць разам, паняцце аднаго губляла сэнс, і лепшае, чым маглі закончыць,— разысціся. Ні ты, ні я не захацелі хлусіць у пачуццях, якіх, відаць, ужо і не было.

І зноў пачуцці. Як іх многа! Пачуцці да сябе, да блізкага, да людзей. Якое з іх важней, якое даражэй?

Як заўсёды, ты можаш спытаць, навошта гэты ліст, калі ўжо ўсё скончана і дарогу ў мінулае знайсці цяжка. Безумоўна, пры жаданні я змог бы прыдумаць прычыну і напісаць, што, маўляў, таму і таму пішу, прашу прабачыць... Але навошта хлусіць?

Апошнім часам успамінаю нашы дні, і прыходзіць думка, праўдзівей, жаданне выказаць услых ці на паперы, пра што думаецца, і гэтаму жаданню не магу знайсці тлумачэння, як не ведаю, чаму менавіта табе, а не іншаму чалавеку хочацца ўсё выказаць. Не трэба блытаць гэта жаданне з тым, якое прыходзіць да чалавека пры ўспаміне аб маладосці: там лёгкі сум і заспакоенасць, якія прыносяць новую асалоду, асалоду ўспамінаў. Не, у мяне нешта не так, і, магчыма, за ўсім гэтым крыецца новае пачуццё, але пра гэта, як ты бачыш, цяжка гаварыць, бо акрамя пачуццяў ёсць яшчэ і абавязак. Абавязак перад сабою, перад блізкімі, перад людзьмі. І ніколі пра гэта не трэба забываць. І як доказ — наша сумеснае жыццё і наша расставанне.

# МЯЖА

Запрашаю разабраць сітуацыю, у якой нядаўна апынуўся Антонаў — прыкладны сем'янін, член прафкома навукова-даследчага інстытута, без пяці хвілін кандыдат матэматычных навук. Для больш поўнага і, як скажа шаноўны крытык, рэальнага ўяўлення можна сказаць, што чалавек ён ціхі і спакойны, яшчэ не заплыў тлушчам, але ўжо і не спартсмен-разраднік з белым шыракаватым тварам, на якім позірк спакойных, як бы затуманеных вачэй сведчыў, што ў гэтага чалавека было юнацтва, захапленне другім чалавекам — нешта, што прынята называць каханнем,— потым жаніцьба, а з ёю заспакоенасць і ціхае таемнае жаданне згубіць гэту заспакоенасць... Карацей, калі вам ужо ля трыццаці пяці і вы жанаты, паспрабуйце ўявіць на месцы Антонава сябе і дапоўніць вобраз тымі рысамі характару, якія ёсць у вас. Калі я не памыляюся — жаніцьба прынесла вам шчасце, поўнае і абсалютнае, то нічога не змагу вам параіць, акрамя адзінага: адкласці твор убок...

Пачнём з таго дня, таго звычайнага знаёмства, якое адбылося, калі Антонаў ехаў да знаёмых у вёску: народу было процьма, і, праціскаючыся ў аўтобусе, лепей уладкоўваючыся, Антонаў нечакана заўважыў побач дзяўчо — невялічкае, з тонкай шыяй, вірлавокае, як бы здзіўленае нечым і таму ці-

хае. Сам не ведаючы чаму — мо так многа было твараў, гоману, таўхатні, а мо з-за гэтага задумленага здзіўленага погляду,— Антонаў сказаў:

— Якая прыгожая дзяўчынка! І ў якім жа ты класе?

У адказ пачуў ціхае, з затоеным гонарам, як уздых:

— Я ўжо студэнтка.

Тады ён рашыў жартаваць і стаў гаварыць. Па яе вачах бачыў, што яна ад усёй душы паверыла хітраспляценню слоў пра загінуўшыя цывілізацыі, якія быццам ён, Антонаў, як гісторык адкрыў недалёка ад горада, праводзячы раскопкі,— перад сустрэчаю з дзяўчынкай, днём, Антонаў выпадкова прачытаў кніжку пра верагоднасць існавання на зямлі высокаразвітых цывілізацый, якія нечакана і амаль бясследна зніклі: ці то паляцелі за прыгажосцю на другія планеты і галактыкі, ці то пасля вялікага роздуму спалілі сябе бомбамі,— так што перад дзяўчынкай ён адчуваў сябе прафесарам, а то і акадэмікам гісторыі і на свой дыплом матэматыка мог спакойна махнуць рукою.

Яна глядзела на яго адкрытым і спакойным позіркам — заўважаць тут было нельга, тут можна было толькі адчуваць,— як глядзяць у задуменні з берага рачулкі на ваду, што бясшумна праплывае міма: гойдаюцца хвалі, калі-нікалі слабы ветрык наганяе маршчыны на паверхні,— не ведаючы, чаму і навошта, глядзіш на ваду і забываеш, што перад табою толькі вада, тыя малекулы і атамы, якія ў сваім спалучэнні мірыядамі праносяцца міма, і ты ім абыякавы, і твой спакой, і твае думкі, і наогул, што агульнага між табою і імі?..

Мінуў год.

І зноў быў аўтобус, і зноў былі людзі, якія націснулі збоку, адпіхнулі ад рада крэслаў,— Антонаў

праціснуўся да другога, дзе вальней, і тут убачыў яе, як назваў упершыню, дзяўчынку: сядзела ля акна чалавек праз восем. Яна адразу ж яго пазнала. Калі Антонаў заўважыў дзяўчынку, яна ўжо разглядвала яго. Сустрэўшыся позіркамі — у гэтым было нешта матэрыяльнае, быццам яны ўзяліся за рукі,— дзяўчынка ўсміхнулася; як бы новае больш яснае святло асвяціла яе твар у гэты надвячорак, а так нічога не змянілася: ні вусны, ні шчокі — усё аставалася, як і было.

Антонаў усміхнуўся таксама, відаць, усмешка выйшла казённа-разгубленай, бо ён і не чакаў пабачыць дзяўчынку, тлумачыў, што нічым добрым гэта не скончыцца, яшчэ адно расчараванне, а потым іх, магчыма, ужо і не будзе, бо калі не будзеш спадзявацца, то і не будзеш расчароўвацца, а так, не сустракаючыся, можна хоць у думках спадзявацца, але на што спадзявацца — ніводзін чалавек на свеце не змог бы растлумачыць Антонаву, не гаворачы ўжо пра самога сябе. Антонаў пасля, праз гады, як староннi, быццам усё гэта прыснілася, даволі часта ўяўляў: вот ён паварочваецца, прабіраецца ў гуле аўтобуса праз хвіліны і секунды, што адлічвае стрэлка гадзінніка на ягонай руцэ — дзіўна, тады ён чамусьці заўважыў і запамятаў, колькі было гадзін: пятнаццаць хвілін шостай,— і тут дзяўчынка бачыць яго: потнага, у расшпіленым паліто, са злосным выразам твару...

Антонаў кіўнуў ёй галавою, адвёў позірк ад твару, каб праз хвіліну зноў глядзець, як піць ваду засмяглымі вуснамі, не адчуваючы спярша, якая яна, цёплая ці халодная. Дзяўчынка глядзела на яго, і ў яе позірку не было той ілжывай шматзначнасці, калі дарослыя мала знаёмыя, а то і зусім не знаёмыя мужчына і жанчына глядзяць адно другому ў вочы. І тады Антонаў падумаў, што за гэты

прамежак часу — калі часам лічыць тыя імгненні, якімі ён думаў пра яе, чакаў і баяўся сустрэчы — чаканне і боязь спляталіся ў нешта адзінае, не падобнае ні на чаканне, ні на боязь, і яшчэ тое, чым запаўняў прамежкі між тых імгненняў: работа, адпачынак. Дарэчы, пасля таго, калі ён сказаў у здзіўленні: «Якая прыгожая дзяўчынка! І ў якім жа ты класе?» — ягоная кандыдацкая, не тая, пра якую ён красамоўна гаварыў, а сапраўдная, якую ён і сапраўды пісаў, больш не пісалася, хаця ён садзіўся вечарамі за пісьмовы стол і раскрываў перад сабою кнігі, раскладваў чыстыя лісты паперы, на якіх павінны былі красавацца рады літар і знакаў ад мінус бясконцасці да плюс бясконцасці,— абавязкі перад жонкаю і сынам, бадзянне па вуліцы і разглядванне адзення, бледных у святле рэклам і вітрын, твараў, заклапочаных, злых, абыякавых,— то тады ўсё на месцы, усё правільна: на свеце ёсць час і ёсць прамежкі часу — дзяўчынка яшчэ не змянілася, яна аставалася той дзяўчынкай, якую ўбачыў год назад.

І тады ўсё апала ў ягонай душы: і трывога, і таўхатня, і шум, і ціктаканне гадзінніка, быццам ён тут і не стаяў ніколі. Антонаў глядзеў на дзяўчо застыўшы, як у тое імгненне, што, нарэшце, па чароўнаму загаду спынілася ў прасторы і часе, глядзеў на яе твар, як праз акно на зялёны луг, па якім у сонечны дзень бягуць басаногія хлопчыкі і дзяўчаткі і размахваюць над галовамі сарочкамі і майкамі, як сцягамі.

А потым аднекуль здалёк, як з іншага свету, прыходзіла думка, што трэба адвесці позірк, і ён згаджаўся, а затым зноў мімаволі глядзеў на яе твар і тут стаў заўважаць сінія кругі пад вачыма, праўдзівей, спачатку ён заўважыў кругі, а потым ужо і вусны, і вочы...

Аўтобус спыніўся, Антонаў вылез, адышоў крыху ад супынку і стаў чакаць, калі падыдзе дзяўчынка.

З вялікаю спартыўнай сумкай у руцэ, перагнуўшыся крыху набок, яна памалу набліжалася. Усміхаючыся, Антонаў узяў сумку.

— Як жыццё прыгожанькай дзяўчынкі? — трэба было прадаўжаць тую гульню, якую пачаў год назад і на якую яна згадзілася, хаця б, калі ведала, што з ёю гуляюць, яна б ніколі не згадзілася, бо не разумела, што з закрытымі вачыма спрабуе злавіць чалавека ў светлым сонечным пакоі: Антонаў жартаваў, а яна прымала жарт за праўду, ён і не спадзяваўся на яе адкрытасць, а яна лічыла нормай — казаць незнаёмаму чалавеку, пра што думаецца і што хвалюе, проста казаць, а не разлічваць, якое ўражанне будзе ад яе слоў.

— Сягоння здала сесію, апошні экзамен...

— Ну як — стыпендыя будзе?

— Стыпуха будзе.

І яго ўкалола «стыпуха»,— ён здзівіўся, і здзівіўся не таму, што так хутка яна змянілася і што ён памыляўся, калі думаў пра яе некалькі хвілін назад, а таму, што так хутка могуць закончыцца ягоныя ваганні: і чаканне, і боязь... Цяпер яна разумела яго, і калі б у гэты дзень яны пазнаёміліся, яна б ніколі не паверыла ў загінуўшыя цывілізацыі, ні ў якім разе не стала б скардзіцца на сваё сэрца і ўжо ніяк бы не сказала, што калі знікне, то, ёй здаецца, знікне і ўвесь свет: і людзі, і трава, і сонца — таму яна не можа знікнуць... О-о, не, цяпер яна такое ніколі б не сказала!

— І далёка дзяўчынка ездзіла летам? — ён яшчэ спадзяваўся, што памыляецца.

— Дзяўчынка ездзіла з будатрадам на Поўнач — там яна кухарыла, прыгожым хлопчыкам га-

тавала стравы, а потым трапіла ў дом адпачынку — адпачывала на зароблены грошы.

Яна казала тое, што можна было казаць, яна прыняла ўмовы яго гульні, і ад гэтага гульні не стала — цяпер яны былі абое з адкрытымі вачыма. Тады Антонаў замаўчаў, і гэта было найлепшым, што можна было зрабіць.

А пасля, перад самым развітаннем, сказаў ціха:

— Ты змянілася, стала дарослай.

Яна нічога не сказала. Потым, калі брала з рук сваю сумку, яны глянулі адзін аднаму ў вочы — ён зноў убачыў тых хлопчыкаў і дзяўчатак, што беглі лугам да ракі і махалі над галовамі сарочкамі і майкамі, як сцягамі. Ён стаяў, а яны беглі, усё далей і далей. І тут Антонаў падумаў, што зрабіць, каб яны не зніклі ці хаця б спыніліся ў сваім бегу. І нічога не змог прыдумаць.

Цяпер яму стала ясна, што, відаць, усё скончана і ён зноў будзе спакойны і ўраўнаважаны, ніколі не забудзе, калі сказаць «да пабачэння», калі «дзень добры», а калі «прабачце», і ягоная кандыдацкая, да вялікай радасці жонкі, будзе пісацца кожны вечар — перад вачыма паўставалі лісты спісанай паперы, і за імі знікалі дзеці, што з крыкам махалі над галовамі адзеннем, і ён амаль іх не бачыў, бо ўсё станавілася на сваім месцы, як вада, што зацякае ў берагі пасля паводкі і крыгаходу.

— Што ж, бывай,— сказаў Антонаў дзяўчынцы,— не памінай ліхам.

Але яна не адыходзіла, стаяла, нахіліўшы галаву, а потым ён убачыў слёзы:

— Я не вінавата, гэта час...

«А што такое — час?» — ледзь не крыкнуў ён, матэматык, і яшчэ раз паспрабаваў параўнаць тыя імгненні, калі сярод гулу, шуму і таўхатні глядзеў

на сінія кругі пад вачыма, і год, калі чакаў і баяўся сустрэчы.

...Вечарам, як зусім сцямнела, Антонаў выйшаў з хаты на вуліцу і пайшоў да яе дома на край вёскі. Была адліга, апошнія дні запар свяціла сонца, ночы былі цёплыя і туманныя, здавалася, ужо вясна, але на самай справе была толькі сярэдзіна зімы. Хата, дзе жыла дзяўчынка, стаяла на беразе ракі, і Антонаў, падыходзячы да хаты, чуў, як плывуць, чапляючыся адна за адну і за бераг, крыгі — бы шкрабаў хто кіпцюрамі па дрэве. І пасля, зноў жа праз гады, Антонаў будзе ўспамінаць тую цёмную туманную ноч, увесь той вечар, калі быў як п'яны і рабіў тое, што ні дагэтуль, ні потым нічога такога падобнага не рабіў, нават сама думка зрабіць нешта падобнае паказалася б яму смешнай.

Антонаву хацелася ўбачыць дзяўчынку і цяпер, калі добра ведаў, што яна разумее яго, хацеў расказаць пра сябе, але не так, як даўней — жартуючы, быццам смеючыся з сябе,— а па-іншаму, бо адчуваў, што губляе нешта ў сваім жыцці, становіцца другім, не такім, якім быў раней. І яшчэ ён добра ведаў, калі раскажа пра сябе, калі не здолее схлусіць, стане лепшым. Атрымлівалася дзіўная рэч, быццам яны памяняліся месцамі: яна ўсё бачыла, а ён з закрытымі вачыма спрабаваў злавіць яе ў светлым сонечным пакоі.

Антонаў яшчэ не ведаў, пра што пачне гаварыць і якім чынам пазаве дзяўчынку на вуліцу, у гэту цемень, шорганне крыгаў і пах вясенняй вільгаці, але, адчуваючы патрэбу выказацца, ён падышоў пад самыя вокны. У хаце гарэла святло, і свяціўся тэлевізар — быў звычайны для ўсіх людзей вечар.

Антонаў збіраўся пастукацца ў чужое жыццё. Толькі цяпер ён гэта зразумеў, падумаў, ці можна ўмешвацца ў жыццё другога чалавека?

Антонаў стаў уяўляць: вот яна выйдзе і ён усё раскажа. А што можа расказаць чалавек чалавеку: крыху надзеі і крыху мары, крыху мінулага і крыху будучага, ён паспрабуе звязаць мінулае і будучае ў адно і ў гэты час пастараецца забыць пра сваё адзіноцтва, бо для таго ён, не Антонаў, а ўвогуле чалавек, расказвае, каб падзяліць сваё адзіноцтва на дваіх, а то і на ўсё чалавецтва...

Якое права мае Антонаў на гэту дзяўчынку? Ён зноў стаў думаць, ці мела яна рацыю, калі сказала:

— Я не вінавата, гэта час...

Справа не ў тым, што даўжэй: імгненне ці хвіліны, і нават не ў тым, што цяпер ён думае, што здарыцца, калі... А раней ён спачатку паклікаў бы дзяўчынку і расказаў пра сябе, а потым ужо думаў ці глядзеў на вынікі слоў сваіх. І нават не ў тым, што недзе дома яго чакае маленькі хлопчык і ён, Антонаў, павінен быць ля яго, а ўсё ў тым, што Антонаў надумаў пераступіць мяжу, якую і не мог пераступіць. Магчыма, гэта зрабіў бы нехта іншы, але не Антонаў, бо калі б Антонаў мог такое зрабіць, не было б у ягонай душы чакання і боязі, што спляталіся ў нешта адзінае, а было б ці чаканне ці боязь, ды і потым, праз гады, Антонаў не закончыў бы кандыдацкую і не ўспамінаў бы пра гэты вечар, як пра нешта незвычайнае, да чаго наблізіўся і стаў у здзіўленні,— аставалася зрабіць адзін рух, і ўсё асвяцілася б новым святлом, як твар дзяўчынкі ў час усмешкі: усё астаецца такім жа, толькі святло...

Усё гэта было так, як глядзіць чалавек з карабля на не вядомы яму востраў, пра які марыў яшчэ з маленства і да якога дабіраўся цэлыя гады. Вось яму трэба садзіцца ў лодку і плысці ў адзіноце да берага, а карабель у гэты час паплыве ў сінечу і ніколі не вернецца. І невядома, як яно там будзе:

першая ноч, першая сустрэча і першая сляза па ўтульным, абжытым, навек пакінутым доме...

І ён нічога не мог зрабіць — адступіў і пайшоў. Міма хлопчыкаў і дзяўчатак, што беглі па лузе з крыкамі да ракі і махалі над галовамі адзеннем, як сцягамі, міма самога сябе, таго, што быў у сваіх марах. Ён проста збаяўся. Чаго?

ЗМЕСТ

На белорусском языке

ВАСИЛИЙ СЕМЕНОВИЧ ГИГЕВИЧ

**Спелые яблоки**

Рэдактар А. Г. Масарэнка. Мастак А. Ул. Жалдакоў. Мастацкі рэдактар А. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар З. Г. Сень. Карэктар Н. А. Соціна.

АТ 10504. Здадзена ў набор 13/V 1975 г. Падп. да друку 7/I 1976 г. Тыраж 7000 экз. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера афс. № 1. Ум. друк. арк. 5,8. Ул.-выд. арк. 5,79. Зак. 2407. Цана 23 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

**Гігевіч В.**

Г Спелыя яблыкі. Апавяданні. Мн., «Маст. літ.», 1976.

144 с.

Роздум над жыццём свайго сучасніка, яго радасці, трывогі, неспакой — усё, без чаго немагчымы наш імклівы час, прыцягвае ўвагу маладога пісьменніка. Яго апавяданні вызначаюцца псіхалагічнай напоўненасцю вобразаў, выразнасцю думак.

**Г $\frac{70303\text{-}036}{М\ 302(05)\text{-}76}$ 30-76** **Бел 2**

Васіль Гігевіч змяшчаў свае творы ў часопісе «Маладосць», зноў у «Полымі».

Галоўнае, што вызначае творы Васіля Гігевіча,— імкненне аўтара па-свойму глянуць на жыццё, разабрацца ў яго складанасці і мнагастайнасці, паказаць рэчаіснасць у многіх яе вымярэннях.

Васіль Гігевіч належыць да таго пакалення, якое нарадзілася пасля вайны, жахаў самой вайны не ведала, але рэха яе яшчэ вельмі моцна гучала ў пасляваеннай рэчаіснасці. І ў творах Васіля Гігевіча знаходзіць адбітак той час. Пісьменнік стварае яркія вобразы сваіх аднавяскоўцаў, малюе карціны пасляваеннага жыцця.

Праз бясконцае, шматфарбнае жыццё ідуць героі Васіля Гігевіча, шукаючы адказу на такія, здавалася б, простыя пытанні: «...адкуль, навошта і чаму?». Яны ўпэўнены, што толькі самі павінны знайсці адказ на самае галоўнае.

Героі Васіля Гігевіча вельмі чулыя да чалавечай болі, шчыра спагадаюць людской бядзе, яны імкнуцца жыць па самых строгіх маральных прынцыпах, каб апраўдаць высокае прызначэнне на зямлі — быць чалавекам.

ЛІДЗІЯ АРАБЕЙ